# ЗЬМЕСТ

# Раство і Каляды

Мы паспяхова выдалі тры нумары: Першы, Цэнзурны і Фантастычны. Чацвёрты ўжо ў друкарні – чакае свайго часу, і мы вырашылі зазірнуць наперад і стварыць часопіс, тэксты якога прысвечаныя светламу святу – Калядам, калі ўвесь свет радуецца і цешыцца, спявае і слухае песні, абдымае сваіх любімых і адкаркоўвае шампанскае, ці грэе далоні кубкам з глінтвейнам. Ідэя нумара невыпадковая, яна лунала ў паветры, і гэтай шарай парою калі мы нешта і можам, то дарыць адно аднаму цеплыню і шчырасць.

Калядны нумар не будзе, нягледзячы на такую «святочную» тэматыку, простым – «Мінкульт» працягвае існаваць як часопіс альтэрнатыўны, з адценнем панкаўскай эстэтыкі, таму шмат тэкстаў будуць кранацца розных пачуццяў і адценняў жыцця: сум, неўладкаванасць, надзея, любоў, чаканне…

Часопіс супраць цэнзуры, супраць любых камітэтаў, якія спрабуюць кантраляваць мастацтва.

У кожнага нумара ёсць свой пісьменнік з падвокладкі: Букоўскі з бутэлькай, Хэмінгуэй з кубкам, Філіп Дзік у матрыцы, Джордж Оруэл у балаклаве. На Калядным часопісе Дыкенс напалмам паліць елку: гары яно гарам, як гавораць беларусы.

*© Сяргей Календа*
*Мінкульт 2021*

# АЛЕСЬ АРКУШ

## ЖМЕНЯ МАНЕТ НА ДНЕ ПУСТОГА АКВАРЫУМА

НЕ ЗАБУДЗЬ ПАКАРМІЦЬ РЫБАК

Я пакарміў рыбак і выйшаў на вуліцу. Карміць рыбак і выходзіць з хаты, каб ехаць на працу, я мусіў рабіць амаль штодзень, за выключэннем нядзелі. Рыбак я завёў не дзеля прыгажосці. Пачуццё, якое перыядычна табе нагадвае, што хтосьці цалкам залежыць ад тваёй сціплай асобы, не дае расслабляцца. «Адказнасці – вось чаго не хапае сучаснаму чалавеку», – неяк падумалася мне. Чалавек у наш час не жадае ўскладаць на сябе якія-кольвечы другасныя клопаты. Вельмі проста зачыніцца ў сваім экзістэнцыяльным пакойчыку і ўслухоўвацца выключна да капрызлівага тахкання ўласнага сэрца. Падобнае эгаістычнае самотніцтва – як наркотык. Да яго прызвычайваешся. Ні перад кім ні за што не адказваць – вось ягоны дэвіз. Гуляць па сваіх правілах, а сваё хваравітае ўяўленне здаваць у бестэрміновую арэнду ўласным неўтаймоўным жаданням.

Чалавек мусіць навучацца адказнасці гэтаксама, як хадзіць, чытаць альбо граць на музычным інструменце. Як чысціць зубы або вадзіць аўто. Як лупіць бульбу або плаваць. Паспрабуйце ўявіць узорнага віртуоза адказнасці. Гэткага «Співакоў плюс Башмет» у адной асобе. Згадзіцеся, складана. Паўстае праблема запатрабаванасці. Ці патрэбны сам сабе Башмет са сваім віртуозным валоданнем альтам? Незразумелае пытанне? Добра, уявім наступную карцінку: шаноўны маэстра ўладкоўваецца з музычным інструментам дзе-кольвечы на самоце – ці то на ўласнай кухні, ці то на ганку лецішча, – прымружвае вочы ў прадчуванні выкшталцонай асалоды і з поўнай аддачай жарсцяў душы тварыць музычныя цуды. Выключна дзеля ўласнага жадання і па ўласнай замове – ніяк інакш. Цяжка ўявіць? Вось і я аб тым жа. *Бо навошта так высільвацца-ўдасканальвацца адно дзеля сябе?*

Падобныя развагі і прывялі мяне да наступнай думкі: безадказнасць – наўпросты шлях да безаблічнасці і шэрасці. «А за што адказвае твой Башмет?» – спытаеце вы мяне. *За музыку.* Увогуле, прыклад з Башметам не зусім удалы. Патрапіў пад руку, трэба прызнацца, выпадкова. Не ведаю й чаму. Магчыма, нядаўна пабачыў расійскага маэстра на тэлеэкране й вобраз музыкі затрымаўся ў падсвядомасці. Дарэмна я яго прыводзіў. Далей

размова пойдзе пра іншае, прынамсі не пра музыку. Дый і не зусім пра адказнасць.

«А твой Башмет, кажуць, найпаганейшы чалавек! – эмацыйна далучаецца да размовы яшчэ адзін апанент. – І ніякая адказнасць яму не дапаможа…» Так заўсёды бывае: калі вымавіш нейкую думку, абавязкова знойдзецца ёй працяг. Я пачынаю бязгучна лічыць да дваццаці. Мне зусім не хочацца спрачацца. Любое капанне, разбіранне і паглыбленне толькі псуюць справу.

Са словам «дваццаць» зніклі ўсе мае апаненты і я апынуўся на вуліцы вялікага горада. Да аўтобуснага прыпынку яшчэ далекавата, а на дарозе ўжо паказаўся мой 62-гі нумар. Я стаў на бардзюрны камень і ўзняў руку. Параўняўшыся са мной, аўтобус павольна спыніўся і гасцінна бразнуў дзвярыма.

## МЯНЕ НЕ ЦІКАВІЦЬ СЮЖЭТ, МЯНЕ ЦІКАВЯЦЬ ДУМКІ

Да пачатку эфіру было дзве гадзіны. Ва ўсіх кутках рэдакцыі панавала разняволенасць. З прыбіральні даляталі абрыўкі размовы курцоў.

– Ды не так гэта было!..

– Так, не так, але ж было!..

Перыядычна, нібыта адмысловыя квадры месяца, надыходзіць час, калі ты робішся мяккім і падатлівым, як пластылін. Гэта вельмі адказны час, і да яго варта рыхтавацца, каб ён не заспеў цябе знянацку. Так не бывае, каб пасля тых гадзін, калі губляюцца твае ранейшыя форма і змест, ты з'яўляўся б гэткім жа, як быў надоечы. Спадар Час абавязкова пакіне свае адмеціны. Трэба ўмець карыстацца з гэтых гадзін, ведаючы, што багата хто жадае пакінуць свае рыскі на тваім аднаасабовым твары (целе, сэрцы, душы). Нязводныя рыскі.

А яшчэ цяжка быць апошнім. Гэта як пакаранне. А можа, я памыляюся?.. Можа, гэта давер – лёсу, вышэйшых сілаў… Падарунак усёвырашальнага шанцу, калі з апошняй вільготнай запалкі ўспыхвае вогнішча або з апошняга зернейка ўзнаўляецца від расліны... Цяжка ўявіць пакуты апошняга жыхара паміраючай вёскі, краіны, цывілізацыі… Калі няма з кім перамовіцца словам, напілаваць дроваў на зіму, абараніць родную зямлю… Калі няма на што і на каго спадзявацца… Калі губляецца сэнс твайго існавання… У такія хвіліны роспачы, як кажуць дасведчаныя людзі, чалавека наведваюць надзвычайныя сілы і здольнасці. Толькі б не згубіць веру.

Курцы дружна вярнуліся ў рэдакцыйны пакой, і ўсё наўкола зноў загаманіла, застракацела, замітусілася. Як у дыспетчарскай аэрапорта. Толькі тут сустракалі і праводзілі ў падарожжы навіны.

Думкі наведваюць мяне без уліку якога-кольвечы папярэдняга графіка ці рэдакцыйнай сеткі вяшчання. І таму я іх гэтак люблю.

Калі думкі завітваюць у тваю галаву, значыць, гэта камусьці трэба. Вось і гэтаму халоднаму, восеньскаму даждджу нешта трэба. За два дні астудзіў працоўны пакой да непрацоўнага стану. І ў чым ягоная мэта? Так, так, справядлівае пытанне. У чым мэта даждджу? Імкнецца звярнуць на сябе ўвагу? Ці падштурхоўвае да пошуку цеплыні й сумоўя? Якога, адчуў, шчырая вільготная душа, табе не хапае. Зрабіць крок насустрач… Трэба быць надзвычай няўдзячным, гэткім зашпіленым на ўсе гузікі, з каменным тварам, каб не звяртаць на яго ніякай увагі.

А думкі плывуць, як крыгі па веснавой вадзе. З нейкай артыстычнай лёгкасцю нясуць у сябе пагрозу ўсім грунтоўным, статычным камунікацыям.

Прачніся і спявай! Калі не ведаеш словаў – проста агучвай мелодыю, якую транслюе табе невядомая радыёстанцыя. Толькі хіты і толькі ў твой гонар.

ЦІ ЗДОЛЬНЫ ЗІМОВЫ СІВЕР
ПАТУШЫЦЬ АГЕНЬЧЫК НАДЗЕІ?

Быў не зусім удалы дзень: інтэрнэт паводзіў сябе як лянотная котка. Комп перыядычна завісаў. Я культурна паслаў тэхніку на перазагрузку, а сам заняўся запарваннем гарбаты.

У навакольным свеце ўсё пераблыталася, і калі б сёння раніцай я прачнуўся дзе-небудзь у Ганконгу або Рэйк'явіку, дык наўрад ці б здзівіўся. Заправіў бы ложак, пакарміў рыбак, паснедаў і звыкла пашыбаваў бы на 62-гі. Бо… Прастора нечакана перастала быць непарушнай зразумелай рэччу. Усё абрынулася ў нейкую віртуальнасць. І самае прыкрае: згубілася пачуццё дому як нечага трывалага й надзейнага. Для амерыканца, які можа ў месяц некалькі разоў змяніць месца жыхарства, сум падобнай страты незразумелы. Без ніякай трагедыі ён пераедзе ў новы дом або кватэру, галоўнае, каб новае месца жыхарства было больш утульным і прэстыжным. Беларус інакш уладкаваны. Ён мае шчыльную лучнасць з роднай мясцінай і не ўмее арыентавацца ў жыцці без пункту адліку – уласнага дому. Страта гэтая выклікае разгубленасць.

І САМАЕ ПРЫКРАЕ: ЗГУБІЛАСЯ ПАЧУЦЦЁ ДОМУ ЯК НЕЧАГА ТРЫВАЛАГА Й НАДЗЕЙНАГА.

Згадваю, як прачнуўся аднойчы сярод ночы ў Парыжы з пачуццём безнадзейнай згубленасці ў свеце. Гэтае трывожнае трызненьне затым яшчэ доўга мяне пераследавала, перыядычна ўсплываючы з нейкіх таемных глыбіняў свядомасці. Згубіцца ў прасторы немагчыма, калі ты даўно безнадзейна згубіўся. Гэтым я і суцяшаў сябе. Якая розніца, дзе прачнешся ўранні. Не ўратуе, не схавае родны дом. Прастора несумленна гуляе ў хованкі. Бо шанцаў адшукацца ніякіх.

Учора спрачаліся адносна прычыны надыходу зімы. Я даводзіў, што зіма прымушае шукаць свой дом, у якім утульна, цёпла і бяспечна. Зіма быццам бы наводзіць парадак у дзіцячым пакоі, у якім бязладны гармідар.

У гэтым вялікім горадзе наўрад ці я адшукаю свой дом. Зіма мяне гоніць у дарогу.

Згадаўся шляхціц Завальня, які падчас сляпых зімовых завеяў выстаўляў на сваім акне свечку. Толькі той, хто мае свой дом, можа прапанаваць падарожніку, які заблукаў, надзею ў выглядзе кволага агеньчыка. Я прынамсі не збіраюся мірыцца са стратай.

МАРЫЦЬ ТРЭБА З РАНІЦЫ

А яшчэ трэба ўмець марыць…

Калі згадваю свае дзіцячыя мары, дык робіцца смешна. Ясная рэч – аб чым яшчэ мог марыць у невялічкім беларускім мястэчку за савецкім часам звычайны падлетак. Аб цікавым і прыгожым жыцці, як у тэлевізары, аб нечым феерычным і вясёлкавым, такім, што можа нарадзіцца толькі ў галаве юнака з правінцыі. Гэта пазней ты разумееш, што ўсе чалавечыя жыцці аднолькавыя – складаюцца

з нараджэння й смерці. Адрозніваюцца ж яны толькі справай, якую пакідае кожны пасля сябе. А хто ў юнацтве марыць пра справы?!

Сёння ў аўтобусе здарылася смешная прыгода. З учарашняга вечара ў кішэні маёй курткі заставалася ладная жменя манет. А сёння раніцай, калі мусіў заплаціць за праезд у аўтобусе, – не знайшоў ані цэнціка. Во, дзіва! Ды й сітуацыя дурацкая. Банкаўскай карткаю ў аўтобусе не разлічышся. Праз пару хвілін хаатычных пошуку высветлілася, што мае манеткі зрабілі дзірачку ў кішэні і пазашываліся ў зацішных куточках курткі. Напэўна, каб не трапіць у чужыя рукі. Прыйшлося вылоўліваць уцекачоў і даставаць іхнія круглыя цельцы на белы свет. Без якой-кольвечы шкадобы. Бо кожнаму ў гэтым свеце вызначана сваё. Каму, як не манетам, пра гэта ведаць.

брукаванак, храмаў, помнікаў, кавярняў, крамаў. Ёсць яшчэ глыбіня сутнасці ўладкавання.

ВЕЧАР ЯК СОН, У ЯКІМ ШМАТ АГНЁЎ

З майго вакна, што глядзіць у свет сваім святлом з восьмага паверху, можна назіраць за няспынным рухам аўтамабіляў, якія нетапорка плывуць па двух амаль раўналежных вуліцах. На другім баку гарадской трасы – той, што бліжэй, рознакаляровымі агнямі заваблівае наведнікаў McDonalds. Дзіўна, але я ў ім ніколі не быў. І не таму, што не люблю гамбургеры (па-шчырасці, так і ёсць, не вялікі я аматар амерыканскіх піражкоў), проста да свайго месца жыхарства я прыязджаю галоўным чынам адпачываць – спаць, вячэраць, глядзець тэлевізар. Адзінае выключэнне – нешта пішу ў свае зацяганыя

ГЭТА ПАЗНЕЙ ТЫ РАЗУМЕЕШ, ШТО ЎСЕ ЧАЛАВЕЧЫЯ ЖЫЦЦІ АДНОЛЬКАВЫЯ – СКЛАДАЮЦЦА З НАРАДЖЭННЯ Й СМЕРЦІ. АДРОЗНІВАЮЦЦА Ж ЯНЫ ТОЛЬКІ СПРАВАЙ, ЯКУЮ ПАКІДАЕ КОЖНЫ ПАСЛЯ СЯБЕ. А ХТО Ў ЮНАЦТВЕ МАРЫЦЬ ПРА СПРАВЫ?!

Пасля працы выйшаў на шпацыр па старым горадзе. Кожны раз на вузкіх, ушчыльнёных вулках заўважаю нешта новае, хоць, здаецца, блукаў тут дзясяткі разоў. Гэтыя шпацыры падобныя да вывучэння старажытных гравюр, у якіх безліч сюжэтаў і персанажаў, а ў кожнай дэталі столькі таемных сэнсаў, што разглядаць нават адзін твор можна бясконца – усё адно да канца не ўсвядоміш, не запомніш, не разгадаеш. Менавіта ўвечары вулкі старога горада прыадчыняюць свае таямніцы. Горад з запаленымі агнямі робіцца глыбейшым, не ў сэнсе далягляднасці краявідаў – ёсць розныя глыбіні, – зусім не, робіцца заўважнай яго метафізічная будова. Бо горад складаецца не толькі з камяніц,

па свеце сшыткі. Пайсці ўвечары ў суседскі McDonalds – падобнай ідэі ў маёй галаве ніколі не ўзнікала. (Напісаў гэтыя радкі і падумаў: усё ж варта наведаць суседскую ўстанову грамадскага харчавання – хаця б дзеля цікавасці. Можа, там якое адмысловае жыццё па вечарох віруе?) А яшчэ з майго вакна можна пабачыць тутэйшую тэлевежу. У вечаровы і начны час яна падсвечваецца, таму найлепш яе разглядаць пры поўнай цямрэчы.

Дзіўна, што агні за вакном рознага колеру. З чырвоным усё зразумела – гэта аўто і святлафораў. Але ж ёсць агні блакітныя, салатавыя, масянжовыя, жоўтыя. Усё гэта мігціць, рухаецца, ствараючы бесперапынныя светлавыя

ілюмінацыі. Калі вы мяне спытаеце: якога колеру агні мне даспадобы? – адкажу гэтак: падабаецца разнастайнасць.

ЯК ПАДАЕ СНЕГ, ЯК РАСЦЕ ТРАВА

Нічога не пакінуць на пасля. Нічога не пакінуць у рэзерв. Нічога не пакінуць дзеля выгод.

Ехаць па вечаровым горадзе на таксоўцы. Невядома куды. Разглядаць сонныя вітрыны крамаў. Мружыць вочы ад святла фараў сустрэчных аўто. Углядацца ў твары рэдкіх, прыпозненых мінакоў. Ехаць, як у якім заходнім фільме, прыгожа, не спяшаючыся, нібыта гэтая язда ёсць нейкі прыемны, важны рытуал. Ехаць без размоў, без музыкі ў салоне, без згадак пра бясконцыя клопаты, без філасофскіх разваг пра свет. Ехаць не з пункту А у пункт Б, не аднекуль кудысьці, не з пэўнай неадкладнай мэтай.

Ехаць – нібыта згубіўшыся ў духмяных валасах любімай дзяўчыны. Танчыць, абняўшыся, адчуваючы кожнай клетачкай ейнае цяпло і трымценне. Губляючы пад нагамі падлогу.

Ехаць – як лунаць коршакам у блакітным, з рэдкімі выспамі аблокаў, небе, заўважаючы на зямлі самыя кволыя і таемныя рухі.

Ехаць – як падае снег, як расце трава…

ВЕЧАР ЗА КІЛІШКАМ
ЗАЛАЦІСТАГА ТРУНКУ

У кавярні, якую мы паміж сабой называем «У Францішка», у вечаровы час заўжды людна. Як ні як самы цэнтр горада. У турыстычны несезон тут бавіць час пераважна тутэйшая моладзь. Наведнікі кавярні сталага ўзросту ў мяне выклікаюць цікавасць. Вось, напрыклад, як гэты: я даў бы яму гадоў шэсцьдзесят. Экзатычнага выгляду – са старанна паголенай галавой. На блішчастай макаўцы трывала «восседали» акуляры. Так і не зразумеў – сонечныя ці з пенсійнымі дыёптрыямі. Да ягонага піжонскага выгляду не пасавалі старыя, абвіслыя з заду джынсы. Такія насілі ў СССР у пачатку 80-х. Здаецца, іх прывозілі з Балгарыі,называліся Rife. Лысы дзядок сеў за стойку, зрабіў замову. Доўга абыякава смактаў бякла-жоўты трунак. Затым адышоў ад стойкі і перасеў на канапу, працягваючы меланхалічна смакаваць напой. Я паспрабаваў угадаць: хто ён? Дзядзечка выглядаў або на заглыбленага ў сябе інтэлектуала (схільнага да медытацыйных вучэнняў якогасць дзэн-будызму або крышнаіцтва), або, і гэта падавалася мне найбольш верагодным, на нейкага арыстакратычнага крымінальніка, які ўмее дазваляць сабе маленькія прыемнасці. Але ў адным можна было не сумнявацца: з фінансамі ў яго былі праблемы. Пра гэта сведчыла і вопратка наведніка, і тое, што ён абмежаваўся маленькім кілішкам трунку, што зусім не характэрна для кліентаў «У Францішка». Ён так і не прамовіў за паўгадзіны ані слова, калі не лічыць лапідарнага звароту да кельнера. Дзіўны наведнік нікога не разглядаў, больш таго – увогуле не звяртаў увагі на навакольнае мітуслівае жыццё. Праз паўгадзіны ён апрануў сваё зрэбнае чорнае паліто, па-піжонску матлянуў вакол шыі шалік і выйшаў з кавярні ў лістападаўскі вечар. Можа, на звыклы шпацыр? А можа, пашыбаваў у свой прытон? Дзе паміж трубаў ацяплення ўладкуецца ў свой «арыстакратычны» ложак з рызззя і паралону, каб прачнуцца заўтра ў тым жа горадзе, у тых самых джынсах, з тымі ж праблемамі.

*2001, Вільня*

# АДАМ ГЛОБУС

## ДУРАЦІЛА

Словы пра сучаснага кініка і ягонае атачэнне

СВЯТЛО

Ведаеш, трэба імкнуцца да святла. Нават Дураціла ведае, што варта да святла ісці, паўзці, сунуцца. Ён паважае святло, асвятленне і асвету. Асветнікаў шануе. Эпоха Асветы для Дураціла адна з узорных. Яна не такая ўзорная, як росквіт у старажытнай Грэцыі, але пасля вялікіх кінікаў у прыярытэтах Дураціла адразу ідуць магутныя асветнікі. Святло, святлынь, святланоснасць і святладайнасць для Дураціла найвышэйшыя праявы прыроды. Сонца – ягоны цар, бог і начальнік па-над начальнікамі. Дураціла заўжды і паўсюль ідзе на святло, ён нават праз дарогу ідзе на святло, нават на чырвонае святло ідзе...

САЛАЎІ

Захмялелы лінтаратар Дураціла спыняецца каля мяне і кажа: «Жонка твая – Алена – прыязджала ў Лысагор'е на лецішча. У тры гадзіны дня пыталася ў мяне пра салаўя. Якія салаўі ў тры гадзіны дня? Салаўі…» Тут якраз і жонка мне затэлефанавала: «Дзе ты?» – «Слухаю, як Дураціла спявае пра цябе і салаўёў». – «Свайго жыцця ў чалавека няма, дык ён пра чужое спявае!» – «Дураціла, мая жонка кажа, што ў цябе няма свайго полавага жыцця!» – «А на халеру яно мне трэба…»

САБАКАВАТАСЦІ

Дураціла, безумоўна, мае разумовыя здольнасці, уласцівыя нармальнаму чалавеку. Некаторым падаецца, што здольнасці Дураціла нават вышэй за сярэднія. Толькі існаванне ў нашым наскрозь ваенізаваным грамадстве патрабуе ад індывіда не толькі яснага розуму, а яшчэ і здаровых зубоў. Калі ты не можаш падтрымаць свае слова дзеяннямі, грош табе цана. Сабака, які гучна брэша, а пакусаць не пакусае, у гаспадарцы не вельмі каб і патрэбны. У сваіх паводзінах Дураціла хоча быць падобны да Антысфена, пра якога сказалі: «...быў сапраўдным сабакам. Але не зубамі кусаў – бальней біў словам». Біць словам Дураціла спрабуе ўвесь час. Выходзіць у яго кепска, бо б'е слаба і амаль ніколі не патрапляе ў цэль. Затое ў Дураціла добра атрымліваецца іншая сабакаватасць – ён выдатна віляе брудным і калматым хвастом.

ПЕРАКАНАННІ

Пытаю ў Дураціლы: «Якія ў цябе палітычныя перакананні?» Простае пытанне. Для ўсіх простае, а для дубаватага Дураціლы – заскладанае. «Шахматыст...» – асцярожна адказвае Дураціла. Не камуніст і не сацыяліст, не злосны нацюга і не салодкі ліберал, не прыземлены з зялёных і не паднебны з брунатных, а шах-ма-тыст. Тут і заманулася мне ўзяць шахматную дошку і гэтую дошку, у чорныя і белыя шашачкі, апрануць на чалавека. Калі на чалавека апрануць шахматную дошку, атрымаецца арлекін! А ў арлекіна, відавочна, ёсць палітычныя перакананні, арлекін – анархіст. П'еро ў сваіх белых апранахах, са сваімі слязьмі і невылечным мінорам, канешне, правы і, зразумела, кансерватар. Арлекін – наватар, эксперыментатар і лявак. Такія думкі наведалі мяне ў час палітызаванай размовы з Дурацілам.

ДЫМ

Бачыў у Мінску старога, пасівелага, бруднага Дурацілу. Ён пазіраў на пляц з-за рога дома, цікаваў за бадзёрай падрыхтоўкай да свята горада. Зайздрасць да маладых выходзіла з ягоных шэрых вушэй сінім дымам.

СМАГА

Дураціლу смажыла. Так смажыць п'янтоса раніцаю. Дураціла спрабаваў падмануць свой арганізм вадою. Не атрымалася. Давялося выбірацца з бярлога і валачыся ў вёску па самагон. Ліпень выдаўся спякотным. Дураціла ішоў па запыленай дарозе і праклінаў сваю прагу да п'янства. Праклёны крыху супакойвалі, таму Дураціла кляў і кляў сябе на чым свет стаіць. Каля лесу Дураціла пабачыў купку вяскоўцаў. Тыя стаялі над чалавекам, што ляжаў у прыдарожным пыле. «Добра апрануты, мусіць, з пісьменніцкіх дач, што ў Лысагор'і!» – разважаў вясковец у пляскатай кепцы. «Сівы, барадаты, у акулярах. Пэўна, пісьменнік і ёсць», – вяскоўца падтрымала баба ў белай хустцы. Дураціла падышоў бліжэй і пазнаў у выкачаным у пыл чалавеку перакладчыка Зліўчыкава. Радасць ахапіла Дураціლу. Ён вырашыў завалачы перакладчыка дамоў і там атрымаць ад удзячнай жонкі Зліўчыкава заслужаныя сто грамаў на апахмелку. Вяскоўцы добра ведалі п'янтоса Дурацілу, які працаваў вартаўніком на пісьменніцкіх дачах, таму дазволілі забраць упітага да бяспамяцтва чалавека. Сем патоў сышло з неапахмеленага Дурацілы, пакуль ён валок на сабе перакладчыка. Смага не давала Дураціле спыніцца і адпачыць, таму праз чвэрць гадзіны ён ужо грукаў у дачныя дзверы. Узмакрэлы ды задыханы Дураціла і слова не паспеў прамовіць, як на яго палілася брудная лаянка з пашчы спадарыні Зліўчакавай: «А каб ты здох, Дураціла! А каб табе гарэлка колам у горле стала! А каб цябе калатун калаціў і раскалаціў на пыл! Калі ты будзеш спойваць майго Валодзю, я сама цябе раскалачу на шэры пыл. Ты ў мяне зведаеш такую калатнечу, якой Лысагор'е яшчэ не бачыла! Пайшоў прэч, вырадак...» З усяго сказанага жонкай Зліўчакава Дураціла зразумеў адно: не нальe. Смага схапіла Дураціლу за сэрца мёртвай хваткай. Давялося вяртацца на пыльную дарогу і калываць у вёску, а там... Там сто грам, і яшчэ сто, і яшчэ... Да забыцця, да нябыту, да новай смагі.

ЧОРНЫ МАНАХ

Учора ў кавярню «Акварыум» заходзіў Дураціла. Усім прысутным ён распавядаў гісторыю пра Чорнага манаха... На Лысагор'і, дзе Дураціла ўжо адзінаццаты год вартуе дачныя

дамкі, з'явіўся Чорны манах. Пад раніцу ён выходзіў з лесу і прагульваўся па пустых вуліцах у дачных пасёлках. Дураціла неаднойчы піў усю ноч навылёт і бачыў за вакном Чорнага манаха. Самому Дураціле той манахвандроўнік нічога кепскага не рабіў, але лысагор'еўцы пачалі скардзіцца, маўляў, Дураціла як вартаўнік кепска выконвае даручаныя абавязкі, дазваляючы розным валацугам бадзяцца каля дачных садоў. Пасля другой бутэлькі кагора, пасярод кароткай ліпеньскай ночы Дураціла раптам вырашыў пайсці ў Заслаўе да ксяндза, каб той навучыў – як прыбраць Чорнага манаха з дачных вуліц і тупікоў. Узяў Дураціла ліхтарык і пайшоў у Заслаўе. Зайшоў ён у лес, там ліхтарык і згас. Лямпачка стрэслася. Давялося Дураціле ісці праз лес у шчыльнай цемрадзі. Калі ж ён выйшаў з лесу на поле, дык пабачыў Чорнага манаха. Дураціла – чалавек смелы, але ад страху прысеў, а потым і прылёг. Манах ці то не заўважыў п'янога Дураціле, ці то зрабіў выгляд, што не заўважыў. Дураціла асцярожна запоўз за прыдарожныя валуны, дзе і праляжаў да раніцы. Калі развіднела і Дураціла наважыўся вызірнуць з-за камянёў, дык пабачыў ядлаўцовы куст замест Чорнага манаха. Усім лысагор'еўцам Дураціла сказаў, што адным сваім намерам звярнуцца ў касцёл ён ператварыў валацугу-манаха ў куст ядлоўцу. Вядома, што Дураціле ніхто веры не даў, але і Чорнага манаха больш не бачылі ў Лысагор'і.

## СВЯТА

На каталіцкі Вялікдзень сустрэў Дураціле, той завітаў у нашу кавярню «Акварыум». Пасядзелі, пагаманілі пра дзённік Ісікавы Такубоку, напісаны лацінкаю, пра няправільныя і правільныя тэхнікі апахмелу і пра кармічныя хваробы, якія нападаюць на цела сына за грахі бацькі. «Пайду працаваць», – кажу Дураціле. Той: «Пачакай да дзвюх гадзін, бо нядзеля, светлая нядзеля, свята!» – «Мяне ў праваслаўныя пахрысцілі…» – «Усё адно, пачакай да дзвюх гадзін, а потым працуй». – «Мяркуеш, Бог сядзіць і на гадзіннік пазірае? Думаеш, яму цікава – а якой-такой я пачну працаваць?» – «Не цікава Яму, твая праўда».

## ЯЗАПАД

Дураціла выпіваў з Язападам Попелам-Глінскім. Язапад кульнуў чарку, пашкрэб сівую бакенбарду і прамовіў выкладчыцкі тонам: «Ты ведаеш, Дураціла, як цяжка ябаць маладую жонку?» Дураціла схіліў галаву набок, ліслівa заўсміхаўся і спытаў: «Дапамагчы?»

## ВЕДЫ

Больш за суткі Дураціла піў са Славамірам. Пілі яны піва і гарэлку. Пілі і вялі размовы… «Ёсць нешта такое ў свеце, пра што ты нічога не ведаеш?» – папытаў Славамір у Дураціле. «Няма-а-а!» – упэўнена адказаў той і застаўся сядзець з шырока адкрытым ротам.

## СЯКЕРА

Часам і Дураціла разумнее. Вядома, калі ён у гадзіну дня, седзячы ў спёку на праспекце Незалежнасці, смокча з рыльца гарэлку, назваць яго разумным цяжка. Таму я і папытаўся, што ён з сабою робіць? Дураціла сказаў, што чакае грыбны суп са смятанаю, каб апахмелкавую гарэлку крыху засёрбаць. Тоўстая афіцыянтка неўзабаве прынесла суп, шчодра забелены смятанай. Дураціла перад першай лыжкай гарачай закускі згадаў маму

і сказаў: «Мне маці некалі сказала: сынок рабі, што захочаш, абы пад мостам з сякерай не стаяў!» Дураціла пад мостам не стаіць, людзей сякерай не сячэ і не палохае, гарэлку закусвае… Ён бывае, дзякуючы маці, разумны.

ВАЛАСЫ

Бывае, Дураціла запускае вусы, а бывае і бараду не голіць. Ходзіць Дураціла непастрыжаны і непаголены, як той ваўкалак. Дураціла не кажа, што ён гадуе вусы, як шляхціч. Дураціла прызнаецца шчыра, што не стрыжэцца і не голіцца з-за ляноты.

ВЕРШ

Дураціла трапіў у бальніцу. Думаў – капец. Выжыў. Зноў сядзіць каля ўніверсама «Цэнтральны» пад чырвонымі парасонамі кавярні «Акварыум». Гарэлку каўтае. Расказвае пра прыгоду: «З’еў зашмат! Мне пасля абшырнага інфаркту нельга шмат есці. Нажэрся і стала кепска. Выклікалі дактароў. Вязуць мяне ў бальніцу. Адзін доктар стары, а другі маладзенькі зусім – шчаўлік. Абодва кажуць… Мужык, не сыходзь! Чую я іх дуэт. Чую пранікнёнае… Мужык, не сыходзь! Адказваю… Хлопцы, я не збіраюся сыходзіць! Адказваю, а голасу майго не чуваць. Язык не паварочваецца. Толькі ў думках і магу паўтарыць… Мужык, не сыходзь! Выратавалі мяне. Вярнуўся я да жыцця і верш склаў…

*Няма таго, што раньш было,*
*І толькі надпіс «Дураціла»,*
*На ліпе ўрэзаны ў кары,*
*Казаў вачам аб той пары.*
*Расці, ўзмацовывайся, дрэва,*
*І манументам паўставай,*
*Да неба надпіс уздымай».*

ПЫЛІНКА

У Дураціла ёсць сяброўка – Пылінка. У Дураціла шмат сябровак, але пра Пылінку можна было б сказаць, што яна – Дураціла ў станіку і ў спадніцы. Толькі Пылінка не носіць спадніц і станікаў, яна ходзіць у брудна-сініх нагавіцах ціпа джынсы.

ЦУКАР

Дураціла любіць цукеркі, але грошы, калі толькі з’яўляюцца, адразу ж сыходзяць на гарэлку з закусонам, і на салодкае нават рубля не застаецца. Таму ў кавярнях Дураціла выпрошвае ў знаёмых пакецікі з цукрам. Ён сыпле цукар з надарванага пакеціка адразу ў рот і такім чынам падсалоджвае сваё горкае жыццё.

СЫС

Мароз пад дваццаць, а Дураціла стаіць расшпіляханы на выдавецкім ганку. Чакае пачастунак, бо прачуў, што пісьменнікам выдаюць ганарары. Вялікая справа ў наш час – атрымаць ганарар за кнігу. Хай маленькі ганарар, і ўсё ж. «Пачастуеш?» – спытаўся ў мяне Дураціла. Не хацелася яго частаваць, але радасць мяне перапаўняла, а калі яна пераліваецца праз край – варта падзяліцца. «Пайшлі, куплю бутэльку!» Мы накіраваліся ў краму. Па дарозе Дураціла мяне здзівіў: «Ты напісаў, што Сыс – паэт; а ён не паэт!» – «Калі Сыс не паэт, дык хто тады паэт?» – «Пятро Прыходзька – паэт!» – «Ты сядзь і напішы, што Сыс не паэт. Усе думаюць, ён – паэт, а тут ты са сваім Прыходзькам... Напішы. Сыс варты таго, каб пра яго нават такое пісалі...» – «Ніхто не надрукуе. Нашто пісаць, калі не надрукуюць? Вунь я пра кнігу «Сам-насам» напісаў, і ніхто не надрукаваў... За дваццаць гадоў

ніхто нідзе не надрукаваў...» – «Параўнаў ты Сыса з нейкім там Панасам Ананасам. Пра Сыса нават дуроту надрукуюць, бо пра паэта...» – «Ён быў не паэтам, ён артыстам быў. У ім артыстычнага было болей, чым паэтычнага... Памятаеш, як ён усё на сцэну лез? Чаму ты бярэш маленечкую бутэльку? Ты мне вазьмі вялікую!» Мароз на вуліцы такі, што я ўзяў Дураціле вялікую гарэлкі са свайго маленькага ганарару за кнігу кароткіх казак.

ВЕРШ

Пытаюся ў Дураціла... Хто з нашых паэтаў выпусціў найлепшую кнігу ў 2013-м? Я ва ўсіх знаёмых пытаюся пра паэзію. У мінулыя гады пытаўся яшчэ пра эсэістыку і прозу, а ў гэтым вырашыў абмежавацца адно лірыкай. «Ёсць! Ёсць у нас выдатны паэт... Як жа ягонае прозвішча? Забыўся! Ён з Аксанкай Спрынчан сябруе... Ты яго мусіш ведаць. Выдатны паэт... Зараз-зараз, пачакай. Ну, ён такога, як ты веку. Худы, такі худы, што шчокі запалі, выглядае так, нібыта ў яго зубоў няма...» – «Мо ты ягоны верш які ўспомніш?» – «Які верш? Я імя і прозвішча забыўся, а ты хочаш, каб я ўспомніў ягоны верш!»

ПАЛЯКІ

«Пятровіч не хоча друкаваць Максіма ў сваім часопісе!» – абураецца Дураціла. «Максім напісаў «Пана Тадэвуша», яго ў тэатры нават паставілі, а Пятровіч з Івашчанкам адмаўляюцца друкаваць п'есу нашага Максіма ў сваім «Дзеяслове»! Хіба яны людзі?» – «Можа, таму адмаўляюцца, што Максім не пісаў «Пана Тадэвуша», бо яго напісаў Адам Міцкевіч?» – «Валодзя, Міцкевіч п'есаў не пісаў!!!» – «Ну дык і Максім не пісаў п'есы пра пана Тадэвуша, гэтую п'еску пра Тадэвуша напісаў Сярожка Кавалёў!» – «Во, блядзь, паблытаў! Правільна – Сярожка напісаў «Пана Тадэвуша»!» – «Не, наш Сэрж напісаў пра пана Тадэвуша, а «Пана Тадэвуша» напісаў паляк – Адам Міцкевіч!» – «Ты мяне заблытваеш, знарок!» – «Не я цябе заблытваю, а Сэрж з Максам. Яны пабралі чужыя назвы для п'ес. Міцкевіч, які паляк, а не той, што стаў нашым Якубам Коласам, напісаў «Пана Тадэвуша» і «Дзяды»...» – «Блядзь, правільна! Макс напісаў «Дзяды», а Пятровіч адмовіўся іх друкаваць... Во!» – «Паляк Міцкевіч па-польску напісаў паэмы «Дзяды» і «Пан Тадэвуш», а Макс і Серж напісалі п'есы па матывах гэтых паэм, а Івашчанка з Пятровічам іх, як ты кажаш, друкаваць не хочуць? Можа, ім палякі яшчэ датацый не далі? Можа, як дадуць, дык і п'есы надрукуюцца? Як думаеш?» – «Максіму грошы патрэбны, добра было б, каб палякі якіх злотых яму падкінулі. Мы б на іх гульнулі...»

АПРАНАХІ

Ён заўсёды непрыемна здзіўляе апранахамі. Нават не самімі апранахамі, а іх дзікунскімі спалучэннямі. Дураціла сам нічога не купляе, ён даношвае чужое – падоранае знаёмцамі. На Дураціле нават саколка і шкарпэткі з чужога пляча. Таму выгляд Дураціла нагадвае прыпыленую стракатасць са сметніка. Не буду казаць, што Дураціла ходзіць брудны і ад яго тхне бамжом. Віном і гарэліцай патыхае. Яшчэ не да бамжовага стану ён апусціўся, але ступень апушчанасці вялікая, бо беспрацоўны чалавек нават здалёк пазнаецца, зноў жа з-за гэтага дзікунскага спалучэння чужых апранахаў на няскладным целе. Асабліва цяжка мне было ад таго, што я пазнаў на Дураціле швэдар свайго бацькі нябожчыка. Швэдар той перадала Дураціле мая маці. Нібыта і ўсё правільна зроблена, ніхто нічога

не краў, рэчы не прапалі, яны спатрэбіліся і прыдаліся. Толькі глядзець на Дурацілу, апранутага ў рэчы нябожчыкаў, бывае вельмі непрыемна і нават страшнавата.

ПРАЎДА

Дураціла ведае: каб праўду пачулі, яе трэба не гаварыць і не казаць, яе трэба рэзаць. Як людзі прыдумалі – рэзаць праўду-матку. У далёкай працоўнай маладосці Дураціла ўпарта трэніраваўся рэзаць праўду. «Я чытаю свае вершы на заводзе! Я чытаю свае вершы станкам! Яны і толькі яны – станкі – мяне разумеюць!» У краіне, дзе шмат казалася пра дыктатуру пралетарыяў, дзе рабочыя лічыліся авангардам савецкага народа, Дураціла са сваімі станкамі выглядаў арганічна. Выглядаў ён плакатна, але натуральна. У новай палітычнай сітуёвіне Дураціла скаціўся на маргінэс. Замест праўдыматкі ён пачаў трындзець на любую застольную тэму, галоўнае, каб сабутэльнікі яму налівалі дармовыя напоі. З паэта-крыкуна Дураціла стаў трындзюком-шаптуном, які за чарку гарэліцы прашэпча пра ўсё на свеце... Пра грынга ў Парагваі, пра цот і лішку, пра раздваенне адзінага, пра японскі дзённік, напісаны лацінкай... Перабраўшы, Дураціла можа рэзнуць і праўду-матку, але Дурацілава праўда патыхае такім перагарам, што ад яе цягне на ваніты.

КНІЖУЛЬКА

Ён усё сваё жыццё нешта-нейкае пісаў. Зрэдку ягоную пісаніну друкавалі ў мясцовых выданнях. Публікацыі Дураціла старана збіраў і захоўваў, каб у свае пяцьдзясят з доўгім хвастом нарэшце выдаць першую кніжульку. Ён спадзяваўся, што кніжулька атрымаецца рамантычнай і ўзнёслай, а выйшла пошла. Ты здзівішся і спытаеш, чаму менавіта «пошла»? Разумееш, мой дарагі дружа, калі мужчына старана апісвае любоў да ўласных дзяцей, якіх даўно кінуў у Парагваі, а свайго роднага тату паказвае паўдуркам, гэта пошла. Зрэшты, інакш і быць не магло. Дураціла – натура цэльная, ён і пад вокладкай першай кніжуленцыі застаецца Дурацілам-пошлым. Адно, што суцяшае, – ёсць-ёсць у нас сярод чытачоў і аматары пашлаватых тэкстаў.

ПРЭМІЯ

Дураціла смерць як хацеў атрымаць прэмію за сваю танюткую кніжульку для падлеткаў. Падсоўваўся, падлазіў, падкотваўся да ўсіх, ад каго, на ягоную, Дурацілаву, думку, выдача грашовай прэміі залежала. Ён ліслівіў і прыніжаўся, бо верыў, што ягоная кніжуленцыя з найлепшых. Яшчэ Дураціла верыў, нібыта прэміі прысуджаюцца менавіта за змест кнігі, а не за грамадска-палітычную дзейнасць аўтара, у якой сам ён знаходзіцца на маргінэсе – паблізу ад смуродлівых сметнікаў. Пэўная логіка ў паводзінах Дурацілы ўсё ж была, бо шмат каму ў нашым бязлітасным свеце і сапраўды вельмі хочацца, каб усе беларусы выглядалі чмошнікамі і каб у грамадстве яны займалі найгоршыя іерархічныя прыступкі. Адно да чаго не змагла датумкаць аброслая поўсцю Дурацілава галава, што выдавальнікі прэміі не захочуць стаяць побач з чмошнікам. Побач з карузлікамі ды ліліпутамі, побач з нябогамі ды калекамі любяць пастаяць сапраўдныя каралі, а не выдавальнікі дзесяці тысяч чужых баксаў. Выдавальнікі любяць пастаяць побач з падобнымі да сябе і поплеч з мацнейшымі за сябе, а стаяць побач з Дурацілам ім не хацелася зусім, пра што яны і сказалі яму шмат разоў самымі даходлівымі словамі.

КРЫТЫК

Крытык Леанід напісаў, што ў рукапісах Дураціла ёсць шчырая графаманія. Смела. Не кожны крытык можа так сакануць празаіка. Далёка не кожны. Тым больш калі пісальнік шчырай графаманії відавочна дужэйшы за смелага крытыка.

ПАРАГВАЙ

Пішаш сабе, пішаш партрэт Дураціла. Надакучвае. Здаецца, што ўсё істотнае пра Дураціла сказана і можна прызнаць партрэт скончаным, ды не атрымліваецца. Усплываюць новыя эпізоды з бязладнага жыцця антыгероя, пра якія абавязкова трэба расказаць... Ну хоць бы гісторыю з квітком у Парагвай. Дураціла кінуў у Лацінскай Амерыцы жонку з дзецьмі. Уцёк. Не вытрымала беларуская душа і беларускае цела задушлівага парагвайскага жыцця. Збег Вераціла дамоў. З дому ён пісаў у Парагвай лісты. Казаў, што моцна сумуе без дзяцей і пры першай нагодзе іх адведае. Зразумела, што нагода не з'ўлялася.

ПАДМАНВАЎ ДУРАЦІЛА ЖОНКУ, АЛЕ Ж ЛЮДЗІ ЛЮБЯЦЬ БЫЦЬ ПАДМАНУТЫМІ. ВЕРАЦЬ ЯНЫ Ў ШЧАСЛІВЫ КАНЕЦ КАЗКІ. ТАК І ПАРАГВАЙКА ВЕРЫЛА, ШТО ДУРАЦІЛА ДА ЯЕ ВЕРНЕЦЦА.

Заробіць крыху грошыкаў, набудзе квіток на самалёт і пераляціць праз Атлантычны акіян. Пераляціць, каб абняць яе і любімых дзетак. Таму яна і выслала Дураціла дзве тысячы даляраў на квіток. На той час – вялікія грошы. За іх можна было не толькі заляцець з Беларусі ў Парагвай, а можна было і вярнуцца з таго Парагвая ў Беларусь. Дураціла не паляцеў праз акіян. Ён прапіў прысланыя даляры ў бары «Акварыум». Прапіў разам з падобнымі да сябе дурнямі. Школьны настаўнік Карпейчык моцна абураўся такімі паводзінамі складальніка лжывых лістоў у Парагвай. Карпейчык шмат кім і шмат чым абураўся ў нашым маласправядлівым свеце, а таму Дураціла не звярнуў на ягоныя абурэнні ніякай увагі.

ШЛЯХ

Дураціла жыве бажаволкам. Ён не разумее чалавека, у каго ёсць грошы, а на іх той не купляе бутэльку гарэлкі. Дураціла не можа зразумець і таго мужчыну, у якога ёсць бутэлька, і ён не адкаркоўвае яе, каб выпіць. Калі ў Дураціла з'яўляюцца рублі, а яны часам аднекуль бяруцца, на атрыманыя грошы адразу ж купляецца выпіўка. Калі ў руцэ Дураціла ёсць бутэлька, яна тут жа ж і адкаркоўваецца. Пакуль Дураціла не зробіць з адкаркаванай бутэлькі глыток, ягоная душа дрыжыць, сціскаецца і ные. Калі бутэлька спусташаецца, Дураціла пачынае марыць пра наступную вялікую бутэльку з моцнай гарэлкай. Да наступнай бутэлькі ён ідзе найкарацейшым шляхам – шляхам бажаволка.

ШВЕЙЦАРЫЯ

Здараецца так, што нехта з беларускіх літаратараў сустракае мяне на вуліцы і знаёміць з замежнымі пісьменнікамі. Артур Клінаў зазвычай знаёміць з немцамі. Сяргей Сматрычэнка – з чэхамі. Юля Цімафеева днямі пазнаёміла са швейцарскім празаікам. Пасля знаёмства я зайшоў у «Акварыум», узяў эспрэса і падсеў за столік да Дураціла. Каб не маўчаць, я расказаў пра вулічнае знаёмства з празаікам з нямецкамоўнай

Швейцарыі. «Гнілая краіна – Швейцарыя!» – зрабіў заяву Дураціла. «З чаго ты ўзяў, што Швейцарыя – краіна гнілая?» – «Людзі там сквапныя. Перспектыў у краіны няма. Грошы тамака не заробіш!» – «Мне Швейцарыя падабаецца. Праўда, я бачыў яе толькі праз самалётны ілюмінатар. Шыкоўныя горы з азёрамі, скажу табе». – «Швейцарцы сквапныя!» – «Мне і швейцарцы падабаюцца. Лайма з Бёрна набыла ў мяне карціну з віленскім краявідам, а потым яшчэ і малюнак з мінскім паркам купіла». – «Мусіць, Лайма твая не швейцарка». – «Лайма з Літвы, але муж у яе самы сапраўдны швейцарац і дзеці ў іх таксама швейцарцы». – «Бачыш, я адразу здагадаўся, што Лайма ў Швейцарыю пераехала. Так што мая праўда: Швейцарыя – гнілая краіна!» Спрачацца з Дураціламдалей не хацелася. Падумаў: у Швейцарыі добра яшчэ і таму, што дурні і дураціла туды не едуць, бо перакананыя – там зусім кепска. Добра было б зрабіць так, каб розныя дураціла і дурні кепска думалі і казалі не толькі пра горную Швейцарыю, але і пра нашу азёрную Беларусь. Хай бы сабе верылі ў тое, што Беларусь – гнілая, халодная і цёмная краіна.

КРУК

Горка робіцца, калі чуеш, як адзін горкі п'яніца кажа пра другога горкага п'яніцу, што ён яшчэ горшы за яго... п'янтос. Днямі Дураціла казаў пра Крука, што той спіўся ўшчэнт. Крук яшчэ ў маладосці любіў высмактаць з рыльца бутэльку таннага вермуту. Дураціла так і сказаў, што Крук яшчэ са школьных гадоў завярнуўся на любові да таннага віна. Крук сапраўды моцна піў усё сваё самотнае мастакоўскае жыццё. Нічога даражэйшага за бутэльку з саладкаватым віном у Крука не было, няма і выглядае на тое, што і не з'явіцца. Толькі не Дураціле асуджаць Крука. Не Дураціле...

ЛЫСАГОР'Е

Дураціла з тых людзей, каму нельга давяраць. Яму нельга даверыць нават выхаванне ўласных дзяцей. Бабе лепей зусім без мужыка, чым з такім мужыком, як Дураціла. Таму бабы і праганяюць яго, каб далей ад дзяцей, каб не нарабіў якой шкоды. Таму Дураціла жыве без бабы і без дзяцей, жыве адзінцом. Там пажыве, там прыткнецца, тут паначуе. З работай у Дураціле таксама кепска, нешта сур'ёзнае такому не даверыш, нават маласур'ёзнае такому, як Дураціла, давяраць нельга. Здаецца, прасцейшай працы за вартаўніка ў дачным таварыстве і не бывае. Дамок дачнага вартаўніка – самае месца для вечна захмеленага Дураціле, здавалася. Дураціле нават узялі вартаваць дачы ў таварыстве Лысагор'е. Не справіўся, не пацягнуў, правалiўся. Каля дамка вартаўніка не было срайні. Дураціла яе паставіў. Праўда, яміну пад срайню ён выкапаў на чужой зямлі. Давялося срайню зносіць, а Дураціле праганяць. Няма да чалавека даверу і ўсё тут. Такому ж нават вартаўнічую двухстволку не даверыш, бо нешта нейкае сам сабе адстрэліць, далібог адстрэліць сабе які палец на назе.

ШЛЯХЕТНАСЦЬ

Падавалася, што кожны з нас добра ўяўляе тутэйшага шляхцюка. Такі сабе чысценькі, дагледжаны, выпешчаны. Вопратку носіць дарагую. Абутак якасны. Сам выкшталцоны – адукацыю атрымаў добрую. Каштоўнасці ў яго традыцыйныя: сям'я, вера, дзяржава. Якія могуць быць варыянты? У нас і варыянтаў няма, варыянт ёсць

у Дурацілы. Ён сам сябе лічыць і называе шляхцюком. Дураціла – шляхцюк! Чорт з ім, што голас сіпаты. Бог з ім, што галава не памытая, а барада не расчасаная. Вопратка? Уся чужая. Каштоўнасці? Сям'я? Жонку з дзецьмі кінуў у Парагваі. Вера? Якая вера ў кініка? Хто падасць жабраку, той сёння і найлепшы. Дзяржава? Дураціла наскрозь анархіст. Эгацэнтрычны, брутальны і невыпраўляльны анархіст. Ну і дэмагог, вядома. Інакш ягоную самаабвешчаную шляхетнасць і не вытлумачыш.

ЛАЛІТА

Дураціла заваліўся ў кафэ «Акварыум» і на будзённае пытанне пра справы сціпла паведаміў: «Сягоння я здаў у выдавецтва раман!» Ці ёсць на папяровых шкуматах спісаных Дурацілавай рукою раман? Будзем спадзявацца – ёсць. У кожным разе шкуматы засталіся ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура». Мажа, наша дзяржава зноў выдаткуе грошы на падтрымку літэксперыментаў Дураціла. Чым толькі чорт не забаўляецца… «Твой раман з чым? – пытаюся. – З какаінам? З гераінам? З клафелінам?» – «Гэта ў Агеева раман з какаінам, а ў мяне раман без какаіну…» – «Можа, гэта Набокаў схаваўся за прозвішчам Агееў? Яму шмат хто прыпісвае «Раман з какаінам»…» – «Не! Там наркаманія апісваецца з глыбокім веданнем справы. Апісваецца чалавекам, які сам прайшоў праз наркату…» – «Набокаў і педафілію ў «Лаліце» апісваў з глыбінным веданнем справы, але сам педафілам, як вядома, не лічыцца!» – «Усім падабаецца маладая скура, грудкі-яблычкі…» Гэткія абагульненне крыху ўзбударажылі саналівы «Акварыум». Высветлілася, што далёка не ўсім з прысутных падабаюцца німфеткі, кшталту яблівай маладеткі Лаліты. Большасць нашых застольных мужчын любяць менавіта жаноцкасць, але жаноцкасць адпаведную свайму веку. Дураціла са сваёй нясвоечасовай педафіліяй ажно сумеўся.

ПАЖАДА

Дураціла – чалавек без комплексаў і загонаў. Ён адкрыты свету. Таму з ім лёгка гаворыцца на самыя закрытыя тэмы. Можна пагаварыць пра інтым і прыват. Пра мужчынскае жаданне любошчаў, якое нам даводзіцца стрымліваць, і пра жаночую юрлівасць, апетую паэтамі і абсмяяную байкапісцамі. Надоечы Дураціла сказаў, што ягоная баба так расказвала ўнукам пра жаночую жарсць: «Каб мужыкі хацелі ябсціся так, як хочуць ябсціся бабы, дык іх хуямі можна было б зямлю араць!»

ГРУЗДЫ

«Вазьмі мне пяцьдзясят гарэлкі. Галава так баліць, што зараз трэсне, калі не апахмялюся...» – «Вазьму... Ты з якой нагоды так напіўся ўчора?» – «З-за груздоў. Я Максіму слоік салёных груздоў прывёз. Я ж – грыбнік! Я па грыбы хаджу з двума кашамі. Мясціны ведаю і сезоны. Пачынаю напрыканцы красавіка збіраць смарчкі ды страчкі, срачкі ды смаркачкі. Лісічкі-сястрычкі, як для мяне, грыбы найлепшыя, бо без чарвяка. А як прыемна нарэзаць акуратных маслякоў-слімакоў? Здаецца, просценькі грыбок, а прыгажун слімак-масляк, яго яшчэ і лупяком завуць. Ясна, што баравік – цар грыбоў. Баравік – белы грыб – я сушу. Не смажу, не закатваю, не салю, толькі сушка, каб зімою суп варыць з пярлоўкай. Густы грыбны суп з пярлоўкай – смаката. Бабкі і чырвонагаловікі – падосікі і падбярозавікі – я смажу з бульбай і цыбуляй. Залатая бульба і сінія досікі-падосікі – красацень. Сыраежкі бяру.

Я ўсе ядомыя грыбы бяру. Шмат якія салю. Салю я грузды, рыжыкі-пыжыкі і свінушкі-таўстушкі. Зялёнкі і падзялёнкі закатваю з чорным перцам і цыбуляй, дробна пакрышанай. Максіму я прывёз беленькіх, салёненькіх, хрумсткіх груздочкаў. Ён пытаецца... Ці не атруцімся? Уяўляеш? Маімі грыбамі ён надумаў труціцца... Дзівак! Не атруцімся, калі гарэлкі вып'ем. Ён бярэ адну пляшку, а я кажу, што трэба дзве, каб нармальную дэзінфекцыю зрабіць. Дэзінфекцыю мы зрабілі такую, што каб не гэтыя твае пяцьдзясят, дык галава дакладна трэснула б, як гнілы арэх пад абцасам».

ЦЕНЬКНАСЦЬ БЫЦЦЯ

Дураціла пусціў чутку, што не сёння дык заўтра ён памрэ. Людзі казалі, што жыццё Дураціла трымаецца на ценькнай нітачцы, якая вось-вось перарвецца. Яны казалі, што Дураціла быў мудрым эрудытам і авангардным паэтам, што ён захапляльна распавядаў пра розныя падарожжы, і яго любілі слухаць родныя дзеці. Гаварылі тое, што ў падобных выпадках гаворыцца, вярзлі салодкую ману. Калі я папытаўся, нашто Дураціла запусціў стыдобную чутку пра ўласную смерць, ён закурыў, закашляўся і сказаў: «Ніхто не ведае, калі памрэ. Зараз пандэмія, глянь – колькі людзей падхапіла і разносіць каранавірус, а колькі хварэе, а колькі памірае... Тут я і падумаў, што хачу паслухаць добрыя словы пра сябе, пра сваё жыццё і пра сваю паэзію, бо кепскіх слоў пра сябе мы і так панаслухаліся...»

ПАРТМАНЭТЫ

Дураціла просіць купіць яму сто грамаў. Мне зусім не шкада заплаціць за гарэлку, і я купляў яму гарэлку шмат разоў, але апошнім часам перастаў частаваць Дураціла алкаголем, бо ён пасля выпітай чаркі нахабна зазіраў у мой партманэт. Я разлічваюся за ягонае пітво, а ён суне нос у мае грошы. «Ты знарок паказваеш мне партманэт! – пачынаў абурацца Дураціла. – Ты знарок паказваеш шмат грошай, каб прынізіць мяне! У мяне няма грошай, а ў цябе яны ёсць, і сваімі грашыма ты спрабуеш мяне прынізіць! Але табе не ўдасца прынізіць мяне!» Надакучылі бязглуздыя размовы з Дураціла, і я перастаў частаваць яго гарэлкай. Ён просіць, а я спасылаюся на крызіс і адсутнасць фінансаў. Можна было б, як той скульптар Заір Азгур, завесці сабе два партманэты, адзін для дробных грошай, а другі для буйных купюр. Аднак я лепей пашлю ў дупу Дураціла, але партманэт у мяне будзе адзін.

РЭТРАСПЕКТЫЎНАСЦЬ

У кавярню «Акварыум» зазірнуў Дураціла. Павітаўся з ім толькі я. Ніхто не запрасіў Дураціла за стол. Вядома, што сядзенне за адным сталом з жабраком Дураціла шкоднае для кашалька. Дый размовы з Дураціла даўно вядуцца толькі пра далёкае мінулае. Адносіны з Дураціла не проста бесперспектыўныя, яны нейкія рэтраспектыўныя. Таму і не вітаюцца з ім людзі, таму і не запрашаюць на чарку і размову. Самотны Дураціла доўга курыў, стоячы на ганку, пэўна, чакаў, што нехта расчуліцца і ўсё ж запросіць яго на чарку. Ніхто не расчуліўся, і Дураціла сышоў прэч, у туман і ў дробны дождж.

ШЧАСЦЕ

Той шчаслівы, хто не бачыць дурняў і дуроты. Таму я і пазбягаю сустрэч з Дураціла. Таму і тэлевізар не гляджу, а ў Інтэрнэце карыстаюся шматлікімі

фільтрамі. Мо праз гэта і не станеш шчаслівейшы, але дакладна зробішся менш няшчасны. Дураціла – знак бяды.

### ЭСКАЛАТАР

Днямі бачыў, як адрошаны Дураціла апускаўся на эскалатары ў метро на Кастрычніцкай. Дураціла быў спрэс шэры, нібыта яго з галавы да ног нехта абсыпаў свінцовым пылам. Нават шапка на Дураціле мела мёртвы выгляд. Эскалатар апускаў Дураціла ў падземныя нетры. Мне захацелася ўзмахнуць рукою і гукнуць: «Гэй, Дураціла, чаго такі змрочны? Абабі пыл з курткі! Абтрасі пыл з шапкі! Абатры твар! Жыццё наперадзе...» Не гукнуў, не ўзмахнуў рукою, не спыніў змрочнага Дураціла, якога эскалатар пацягнуў уніз.

### ПЕКЛА

Апошнім часам Дураціла ў Мінску гасцюе гады ў рады. Сядзіць у сваёй вёсцы бязвылазна. Ад сядзення ён моцна патаўсцеў і зрабіўся падобны да Бальзака. Чэрава ў Дураціла цяперака такое, нібыта ён цяжарная баба на восьмым месяцы. Добра, што ўсё гэта найлепшым чынам адбілася на ягоным выбуховым характары. Дураціла падабрэў і паспакайнеў. Як і заўжды, мы з Дураціла пагаварылі пра важнае і таемнае, пагаварылі пра пекла і каханне, пра п’янства і блуд. Пагаварылі і забыліся пра наша таемнае і важнае. Можа, Дураціла і не забыўся, але я забыўся – дакладна. Апошняя размова з ім усплыла ў памяці сёння раніцай, калі я згадаў жудасны сон пра пекла… Я ў доўгім палітоне і ботах з высокімі халявамі паспрабаваў перайсці брудную рэчку. Моцная плынь падхапіла мяне і панесла. Я ўчапіўся за нейкі склізкі корч. З берага мне падаў руку малады хлопец – мастак Валера Салавей. Ён даў мне глынуць моцнага віна з рыльца, каб крыху сагрэцца пасля ледзяной вады, і сказаў, што мы ў пекле. Ён нават павіншаваў мяне з гэтай нагоды і суцешыў тым, што тутака многа нашых знаёмых хлопцаў і сумна не будзе. Сон пра Салаўя хутка скончыўся, але застаўся ў памяці. З-за пекла, пабачанага ў сне, мне прыгадалася апавяданне Дураціла. Ягоная сястра пабачыла бацьку нябожчыка. Той быў радасны і сказаў, што цяпер ён не ў пекле і пра гэта можна расказаць сваякам. «Так і скажаш… Прыходзіў да мяне бацька і сказаў, што ён больш не ў пекле! Зразумела?» Сястра Дураціла перадала сваякам бацькавы словы. Яна яшчэ паспела спытацца пра пекла, на што бацька сказаў: «Лепш табе не ведаць, што гэта за месца!» Дураціла расказваў мне пра свайго бацьку і піў з рыльца гарэлку. Ён рабіў глыток гарэлкі, а потым закідаў у рот некалькі зялёных вінаградзін.

### РАЙ

«Ты, Дураціла, спадзяешся трапіць у рай?» – «Адназначна, я пайду ў рай. Вялікага паскудства я не нарабіў, жыў, як паэт, мой адзіны грэх – п’янства. Ну хіба гэта грэх?» – «Ты ўяўляеш рай? Ведаеш, што там будзе?» – «Там будзе лазня. Папаруся я. Памыюся і выйду голым на снег. Стоячы на снезе, я вып’ю паўшклянкі густой, як мёд, ледзяной гарэлкі. Закушу яе жменяй снегу. Такі мой рай – закусваць гарэлку снегам. Ледзяная гарэлка, рассыпісты снег, а зубы ад іх не ломіць. Ты ж ведаеш, як ломіць зубы ад калодзежнай вады? Во! У раі зубы ад лёду не ломіць, у раі зубы зусім не баляць».

# АНДРЕЙ ДИЧЕНКО

## ОБ ЭТОМ НЕЛЬЗЯ КРИЧАТЬ

Впервые Марго осознала себя знойным летним днем, когда мать спешно везла ее на коляске, а вокруг простиралась кипевшая от солнца асфальтовая дорога. Ей было четыре года. Больше всего она любила перебирать руками землю и прятаться в тишине. Но побыть одной ей не позволяла забота семьи Бляхер и пристальное внимание встречного мира.

Каждое утро ее будила мать. Уставшая белокурая женщина с задымленными глазами и понурым взглядом. На ее лице, будто бы поклеваном птицами, не читалось радости. Иногда она смотрела на дочь с удивлением. Еще считала странным, что девочка, Маргарита, никогда громко не плакала. Она тоже не позволяла себе впадать в отчаяние, но по другим причинам».

В четыре года Марго не умела объясняться и поэтому не могла донести, что очень хочется тишины. Иногда она закрывала ладонями уши и морщилась. Но чаще она сидела хмурая и не думала ни о чем хорошем. От досады и непонимания Марго уже тогда, в свои четыре года, испытала отчуждение от матери. Со временем пропасть между ними чернела.

У Марго не было проблем с речью, но сама она редко заводила беседу первой и не стремилась к пустословию и беспредметным разговорам. От разговоров ее укачивало, а по телу гуляла противная зыбь. Когда кто-то незнакомый по воле случая обращался к Марго, то ее лицо отвечало непроизвольными искажениями. Кажется, что тревожные гримасы овладевали ей с раннего детства. Чувствуя ее пугливую робость, окрестные дети из числа уличной шпаны подбегали к ней стайками и дразнили «Чумой». Дурацкое прозвище произносилось громко, часто рыком, а поэтому накатывало внезапно, как тропический шторм. Но настоящей напастью был отец Марго. Он бы и вовсе свел ее в могилу придирками и нравоучениями, если бы не одно магическое качество.

Всякий раз, когда что-то выбивало ее из привычного ритма созерцания жизни, она убегала в лес и укрывалась там. За время искаженного забвения разум не позволял страшному событию отпечататься в памяти. Сначала следовал крик отца, потом побег от всех. В безвременье блужданий она ощущала, как мир превращался в декорацию. Затем валкими кусками он проваливаося в яму, где слизкая чернота

выкупляючы іх у бацькоў. Дзяцей навучалі ўсім неабходным навыкам гадамі, і з тых, хто дажываў да канца, атрымліваліся ідэальныя Найміты…

– Буян, падыдзі, – нерашуча вымавіў бацька.

Буян давязаў чарговы ахапак галля і падышоў да бацькі.

– Сын, мушу сказаць, сёння твой апошні дзень з намі, увечары цябе забяруць.

– Хто? – разгублена спытаў Буян.

– Ты станеш Наймітам.

– Што? Чаму?

– Прабач, мы з маці ўжо ўсё вырашылі. Зразумей, вас шмат і ежы на ўсіх не хапае, там ты будзеш накормлены і апрануты і будзеш ведаць, што твае браты і сёстры таксама сытыя.

– А мяне вы спыталі? Я не хачу станавіцца забойцам.

– Усё вырашана, я ж табе ўжо сказаў. І ў наш час рана ці позна забойцам становіцца кожны. Калі ты надумаеш уцякаць, дык яны заб'юць нас усіх, бо аплату мы ўзялі наперад.

Пасля такой размовы ўсю дарогу дадому Буян з бацькам ішлі моўчкі. Перад уваходам у хаціну Буян з усёй сілы шпурнуў галлё ў сцяну і зайшоў унутр.

– Ужо вярнуліся?-спытала маці.

– Не на доўга, – рэзка адказаў Буян.

– Сынок!

Маці паспрабавала яго абняць, але ён адштурхнуў яе.

– Не трэба.

За вячэрай усе сядзелі моўчкі. Пасля Буян гуляў з малодшымі дзецьмі, пакуль не раздаўся стук у дзверы.

– Ідзі адкрый,– сказаў бацька.

Буян адчыніў дзверы. Далей усё адбылося вельмі хутка: яму на галаву накінулі мяшок, звязалі па руках і нагах і кінулі ў вялізныя сані, дзе былі такія ж, як ён. Праз лаянку і стогны ён чуў плач маці, крык малодшых братоў і сясцёр, але ўсё сціхла, як толькі яны з'ехалі дастаткова далёка. Ехалі доўга, у Буяна адмерзлі рукі і ногі, але яму яшчэ пашанцавала, некаторыя змерзлі зусім. У Школе, калі яе можна было так назваць, было дваццаць дзяцей прыкладна аднаго ўзросту. Школу заўсёды стваралі на новым месцы, каб ніхто з былых вучняў не змог расказаць пра яе месцазнаходжанне, а галоўнае не змог вярнуцца і адпомсціць настаўнікам. А помсціць было за што. Навучанне пачыналася з дзесяці ўдараў бізуном раніцай, потым столькі ж у абед і ўвечары. Настаўнікі казалі, гэта для таго, каб будучыя Найміты навучыліся трываць боль і не звяртаць на яе ўвагі. Настаўнікі насілі маскі, каб ніхто не змог іх пазнаць, і дубінкі, якімі маглі агрэць любога за справу і проста так. Гэтым разам Школа знаходзілася ў сетцы пячор, дзе было вельмі холадна і лёгка заблудзіцца. Хадзілі чуткі, што Школу заканчвалі не ўсе, і тыя, хто сюды трапіў, хутка зразумелі, што гэта не чуткі.

Вучні жылі ад сняданку да вячэры, каб хутчэй легчы спаць і забыцца. Сняданак пачынаўся з бізуноў, потым поліўка з растопленага снегу і кары дрэў. На гэты раз Буяна вярнулі з карцара якраз да сняданку. Карцар – гэта маленькая шчыліна ў сцяне, дзе можна было толькі ляжаць. Першыя гадзіны абвыкаеш да болю ад камянёў, якія ўпіваюцца ў скуру, потым траціш ад болю прытомнасць, а ачуўшыся, зноў абвыкаеш да болю. Сярод вучняў павагай карысталіся тыя, у каго было больш ірваных ран ад карцара, Буян стаў самым паважаным. Адначасова ён быў і найлепшым вучнем, а ў карцар трапляў за тое, што даваў адпор настаўнікам. Пасля сняданку пачыналася вучоба і заўсёды з аднаго і таго ж практыкавання: трэба было некага забіць. Пачыналася ўсё з казурак, і з кожным годам ахвяры раслі ў памерах. Цяпер гэта ўжо былі сабакі, якіх спецыяльна вырошчвалі ў школе побач з вучнямі. Сабакі былі вялікай рэдкасцю ў хлопцавых вёсках. Іх засталося дванаццаць, па колькасці пакінутых вучняў. Васьмярых да гэтага часу ўжо не стала з розных прычын, але канец

ва ўсіх быў адзіны: іх выкідвалі за мяжы пячор, як смецце.

– Ну, хто першы? – раўнуў настаўнік Белы Ікол, як яго празвалі вучні за адзін ікол у роце.

Усе стаялі як укапаныя.

– Ну! – паўтарыў ён свой крык і ўдарыў бліжэйшага вучня так, што той упаў, страціўшы прытомнасць.

Буян моўчкі падышоў да сабакі, пагладзіў яго і скруціў яму шыю. Потым падняўся і з усяго размаху выбіў Беламу Іклу апошні зуб. Пасля чаго сам моўчкі пайшоў у карцар.

КАРЦАР ДЛЯ БУЯНА БЫЎ АДЗІНЫМ МЕСЦАМ, ДЗЕ ЁН МОГ ДАЦЬ ВОЛЮ ПАЧУЦЦЯМ. ТАМ МОЖНА БЫЛО ПЛАКАЦЬ І СТАГНАЦЬ АД БОЛЮ – І ЎСІМ БЫЛО ПЛЯВАЦЬ НА САПРАЎДНУЮ ПРЫЧЫНУ. БУЯН ПЛАКАЎ ПА РАССТАННІ З БРАТАМІ І СЁСТРАМІ І З-ЗА ТАГО, ШТО ДАВОДЗІЦЦА ТУТ РАБІЦЬ.

Ён плакаў, а потым засынаў. Сны былі адны і тыя ж: ён гуляў па зялёным лесе, які ён сабе ўяўляў з казак, пачутых у дзяцінстве. Там былі вялізныя зялёныя дрэвы з лісцем розных формаў. Розная ежа нябачаных памераў і колераў. Нейкія невядомыя звяры і птушкі, а галоўнае – шмат шчаслівых і ўсмешлівых людзей. Потым Буян прачынаўся і ляжаў моўчкі. Для сябе ён даўно вырашыў, што адзіны спосаб збегчы адсюль – гэта скончыць навучанне. Таму ён быў найлепшы ва ўсім. Аб ім ужо хадзілі чуткі яшчэ да выпуску, і многія Паляўнічыя і Захавальнікі чакалі яго да сябе ў асабістыя найміты.

Выпускны іспыт складаўся з першай замовы, пасля якога былы вучань ці застанецца ў жывых, выканаўшы яе, ці яго заб'юць пры выкананні. Імёны ахвяр пісалі на лапіках тканіны, кідалі ў мяшок, і кожны выпускнік цягнуў сабе імя. Буян, як заўсёды, выйшаў першы і выцягнуў свой шматок. Імя было яму добра вядомае: так звалі галоўнага Паляўнічага. Насамрэч на ўсіх кавалках было гэтае імя, Захавальнікі Агню вельмі шчодра заплацілі за тое гільдыі Наймітаў у надзеі, што ў кагосьці атрымаецца. Пасля гэтага рытуалу ўсіх вывелі з пячоры, а саму пячору падпалілі. Ніхто – ні вучні, ні настаўнікі – не азірнуўся. Усіх на санях падвезлі да першай вёскі і адправілі на чатыры бакі.

За час, праведзены ў Школе, усе мяняліся да непазнавальнасьці, так што нават родныя не зразумелі б, хто перад імі. Але Буян не стаў рызыкаваць і блізка да бацькоўскай хаты не падыходзіў, назіраў збоку. Бацькі моцна састарэлі, браты і сёстры падраслі. Глядзець на маці з бацькам, якія прадалі яго, было асабліва балюча, і ён адправіўся вывучаць ледзяную крэпасць Галоўнага Паляўнічага. Крэпасць з цягам часу стала зусім непрыступнай. Пасля месяца пошуку Буян знайшоў адзіны слабаахоўны шлях. Праз вяршыню стромай скалы, да якой прылягала крэпасць з аднаго боку. Добра падрыхтаваўшыся, Буян накіраваўся туды. Пад'ём на вяршыню быў доўгі і цяжкі, па дарозе ён увесьчас натыкаўся на змёрзлых людзей, але ён не спыняўся, вырашыўшы па-класці усяму гэтаму канец, бо дакладна ведаў: калі ён не выйдзе на замову, яго знойдуць і заб'юць. Дабраўшыся да вяршыні, Буян упаў, але не ад стомы, а ад убачанага: перад ім сядзела бабулька.

– Буян, заўсёды ёсць выбар, запомні гэта, – сказала яна.

Ён працёр твар халодным снегам, і бабулька знікла.

– Прымроілася, – прашаптаў Буян і падпоўз да краю.

Велізарная крэпасць глядзелася маленькай і нязначнай.

– Дык вось як на нас глядзяць Багі,– сказаў ён і стаў рыхтаваць «коткі» для спуску ўніз.

А спуск меўся быць даволі доўгі і небяспечны. Нехта іншы, хутчэй за ўсё, зваліўся б, але не Буян, які столькі часу правёў у халодным карцары. Змёрзлыя і пакрытыя ранкамі рукі працавалі як ні ў чым не бывала. Спускаўся ён па начах, а днём спаў у расколінах, да падножжа дабраўся праз тыдзень. Як Буян і меркаваў, ніхто скалу не ахоўваў, таму што нікому і ў галаву б не прыйшло там спускацца. Ціха, як цень, ён прабраўся незаўважаны у палац, а потым і ў спальню Галоўнага Паляўнічага. Ён замёр над галавой таго, у чыіх руках была велізарная ўлада над простымі людзьмі. Буяну ўсяго і заставалася скончыць пачатае, як яго погляд наткнуўся на невялікі пергамент з малюнкамі. Ён прыгледзеўся, гэта нагадвала вельмі старую карту. У яго галаве прагучалі словы бабулькі з гары: «Выбар ёсць заўсёды», – ён пачаў успамінаць старыя вулічныя байкі аб месцы, дзе няма Зімы, месцы з яго сноў. Буян схапіў карту і пабег як ашалелы. Для дасведчанага Паляўнічага нават дробны шоргат нагода прачнуцца і насцярожыцца, не тое што рэзкае храбусценне пергаменту практычна над вухам.

– Варта! Злавіць злодзея! – раздаўся гучны крык.

І пачалося пекла: стрэлы, дзіды, нажы, камяні, усё ляцела ў Буяна. Адзінае месца для адступлення было тое, як ён прабраўся сюды. Ён нібы павук ускарабкаўся як мага вышэй, а потым стала цяжэй, сіл пасля спуску амаль не засталося. Паднімацца прыходзілася ў поўнай цемры і па шчылінах, якія хавалі яго ад стрэл. Усе стражнікі адсталі, калі вышыня стала ўжо смяротнай, але Буян не спыняўся і караскаўся з картай у зубах. Потым, калі адрэналін адпусціў, ён спыніўся перавесці дух і паглядзеў уніз. Галоўны Паляўнічы рыхтуе сані. Буян зразумеў, што той намерваецца дагнаць яго на вяршыні. Трэба было падумаць, таму ён залез у цёмную галіну, якая аказалася пячорай. Ён прабраўся як мага глыбей і прылёг адпачыць.

– Наверх больш нельга, – гаварыў ён сам з сабой, – і ўніз таксама. Куды? Куды?

З гэтым пытаннем ён і заснуў. Прачнуўшыся, ён агледзеўся, пры сонечным святле пячора выявілася не вельмі маленькай і, відаць, мела працяг.

– Вось куды! – узрадаваўся Буян і пачаў прабірацца ўсё глыбей у пячору.

Тым часам Галоўны Паляўнічы, загнаўшы да смерці сваіх ездавых сабак, ішоў угору пешшу. На вяршыні яго сустрэў вельмі высокі старац з аграненымі сняжынкамі замест вачэй. Сам Бог Зімы стаяў на вяршыні.

– Ты выпусціў карту, якую я даверыў табе!

Пасля яго крыку з гары сышла лавіна. Галоўны Паляўнічы ўпаў на калені і стаяў моўчкі.

– Мы заключылі дамову! Твая неўміручасць у абмен на тваю вечную службу і ахову гэтай мапы! Вярні яе і забі таго, хто яе ўбачыў! А інакш ты нават не ўяўляеш, як доўга і холадна ты будзеш паміраць!

Пасля гэтых слоў паднялася моцная завіруха з каваланчкамі дробнага лёду, якія парэзалі ўсё цела Галоўнага Паляўнічага, і Бог Зімы знік.

Буян, прабіраючыся скрозь цемру, уткнуўся ў ледзяную сцяну.

– Няўжо тупік, – са злосцю прабурчаў ён.

Але хутка зразумеў, што гэта лёд. Дастаўшы нож, Буян пачаў дзяўбці сабе дарогу наперад, і праз нейкі час у пячору ўварваўся маленькі, але востры прамень святла.

– Так! – узрадаваўся Буян.

Яшчэ праз пару гадзін ён ужо прывыкаў да святла пасля цемры, а як вочы зусім звыкліся, паглядзеў на карту. На карце былі невялікія пазнакі ў выглядзе Сонца над гарой. Буян пачаў

шукаць падобныя вяршыні і знайшоў, як яму падалося.

– Мусіць, туды.

Схаваўшы карту пад вопратку, ён выправіўся ў дарогу, куды накіроўвала яго мапа. Галоўны Паляўнічы, не дачакаўшыся Буяна, спусціўся з гары, запрог новых сабак і адправіўся на яго пошукі. А той ішоў сабе зусім спакойна, запускаючы пры дапамозе лёду сонечных зайчыкаў.

– Так далёка дакладна ніхто з паселішча не заходзіў, – прыгаворваў Буян сам сабе.

Начаваў то ў пячоры, то выкопваў сабе ў снезе яму, каб не задзімала ветрам. Разумеючы, што пагоня ўсё ж недзе ёсць, ён стараўся замятаць сляды. Але сілаў заставалася менш, і неўзабаве ён перастаў гэта рабіць. Пасля тыдня снежных пустынь і гор ён апынуўся ў ледзяным лесе, месцы адначасова прыгожым і жудасным. На ледзяных галінках сядзелі ледзяныя птушкі, паміж дрэў можна было сустрэць ледзяных звяроў. Такое адчуванне, што ўсе яны ператварыліся ў лёд за адну секунду.

– Прыгожа, праўда? – раздаўся хрыплы голас Галоўнага Паляўнічага. – Гэта Клятвенны Лес Паляўнічых, тут Бог Зімы паказаў мне сваю сапраўдную моц.

– Тут усё мёртвае, гэта не прыгожа, гэта страшна.

– Ты смелы і моцны хлопец, ты мне падабаешся, зробім так: аддаеш мапу і ідзеш да мяне на службу. У цябе будзе ўсё, што пажадаеш.

– Дзякуй, але калі хоць частка таго, што распавядаюць пра месца на гэтай мапе, – праўда, то кожны чалавек можа атрымаць куды больш, чым прапануеш ты і твой гаспадар.

– Ты дурань, ніхто ніколі не даходзіў да канца! – губляў цярпенне Галоўны Паляўнічы.

– Адкуль ты ведаеш?

– Таму што шмат каго забіў асабіста я!

Буян кінуўся бегчы па лёдзе, кранаючы ледзяныя галінкі, якія са звонам сыпаліся на Зямлю. Галоўны Паляўнічы арыентаваўся лепш за Буяна і хутка дагнаў яго. Пачалася бойка. Буян упаў на змёрзлую лісіцу, тая разбілася на друзкі, падрапаўшы яму твар. Паляўнічы кінуўся дабіваць Буяна, але той вывернуўся і спрытным рухам усадзіў нож у сэрца Галоўнага Паляўнічага, як яго вучылі. Але крыві не было.

– Ты здзіўлены? – засмяяўся Галоўны Паляўнічы.– Гэта падарунак ад Бога Зімы.

Буян яшчэ некалькі разоў спрытна ўдарыў. Галоўны Паляўнічы са смехам устаў і не спяшаючыся пачаў заносіць свой паляўнічы нож над галавой хлопца.

БУЯН РЭЗКА ЎСКОЧЫЎ, НАКІНУЎ МЕТАЛІЧНУЮ ПЯТЛЮ НА ШЫЮ ГАЛОЎНАМУ ПАЛЯЎНІЧАМУ І АДРЭЗАЎ ЯМУ ГАЛАВУ, ПАСЛЯ ЧАГО ТОЙ НАРЭШЦЕ ПАВАЛІЎСЯ. ХЛОПЕЦ АДПОЎЗ І НЕЙКІ ЧАС ЯШЧЭ БЫЎ НАПАГАТОВЕ, АЛЕ ПОТЫМ ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ГАЛОЎНЫ ПАЛЯЎНІЧЫ ЎЖО НЕ ПАДЫМЕЦЦА.

Ён паклаў галаву ў мяшок, каб потым па дарозе выкінуць. Знайшоўшы сані, на якіх прыбыў яго праціўнік, Буян абшукаў іх, забраўшы ежу, некалькі шкур і снегаступы, каб лягчэй было рушыць далей. Сабак і сані ён пакінуў, бо праехаць праз лес на іх было немагчыма. Праз пару дзён ён выйшаў з ледзянога лесу да вусця змёрзлай ракі, трымаючыся мапы, пайшоў уздоўж ракі. З боку ледзянога лесу стала паднімацца снежная бура, якая рухалася прама на Буяна. Чым бліжэй падбіралася бура,

тым выразней вылучаўся велізарны твар у яе спераду, гэта сам Бог Зімы праследаваў яго. Буян пакідаў усё што можна было, збярог толькі мапу і пастараўся паскорыцца. Бура была хутчэйшая за яго і ўцячы ад яе было немагчыма, тады Буян устаў да яе тварам, рыхтуючыся прыняць сваю долю па-мужчынску. Раптам на яго выскачыў вялізны Воўк і пабег хутка ўбок.

«У звера нюх лепшы», – падумаў Буян і пабег за зверам.

Праз некалькі метраў ён праваліўся ў вялізную ледзяную і коўзкую пячору і пакаціўся схілам па лёдзе.

Тым часам Воўк спыніўся, павярнуўся пысай да буры і ператварыўся ў сівога Старца.

– Ты абяцаў не ўмешвацца, Бацька, – сказаў Бог Зімы.

– Я і не ўмешваўся, сынок. Ён перасек Ледзяны лес, а значыць, зямля нічыйная і дамова не сапраўдная, – адказаў Усеайцец. Пасля гэтага зноў ператварыўся ў Ваўка і ўцёк, а Бог Зімы яшчэ нешта крычаў яму ў след.

Каціўся Буян па лёдзе вельмі і вельмі доўга, пакуль з усёй сілы не ўрэзаўся ў ледзяшы, якія са звонам разляцеліся і ў вочы ўдарыла яркае святло і зеляніна. Ён больш не слізгаў, а каціўся кулём па мяккай зялёнай траве. Калі ён спыніўся, яго абступілі зусім невядомыя людзі, апранутыя ў лёгкае адзенне. Буян, не паспеўшы ачомацца, ускочыў і выхапіў нож.

– Дзе я?! – закрычаў ён. – Хто вы?!.

Вочы не маглі прывыкнуць, усё было не белае і таму нязвыклае. Яму рабілася горача.

– Гэта што, чарговы сон? – прамармытаў Буян.

– Не, гэта не сон, – адказаў яму малады хлопец. – Я Бог Вясны, дзесьці тут мае браты Бог Лета і Бог Восені.

– Гэта апошні, – вымавіў яшчэ адзін малады чалавек, Бог Лета.

– Што значыць апошні? – спытаў Буян.

– Ды разыдзіцеся вы, дайце яму ачуняць,– сказала бабулька, у якой Буян пазнаў тую самую з вяршыні гары.

– Ён апошні, Мама, нам пара пачынаць, – сказаў падышоўшы Бог Восені.

– Ды што пачынаць, што значыць апошні?

– Я ўсё табе раскажу, а ўсе астатнія пайшлі прэч! – усе паслухмяна разышліся.

– Ты апошні, каго мы чакалі, дзевяць тысяч дзевяцьсот дзевяноста дзявяты чалавек. Зямля моцна прамерзла, і каб яе сагрэць трэба станцаваць Танец Зямлі. Яго павінны станцаваць дзевяць тысяч дзевяцьсот дзевяноста дзевяць чалавек, якія вераць. І ты верыш таксама, калі дабраўся сюды. Раней людзей прыходзіла больш, бо свежыя былі ўспаміны аб ранейшым жыцці і моцная была вера, але потым з цягам часу іх рабілася менш. Тут час цячэ інакш, таму ніхто з іх не састарэў. Цябе трэба час каб асвоіцца.

– Не, не трэба, давайце пачнём вучыць танец.

– Добра, тады мая ўнучка Зорка цябе навучыць, але для пачатку памыйся і пераапраніся.

– Добра.

Да іх падышла прыгожая дзяўчына з белай скурай і чорнымі валасамі, у руках у яе было адзенне.

– Ідзі за мной, – сказала яна.

Зорка была вельмі прыгожая, Буян упершыню разгубіўся за доўгі час. Ён моўчкі ішоў за ёй і стараўся не глядзець на яе, але гэта ў яго атрымлівалася дрэнна.

– Ты можаш глядзець на мяне і нават размаўляць, – з усмешкай на вуснах сказала Зорка.

– Гэтая бабулька, Бог Восені назваў яе Мамай.

– Так, гэта Багіня Маці.

– А ты яе ўнучка, ты таксама Багіня?

– Так, – усміхнулася дзяўчына.

– Багіня чаго?

– Багіня Месяцовага Святла.

Пасля гэтага Буян не ведаў, што яшчэ спытаць, і далей ішлі моўчкі.

– Вось мы і прыйшлі, – сказала дзяўчына.

Перад імі было вялізнае возера. Столькі не змёрзлай вады Буян не бачыў ніколі.

– Ты можаш выкупацца тут, а я пачакаю цябе ля таго Дуба, гэта тое вялікае дрэва, – заўважыўшы яго здзіўленне дадала Зорка.

Буян скінуў з сябе шкуры і ў кашулі і штанах павольна пачаў заходзіць у ваду. Яна была цёплая. Адчуванні неймаверныя, яго цела рабілася лёгкім, і з брудам мірскім змываўся таксама душэўны бруд, ён адчуваў, як становіўся чысцейшым. Яму не хацелася выходзіць, але ўсведамленне таго, што вельмі шмат людзей пазбаўлены гэтага пачуцця і мерзнуць дзесьці, не дазволіла яму доўга атрымліваць асалоду ад усяго. Ён памыўся, пераапрануўся і падышоў да Зоркі.

– Я гатовы.

– Добра. Тады паўтарай за мной.

І яны пачалі вучыць танец пад звонкі смех Зоркі і пах свежага дубовага лісця.

– Ты хутка схопліваеш, – сказала Зорка.

– Ты добра паказваеш, – адказаў Буян.

Яны танчылі кожны дзень ад світання да заходу і закахаліся адно ў аднаго. Праз некалькі дзён Буян усё вывучыў.

– Ты гатовы, – сказала Зорка.

Буян нічога не адказаў і пацалаваў яе.

– Прабач, – сказаў ён.

– Усё добра, мне прыемна і спадабалася, – і яна пацалавала яго ў адказ.

– Я не хачу, каб гэта скончылася, ну не танец, а мы разам.

– Калі не хочаш, значыць не скончыцца, – усміхнулася яна, – але як толькі Зямля адтане, усё вернецца на свае месцы. А я буду з'яўляцца толькі ўначы, з першым месячным святлом.

– Тады я буду чакаць цябе ў нашым доме на вяршыні самай высокай гары, каб першае месячнае святло трапляла адразу да мяне.

Яны абняліся і пайшлі да астатніх. На вялізнай паляне ўсе людзі сталі ў вялікую спіраль. Буян устаў апошнім. Усе ўзяліся за рукі.

– Заплюшчыце вочы і адчуйце адно аднаго, – сказала Багіня Маці.

Усё так і зрабілі.

– Пачалі!

З першым рухам спіраль з людзей пачала свяціцца, і чым хутчэй станавіліся рухі, тым ярчэй яна свяцілася.

ПА ЎСЁЙ ЗЯМЛІ СНЕГ ПАЧАЎ РАСТАВАЦЬ ЗНІЗУ, ПРАГРЭТАЯ ЗЯМЛЯ ТАПІЛА СНЕГ І ЎБІРАЛА ВАДУ, ТАКУЮ НЕАБХОДНУЮ ДЛЯ БУДУЧАЙ РАСЛІННАСЦІ. ЛЕДЗЯНЫЯ ПАЛАЦЫ РАСТАЛІ, ЯК І ЎВЕСЬ СНЕГ, І НА ЗЯМЛІ НАСТАЛА ВЯСНА.

Усё жывое на Зямлі яшчэ мела прайсці цяжкі шлях адраджэння, але пачатак быў пакладзены. Сонца пачало грэць. Пасля танца ўсе разыходзіліся па сваіх родных мясцінах. А Буян узлез на самую высокую гару, дзе, як і абяцаў, пабудаваў дом, у якім кожны вечар чакаў сваю каханую Зорку.

# АЛЕСЯ ИВАНЬКОВА

## ВНУТРИ МЕНЯ СОЛНЦЕ

Я долго не решалась выйти на улицу, тянула время, придумывала отговорки. Без предупреждения ушла в отпуск, потом на больничный, долго работала из дома. Наконец, поняла, что больше не могу это скрывать. Собралась, взяла ключи от квартиры, спустилась вниз. Был пасмурный день, и от этого моя необычность казалась ещё более выдающейся: у меня внутри сияло солнце, центр которого совпадал с центром моего солнечного сплетения. С того дня, как я его заметила, солнце заметно выросло, и теперь я была похожа на беременную, хотя ничего такого не чувствовала.

Как я и предполагала, стоило мне выйти за порог, как вокруг меня начала собираться толпа. Сначала один, потом другой: мама с ребёнком, дворник, пожилой сосед с собачкой, водитель, только что припарковавший машину, курившие у подъезда подростки. Кто-то шёл в магазин или в банк, кто-то увидел меня из окна – теперь все они были здесь. В школе через дорогу ещё не закончились уроки, а к нам уже спешили дети вместе с учителями. Я была как ядерный взрыв – меня сложно было не заметить.

У всех на лицах были улыбки. Слышался шёпот: какая красота, ой, ой. Я забыла, куда я шла, просто стояла и глазела по сторонам. Постепенно мне начала нравиться моя новая роль. Я чувствовала себя центром мироздания, первобытной Евой. Я дарила им свет и купалась в свете, который они дарили мне. Людей становилось всё больше. Они толпились вокруг меня, как маленькие, просили потрогать.

«Хорошо, – сказала я. – Только осторожно».

Первыми подошли мама с ребёнком. Мама отпустила его руку, и ребёнок прижался щекой к моему животу.

«Жарко! – сказал он, отступив на шаг. – Почти как настоящее солнце».

«Это и есть настоящее солнце», – сказала я.

«Это невозможно, – упрямо заявил дворник. – Температура солнца достигает 10 миллионов градусов Цельсия. Мы бы сгорели заживо».

Я пожала плечами.

«Не знаю, мне нормально».

«И как к этому отнеслись ваши родители?» – спросил пенсионер.

«Мне кажется, они не заметили, – сказала я. – Они привыкли к яркому свету».

Пенсионер покачал головой.

«Я с таким ещё не сталкивался, но уверен, что на это есть налог, –

наставительно произнёс нависший надо мной водитель. – Не заплатил налог – плати штраф!»

«Ну зачем вы так? – возмутилась молодая мама. – Не за всё ведь на свете надо платить. Вообще, такие вещи должны быть бесплатно».

«А электричество у вас в квартире тоже бесплатное?» – спросил водитель.

«Я отказываюсь отвечать на этот вопрос».

«И что, она так теперь повсюду ходить будет? – возмутилась учительница русского языка. – Не дай бог, дети будут брать с неё пример. Нам тогда что делать?»

К ней подключились физичка, химичка, и техничка. Вскоре преподаватели ожесточённо спорили, а я запахнула пальто и отошла в сторону в надежде затеряться в толпе. Но не тут-то было. Моё внутреннее солнце сияло ярче прежнего.

«Посмотрите, что вы наделали, – пенсионер подёргал меня за рукав. – Вы нарушаете общественный порядок».

«Но я ничего…» – начала было я.

Молодая мама взяла своего ребёнка за руку и, пряча взгляд, пошла прочь. Неожиданно для себя я почувствовала, как мои ноги отрываются от земли. Мне стало неудобно, и, чтобы отвлечь внимание, я стала пританцовывать. Некоторые люди восприняли это неоднозначно.

«Да она над нами издевается!» – фыркнул дворник, бросив метлу.

«ВЫЗЫВАЙТЕ МИЛИЦИЮ! ПУСТЬ САМИ РАЗБИРАЮТСЯ, ЧТО С НЕЙ ДЕЛАТЬ», – ПРЕДЛОЖИЛ ВОДИТЕЛЬ, КОТОРЫЙ ПОЧЕМУ-ТО ДО СИХ ПОР НЕ УШЁЛ.

Между тем, я продолжила взлетать вверх, и вцепившийся в мой рукав пенсионер уже не касался земли. За него, как за репку, держался водитель, дети, учителя, но их сил не хватало. Когда приехала милиция, было поздно: я долетела до восьмого этажа и продолжала подниматься. Людям ничего не оставалось, как, закинув голову, наблюдать за моим полётом.

К вечеру я поднялась так высоко, что меня уже никто не мог достать. Ни странные, злые люди, ни милиция, ни президент. Было безоблачно, и несмотря на поздний час, в небе засияло солнце.

# ПУТЕШЕСТВИЕ В ЯПОНИЮ

В прошлый четверг Саша закончил работать над мультиком в студии анимации. В этом мультике он нарисовал, как большой белый корабль несёт его по волнам к Японии, где живет семья Хироси Сасагава, которая пожертвовала деньги на его лечение – у Саши была та же болезнь, что и у их сына Фумихиро. Он никак не мог запомнить, как эта болезнь называлась, но она всегда напоминала ему о волшебниках из Гарри Поттера. Саша и Фумихиро вдвоём стояли на носу судна и держались за плечи, как два капитана. Рядом были их родители. Через неделю Саши не стало.

Его мама долго не могла поверить, что это произошло. Годы спустя она вспоминала его улыбку, его волосы – все в семье были блондинами, и только Саша родился с чёрными волосами, цвет которых не поменялся с возрастом. До сашиной болезни она хотела сменить работу, но борьба с болезнью отняла у неё желание что-то менять, и она так и осталась работать в библиотеке. Она часто фантазировала на тему того, что было бы, случись всё по-другому. Каким бы теперь был Саша? Превратился бы он в неуправляемого подростка, красил волосы в синий цвет, как когда-то это делала она, слушал тяжёлый металл? Она бы не ругала его, как когда-то это делала её мама, и ходила бы с ним на концерты своих постаревших кумиров.

Уже не один год её мучила бессонница, от которой ей помогало лишь сочетание снотворных и транквилизаторов. В иной дозировке они могли быть опасными, и, весьма вероятно, знакомые врачи запретили бы их принимать. Но она уже всё перепробовала и знала, что больше ей ничего не поможет. Она запила таблетки водой и потянула за шнурок абажура. Стоило ей закрыть глаза, раздался нетерпеливый стук в дверь.

Кто это мог быть? Она нащупала ногами тапочки, подошла к двери и заглянула в глазок. За дверью стояла незнакомая женщина в белом медицинском халате.

«Кто вы? Что вам надо?» – спросила Сашина мама.

«Пожалуйста, откройте! У меня для вас хорошие новости… насчет Саши!»

Хорошие новости? Это такая редкость. Но причём здесь Саша? Как она смеет!

Она повернула ключ. Дверь со скрипом распахнулась.

«Послушайте, если вы собираетесь меня разыгрывать, то я совсем не тот человек. Я вызову милицию!»

«Простите, я не хотела вас обидеть. Дело в том, что я Сашин врач. Мы наконец-то нашли лекарство. Он сможет жить!» – возбуждённо сказала врач.

«Что вы такое говорите? Саши давно нет… вы, должно быть, решили надо мной пошутить…»

«БЛАГОДАРЯ ПОСЛЕДНИМ УЛУЧШЕНИЯМ В МЕДИЦИНЕ МЫ МОЖЕМ ЛЕЧИТЬ ПАЦИЕНТОВ ЗАДОЛГО ПОСЛЕ ИХ СМЕРТИ, – ЗАЯВИЛА ВРАЧ. – ОДЕВАЙТЕСЬ, МЫ ЕДЕМ В БОЛЬНИЦУ!»

«Но как…» – пробормотала Сашина мама, натягивая пальто поверх пижамы.

Не переобувая тапочек, не закрыв квартиры, она побежала вниз по лестнице. Врач ждала её внизу рядом с машиной скорой помощи. Внутри на каталке лежал Саша. Мама прикоснулась к его лицу и поцеловала, Саша открыл глаза и улыбнулся.

«Мама…»

«Сашенька, я же тебя похоронила, – со слезами сказала женщина. – Прости меня!»

Она заплакала и упала ему на грудь.

«Что ты, мама, не надо так, – произнес Саша, смущенно поглядывая на врача. – Мы поедем в Японию, нас ждет Фумихиро».

«Госпитальное судно доставит вас в Японию для последней операции», – подтвердила врач и сделала знак водителю, чтобы он завел машину.

Всю дорогу мама не отпускала Сашиной руки и не разрешала ему закрывать глаза. Ей казалось, стоит ему заснуть, и он растворится, исчезнет из этого мира.

«Но я хочу спать!» – устало протестовал Саша.

«Мы поспим потом, – сказала ему мама. – Мы заснем вместе».

Через полчаса они были в порту. На пристани стояло госпитальное судно, белое, величественное, с большим красным крестом на боку. С палубы им махал Фумихиро. Рядом стояли его папа и мама, господин Хироши и госпожа Хикара. Они все были рады их видеть. Мама помогла Саше подняться по трапу. Раздался шум двигателя и судно медленно стало удаляться от берега. Вскоре нельзя было разглядеть ни Сашу, ни Хироши, ни их родителей. Даже большой красный крест казался скорее не крестом, а большим красным кругом на белом горизонте. Наконец, они плыли в Японию.

# ВЛАДИМИР КОЗЛОВ

## РОЖДЕСТВО-1991

В моем советском детстве не было праздника под названием «Рождество». Не потому, что детство прошло в атеистическую советскую эпоху. Неформально религиозные праздники отмечали, и власти на это закрывали глаза.

На Пасху красили яйца смесью, состоящей из луковой шелухи и чего-то еще, и бабушка ездила в церковь (единственный раз в год!), чтобы их там святить.

И еще она пекла кулич. И мы ходили на кладбище – навестить могилы родственников. А на девятый день после Пасхи была Радоница, и визит на кладбище повторялся, но уже с закуской и выпивкой.

А вот Рождества просто не было. И не только у нас в семье. Я не слышал, чтобы кто-либо из знакомых, друзей или дальних родственников праздновал Рождество – католическое или православное.

Возможно, в других частях Советского Союза – например, в Прибалтике или даже Западной Беларуси, с их католическими традициями, – было по-другому. Но в Могилеве, областном индустриальном городе на востоке Беларуси, религиозная составляющая Рождества никого не интересовала, а для новогодней был собственно Новый год.

Рождество появилось для меня в 1991 году и случайно стало символом того бардака, который творился в те переломные годы в стране и в головах у людей.

Тогда еще никто не знал, что зима 1990–1991-го станет последней зимой СССР, но она была на редкость мрачной. Советская система планирования и распределения товаров рухнула, и на некоторые товары ввели талоны. Появилась «коммерческая» водка по 15 рублей (по «государственной» цене – 10 рублей – можно было купить по талонам только две бутылки в месяц). Из продажи исчезали то сигареты, то что-то еще.

Перегоревшие лампочки на лозунге «Слава КПСС» над крышей элитного дома на улице Первомайской уже не меняли, и по ночам лозунг не светился. Одна из двух букв «С» покосилась, и ее никто не поправлял.

Формально советская империя еще существовала, но идеология

построения коммунизма уже отправилась на помойку. А жить в состоянии идеологического вакуума было сложно, особенно на фоне всеобщего бардака и коллапса, и граждане разваливающейся страны искали замену идеологической парадигме Страны Советов.

ОДНОЙ
ИЗ ВОЗМОЖНЫХ
ЗАМЕН БЫЛА РЕЛИГИЯ,
В КОТОРОЙ
БОЛЬШИНСТВО ЛЮДЕЙ
НИЧЕГО НЕ ПОНИМАЛИ:
ДЛЯ НИХ ОНА СВОДИЛАСЬ
К НЕСКОЛЬКИМ
ФОРМАЛЬНЫМ РИТУАЛАМ
НА ПАСХУ И РАДОНИЦУ,
ПРО РЕЛИГИОЗНЫЙ
СМЫСЛ КОТОРЫХ
ОСОБО И НЕ ДУМАЛИ.

Православное Рождество 1991-го в первый раз было официальным праздником (католическое Рождество впервые будет объявлено нерабочим днем в Беларуси в том же году, уже после официального распада Советского Союза). И по этому случаю в Могилеве проходил «концерт духовной музыки».

Местом проведения – по иронии – был дворец пионеров, еще недавно территория будущих строителей коммунизма. Вход – свободный. Более того, на расклеенных по городу афишах говорилось, что на концерте будут бесплатно раздавать Библию.

Я пошел на мероприятие из любопытства. Религия интересовала меня постольку поскольку – пожалуй, лишь как любое новое, что тогда стихийно врывалось в привычный советский образ жизни. В религию как замену коммунистической идеологии или хотя бы во что-то такое, что поможет пережить смутное время, я не верил.

Когда я вошел в зал дворца пионеров, туда набилось уже довольно много народу. Из разговоров я понял, что сколько-то экземпляров Библии действительно раздавали в самом начале, и первые пришедшие смогли их отхватить. Народ возмущался: как это, мы пришли сюда за Библией, а нам ее не выдают! Что за безобразие такое?

В этот момент в зал вошел священник – очевидно, один из руководителей Могилевской епархии. Он нес запечатанную в целлофан пачку Библий. Увидев потянувшиеся к нему руки, священник произнес что-то в духе:

– Нет, нет, это – для гостей.

Такие слова совершенно не помогли и, более того, вызвали обратную реакцию. На священника накинулись, отобрали у него пачку, разорвали целлофан и, отталкивая друг друга и хватая за куртки и пальто, расхватали те несколько экземпляров Библии.

Те, кому не досталось, еще некоторое время переругивались со счастливыми обладателями книги, а священник ретировался под крики «Ну-ка неси еще!».

Я подумал, что вряд ли большинство людей, заполучивших сейчас Библию, станут ее читать. Скорей всего, просто поставят на полку в стенке, рядом с хрустальными фужерами и вазами. Любая дефицитная вещь тогда ценилась уже по причине самой дефицитности, и не было большой разницы между Библией и парой ботинок Salamander.

Я не остался на концерт. С меня хватило перформанса.

# СЯРГЕЙ КАЛЕНДА

## АХВЯРНАЯ ЖЫВЁЛА

*Не вымаўляй імя Госпада,*
*Бога твайго, марна*
Выхад 20:7

**1.**

– Сын, сыночак, дарагі мой, Гасподзь мой Любы, які ты брудны і які рот у цябе злы – столькі мацюкоў! Так нельга! Ты зусім ад рук адбіўся. Маленькім быў такім добрым, ласкавым, а цяпер, як на голках жывеш, а татуіровак колькі яшчэ ў цябе з’явілася, то я нават і ня ведаю! – маці маліла Іллю, каб той хоць на хвілінку да яе прыслухаўся.

– Жыві хутка, мля, памры маладым, я далучыўся да клуба «дваццаць сем», і мяне ўжо не спыніць – прамовіў хлопец і далей, на зло маці, прамовіў страшную тыраду, дзе мяшаў імя Бога, мацюкі і слэнг. – А ты, дарэчы, будзеш у пеклы палаць, бо імя Бога ўстаўляеш у кожны сказ, сама мяне ў Біблію тыкала, пра гэта чытала, цяпер і мая чарга! – сказаў хлопец і смачна харкануў сабе ў кулак, бо не мог усё-ткі на падлогу, пэўна ж, у хаце, а не ў хляве.

– Ды адкуль жа ты гэтую сваю суполку прычапіў. Што гэта ў цябе за чорныя жарты, ты ж як чорт, мо сапраўды хто цябе адурманіў! – маці з агіднасцю глядзела, як сын у кулаку расцірае соплі. Ілля вярнуўся дадому, прагуляўшы ў Маскве два тыдні, а дакладней, адпрацаваўшы на будоўлі, нелегальна, не маючы ані сподняга, ані мабільнага, зарабляючы на квіток ў Менск. Так здарылася, што ён, непрытомны, пасля нейкіх незразумела з кім злоўжыванняў, апынуўся на вакзале ў Маскве – без рэчаў, дакументаў і грошай, не памятаючы, як і чаму, але дакладна ведаючы, што ровар, які яму маці падаравала на дзень нараджэння месяц назад, незваротна згублены альбо скрадзены.

– Я не буду ў цябе пытацца, куды ты знік, і нават пра ровар нічога не скажу, але, сыночак мой дарагі, дзякуй Богу, што ты вярнуўся.

– Ізноў бог твой! Я вярнуўся, бо пахаў, як тата Карла, на будоўлі, у іншай краіне, жанчына!

– Божа ж ты мой Божа, Іллюша, ну чаму ты так сябе паводзіш? Ну што ў цябе здарылася, каб так руйнаваць сваё жыццё! Мне так балюча на цябе глядзець! – плача маці, так ціха, каб не злаваць сыночка свайго.

Ілля ў свой час, калі ўсе аднакласнікі пайшлі па ўніверсітэтах, загуляў на год.

Ён сказаў маці, якая адна яго гадавала, як магла, што яму патрэбны адпачынак пасля школы. У армію яго не ўзялі, дзякуючы той жа маці і яе сувязям, таму ён мае права падрыхтавацца да ўніверсітэцкага жыцця па-еўрапейску: спачатку падарожнічаючы па свеце, гледзячы на іншых і сябе паказваючы, а заадно і шукаючы годную вучэбную ўстанову.

– Чэшскі ўніверсітэт ты кінуў, нават не пачаўшы як след! Цябе пагналі з самага простага факультэта, які я аплаціла за ўвесь вучэбны год! – Маці ізноў пачала нагадваць сыну пра яго жыццёвы шлях. І гэтыя мантры моцна злавалі сына.

– Ды адчапіся ты ўжо са сваёй адукацыяй! Я сышоў, бо кепска там было! Нецікава!

– А чаму паўсюль павінна быць абавязкова цікава?! Вучоба – гэта складаны і цяжкі працэс, які цябе адукоўвае, робіць прафесіяналам, інтэлектуалам…

Ілля насамрэч, праз год алкаголю і наркотыкаў, выдаткаваўшы ўсе грошы, што дзядуля яму залічыў на рахунак з нагоды васямнаццацігоддзя (а сума была даволі буйная), вярнуўся дахаты ў стане смяротнага перапою і ляжаў пад кропельніцамі з вітамінам С, тыдзень, пакуль ачомаўся і яго перастала трэсці, як асінавае лісце на ветры.

І вось Ілля ачуняў і прамовіў, што знайшоў для сябе ўнівэрсітэт у Празе і яму тэрмінова патрэбны грошы, каб найхутчэй пачаць вучобу!

– Ілля, Божанька ўсё бачыць, і не даруе тым, хто падманвае сваю маці. Ты ж казаў мне тады, што вучышся, што ўсё у цябе як мае быць! – Маці зазірала сыну ў вочы, пакуль той, стаміўшыся спрачацца, усё-ткі прысеў за стол на кухні і цяпер вазіў далонню з соплямі па ўнутранай частцы дубовага стала.

– А што, я, па-твойму, не вучыўся? У мяне ўсё было, я б выдатнікам стаў, калі б не гэтыя тупыя прэпады! – ускрыкнуў малады чалавек, калі яшчэ так можна называць чалавека, які чвэрць стагоддзя жыў, быццам усё ўжо абрыдла і кожную хвіліну трэба стымуляваць мозг новымі пачуццямі, эмоцыямі, наркотыкамі, дзяўчатамі.

Ілля моцна сварыўся з маткай, калі тая перастала пералічваць яму грошы, каб ён мог удосталь частавацца забароненымі рэчывамі ў свабоднай Еўропе.

Надоўга пакінуўшы Чэхію, наведаўшы толькі аднойчы Пражскі ўніверсітэт, хлопец пачаў сваю вандроўку па скватах, панк-барах і закінутых дамах. І пакуль атрымліваў грошы і падманваў маці (а гэта з кожным днём станавілася ўсё складаней), ён думаў толькі пра кайф і пра тое, як гэты кайф атрымліваць своечасова і без перабояў.

Маці, калі яна сама, на свае вочы, пабачыла адсутнасць сына ва ўніверсітэце, і праз сяброў знайшоўшы яго ў Вугоршчыне ў стане жывога мерцвяка, не магла нават Богу маліцца, а толькі прамаўляла: «Сынок, сынок, сынок».

Менавіта тады Ілля вырашыў, што будзе мяняць сваё цела і пачне з татуіровак, і як мага брыдкіх і вусцішных, і каб яны былі паўсюль. І першае, што хлопец зрабіў, – гэта накалоў процьму словаў сабе на твар і зрабіў тату-рукавы на абедзве рукі з чарапоў і чортаў.

Потым трапіў у рэабілітацыйны цэнтр, дзе яго спрабавалі ратаваць замененымі аднымі на другія наркотыкамі (як пра гэта кажа Парацэльс: «Усё ёсць атрута і ўсё ёсць лекі, розніца толькі ў дозе»), ажно пакуль не вырашыў перавесці сябе з наркааддзялення ў аддзяленне для буйных суіцыднікаў, разрэзаўшы сабе рукі ад запясцяў да плячэй заточаным прутком ад спружыннага матраца.

– Ніколі ты, сынку, маці сваю не слухаў, а я ж такая наіўная, але

гэта таму, што заўжды цябе любіла, так цябе і песціла, і балавала, што і не заўважыла, як згубіла цябе, цяпер гляджу на цябе і не пазнаю – твар увесь у татуіроўках, шнары паўсюль. – Маці толькі заломвае рукі, стараючыся знайсці штосьці знаёмае ў гэтым брудным, патлатым мужчыне – штосьці з яго дзяцінства. – Кожны дзень Богу малюся, каб жывы быў, каб дамоў вяртаўся, каб працу знайшоў, каб я цябе пачала пазнаваць, бачыць свайго малога сынку.

– Ага, наконт бога твайго, я яшчэ спліт языка зрабіў, сам! – Ілля высунуў з-за частакола гнілых зубоў і развёў ў розныя бакі дзве часткі языка, падобнага цяпер на змяіны. Правая частка кранулася брудных вусоў, а левая аблізала падбароддзе.

– О Госпадзі! – Маці ажно падскокнула на зэдліку і перакрыжавалася.

Ілля з маленства не любіў вучыцца і ў школу хадзіў толькі таму, што там былі Ванька і Валька, якія заўжды маглі разам з ім замяніць урокі на пакупку патрэбных пігулак па рэцэптах, якія Валька цягала з татавага серванта, або алкаголю, які Ванька, са сваім дарослым, парослым шчаціннем тварам, набываў без пашпарта.

Спачатку рэчывы прыцягвалі праз забароненасць і такія яскравыя адчуванні, але пазней, калі арганізм ужо быў не здольны вызваляцца, маладыя людзі пачалі адчуваць адчайнае пахмелле, болі ў суставах, ломку ад недахопу патрэбных «лекаў».

Ілля праз туман у галаве рабіў сабе пірсінг броваў і вушэй – тады было не балюча. Потым ён пракалоў смочкі і нават нос, павесіўшы сабе кальцо, як у быка… Ну, а потым усё зайшло так далёка, што хлопец пачаў нагадваць зялёна-сіняга кракадзіла, але яму было мала, ён займаўся, як казаў усім і самому сабе, «бодзітрансфармацыяй», ды, папраўдзе, проста знішчаў сябе.

– Ладна, маць, слухай, я прыйшоў, каб памыцца, узяць колькі грошай, і заўтра я буду на працы.

– На якой працы? Ты сябе ў люстэрку бачыў? Ты ж падобны да чорта! Дзе ты будзеш працаваць? У цырку?!

– А ідзі ты ў дупу. Калі няма грошай, дай мне пажэрці і што апрануць.

– Я буду за цябе маліцца Пану нашаму Госпаду.

– І ён няхай валіць туды ж!

ІЛЛЯ ЗНАЙШОЎ ПАДПРАЦОЎКУ: ТРЭБА РАЗ НА ТЫДЗЕНЬ ЗАБІРАЦЬ ТАВАР, СКЛАДЗЕНЫ З «МІКСАЎ», І РАЗНОСІЦЬ ПА РАЁННЫХ ХОВАНКАХ. ТАК ЗВАНЫ БЕСКАНТАКТНЫ ГАНДАЛЬ.

Калі ён сустрэўся з дылерам, той доўга разглядаў гэтага чалавека-яшчара і потым прамовіў:

– Так, па раёне ты ходзіш у капюшоне і з чорнай маскай, тату на руках таксама трэба закрыць, і гэта, пірсінг увесь зняць нахран, каб не звінеў мне на працы! І гэтыя лінзы… Гэта што, кашэчыя вочы? Каб зняў, і каб валасы ўсе абрэзаў коратка, пагаліўся… Мне патрэбны чалавек абсалютна адэкватны і незапамінальны. Заўтра пагляджу раніцай, як пачнеш працу, і там праверым цябе ў тэставым рэжыме. Будзеш ужываць тавар – заб'ю. Вось табе пару «калёс», пад імі табе будзе класна і не захочацца жэрці нічога іншага.

**2.**

Раніца. Снег. На вокнах дамоў тут і там міргаюць гірлянды, наклеены выразаныя з паперы сняжынкі. У дзяцінстве перадсвяточныя дні былі самымі складанымі, бо накаляліся эмоцыі і нервы, пад канец год накручаныя ўшчэнт.

Ілля стаіць на рагу дома, пад якім трэба рабіць першую закладку. Барыга разглядае хлопца, які ўпершыню, з дзявятага класа, зняў нават першую сваю штангу з левага брыва.

Малады мужчына, паголены, падстрыжаны пад машынку, без металу, які б вісеў на целе і твары, без кашэчых лінзаў, татуіроўкі ўжо не выглядаюць страшнымі, акуратная ўцепленая вятроўка з капюшонам, пухнатая байка, чорныя джынсы і простыя кеды… Маці спадабалася б. Працадаўца застаўся задаволеным і наказаў за дзень абысці дзесяць месцаў для закладак.

На трэцяй закладцы Ілля, стомлены ад пешых прагулак на доўгія, нязвыклыя для яго арганізма, адлегласці, прысеў у невялікім парку. Пігулкі, якія ён раніцай прыняў, ужо не працавалі, хлопец сядзеў і вагаўся: ужыць адну з закладак і стаць уцекачом альбо неяк стрымацца.

Пакуль Ілля сядзеў і разрываўся паміж д'яблам і анёлам, да яго падышла маленькая котка і села яму на рукі. Котка лашчылася, муркатала, Ілля супакоіўся.

«Вось тут маці сапраўды была б задаволеная! Карціна алеем: яе валацуга-сын з коткай на руках, такі чысты, акуратны і без аніводнай дрэні у скуры. Сапраўдны харашыст, толькі вось праца кепская», – Ілля ўсміхнуўся, коратка так, прыгожа і сумна.

Праз хвіліну купка сасудаў ў левай скроні лопнула, і хлопец адкінуўся на скамейцы назад, котка працягвала муркатаць на ягоных руках. Здавалася, ён прылёг адпачнуць. Снег ішоў, такі мяккі, пухнаты, як кавалачкі ваткі.

Выглядаў Ілля, як заўжды хацела маці.

Дзякуй Богу, так і атрымалася.

*Чэрвень – ліпень 2021*
*Брно – Мінск*

# АНДРЭЙ ЛАТЫГОЛЕЦ

## РУСКАЯ ПЕЧКА

**1.**

Ён глядзеў у цемень лабавога шкла. Яна, трохі счакаўшы, запаліла агні далёкага бачання. На двары стаяла зімняя ноч. Быў снежань. Каляды. Яны толькі селі ў машыну, таму яшчэ не паспелі сагрэцца. Пара вылятала з рота і носа. Хлопец з прыкрасцю пацёр далоні.

– Ключы ад хаты хоць не забыў? – спытала ў яго дзяўчына.

– Узяў.

– Маці нам у дарогу нават паесці сабрала.

– Ты сказала ёй, куды едзеш? – хлопец паглядзеў на яе сур'ёзна.

– А што тут такога? – дурасліва перапытала яна.

Ён прамаўчаў.

Яна завяла рухавік.

– Дрэнна ўсё ж такі, што мы так позна выязджаем. Пакуль даедзем, ужо будзе поўнач, – сказаў хлопец, бы самому сабе.

– Нічога, я люблю неспадзяваныя вандроўкі, – нібы суцішаючы сябе, адказала дзяўчына.

Машына выехала з двара змрочнага мікрараёна на ўскрайку Мінска і накіравалася да кальцавой.

Дзяўчына патэлефанавала хлопцу за гадзіну да гэтай размовы, і ён, доўга не думаючы, пагадзіўся, усё ж дзесьці падсвядома разумеючы, што ім вырашылі скарыстацца. Аднак жаданне апынуцца з ёй сам-насам перабольшвала. Хлопец прагнуў гэтага даўно і чакаў, калі яна ўрэшце вырашыцца.

Праз колькі кіламетраў яны заехалі на першую запраўку, купілі гарачай кавы. Узялі алкаголю, і ён падліў сабе ў кубак трохі каньяку. Размова не ладзілася – дзяўчына ўключыла радыё.

Вёска, куды яны ехалі, знаходзілася непадалёк ад Мінска. Там стаяла старая, даўно занядбалая хата, якую хлопец часцяком выкарыстоўваў для адпачынкаў з сябрамі і летніх пікнікоў. Выязджаць туды зімой раней не вырашаўся. Аднак цяпер ім патрэбна было паўнавартаснае адасабленне, і яны гэта ведалі.

Па радыё зайграла песня «Offspring», хлопец зрабіў грамчэй.

– Табе падабаецца такая музыка?

– Класны гурт і класныя спевы…

Яна хмыкнула.

– Ты ніколі не задумваўся, што паміж намі няма нічога агульнага? Вось нават твая музыка?..

Ён злосна глынуў з кубка.

Машына ўрэшце звярнула з шашы, і яны выехалі на лясную дарогу. Колы цяжка рыпелі пад пластам снегу, якога надоечы намяло ладна, і адусюль над імі надвісала вусцішная цішыня.

Паўсюль была цемень, і толькі яркія агні фар беспрытульна гойсалі па дарозе наперад, усё далей углыб лесу.

Неўзабаве шчыльная цемень адступіла, і ім паказаўся прасвет – пачыналася вёска. Вёска была невялікай, з тузін хат. Патрэбная хата стаяла напачатку, і яны хутка пад'ехалі да месца прызначэння.

Дзесьці забрахалі сабакі. Хлопец хутка адчыніў весніцы. Дзяўчына заехала на падворак і выключыла фары.

На двары было сапраўды холадна, і, пакуль ён адчыняў дзверы, пальцы на руках здранцвелі, нібы ён доўгі час трымаў у іх кавалак лёду.

Аднак у хаце аказалася яшчэ халадней. Хлопец пашукаў у шафе «коркі» для электрычнасці і запаліў святло.

– Зачыняй за сабой дзверы! – крыкнуў ён дзяўчыне, калі тая зайшла ўслед за ім. – Зараз трэба максімальна ўтрымліваць цяпло ў хаце.

Яна засталася, а ён накіраваўся да паветкі па дровы. Зрабіў колькі ходак, нацягаўшы да печы купу хваёвых пален. Печ была старая, вялікая, як калісьці казала яму бабуля-нябожчыца – сапраўдная руская печ.

**2.**

Распалка ішла марудна. Відаць, у комін набілася ладна снегу, таму што, як толькі загарэлася папера, дым пацягнула ў хату і хлопцу прыйшлося адчыніць усе дзверы на двор.

Ён на ўсю адцягнуў юшку і прыняўся падкідваць дровы. Трэба было хутчэй здабыць цяпло.

Дзяўчына ж тым часам пачала шукаць коўдру ды пакрывала.

– Паспрабую зрабіць для нас маленькае і ўтульнае гняздзечка, – прамармытала яна.

Хлопец закінуў яшчэ з дзясятак пален, сеў каля печы і адкаркаваў бутэльку каньяку. Дома ён не вячэраў, таму алкаголь адразу даў па мазгах, бо на галодны страўнік такая артылерыя дзейнічала непазбежна і наводмаш.

Дзяўчына паклала на ложак колькі ватовых коўдраў і, абкруціўшы сябе адной з іх, з келіхам у руцэ, падсела да хлопца, таксама спрабуючы сагрэцца спіртным.

– Як лічыш, доўга прыйдзецца чакаць? – спытала яна.

– Я ж казаў, што позна прыехалі, зараз пакуль не згараць усе дровы і ў печы не ўтворыцца прысак, які будзе награваць хату і ад якога ў яе пойдзе сапраўднае цяпло, пройдзе колькі гадзін, – панура адказаў ён.

– Доўга… – ціха прашаптала яна.

Выйшлі на двор папаліць. Неба было зорным, і хлопец паспрабаваў знайсці на чорным палатнішчы найбліжэйшыя планеты. Зорка Венера свяціла ярчэй за астатнія, і ён згадаў верш Багдановіча.

Дзяўчына аб нечым лепятала, але ён не слухаў, цяпер ужо злуючыся на самога сябе, што згадзіўся на дурную задуму: прыехаць сюды пасярод ночы.

Па вяртанні ў хату каханкам падалося, што трохі пацяплела, прынамсі на шчоках узнікла прыемная чырвань. Яны перабраліся ў ложак і ўзялі з сабой бутэльку каньяку.

У хаце між тым не так ужо і цяплела. Сагрэць мог толькі алкаголь.

Дзяўчына павесялела, і ў хлопца таксама развязаўся язык. Праз паўгадзіны ён перастаў злавацца і цяпер яму было ўсё адно, што да холаду, што да гэтай задумы прыцягнуцца сюды на Каляды, хай іх ліха.

Здавалася нават, між імі ўзнікла ледзь улоўная блізкасць, і хлопец першым пацалаваў дзяўчыну ў вусны.

– Давай залезем пад коўдру, – прапанавала яна.

Яны забурыліся пад халодныя ватовыя коўдры і прыціснуліся адно да аднаго. Пачалі дурэць і абдымацца.

Калі ўрэшце ўсімі гэтымі гульнямі хлопец сагрэў сабе здранцвелыя пальцы, не вытрымаў і адразу ж намацаў

пад кофтай мяккія грудзі дзяўчыны, якія лічыў яе галоўнай каштоўнасцю, і рукамі пачаў сунуцца ніжэй.

Пад коўдрай з-за ўсіх гэтых рухаў утварылася якое-ніякае цяпло, аднак распранацца было рана.

Яны цалаваліся і коўзаліся па ложку, а калі дзяўчына ўжо была гатовая і хлопец больш не мог трываць, ён раптам плюнуў на ўсё, падскочыў да печы. Схапіў качаргу і роспачна пачаў абіваць недапаленыя чуркі ад агню. Прыйшлося трохі папацець.

Збольшага расцерушыўшы дровы да вуглёў, ён раскідаў прысак па ўсёй даўжыні пячурка і шчыльна зачыніў юшку, мяркуючы, што цяпло хутчэй пойдзе ў хату.

ЯНЫ З ГАЛАВОЙ НАКРЫЛІСЯ КОЎДРАЙ, І ХЛОПЕЦ ПАВОЛЬНА СЦЯГНУЎ З ДЗЯЎЧЫНЫ ТРУСІКІ. СЭРЦА Ў ЯЕ ГРУДЗЯХ ЗАТРЫМЦЕЛА, І ЁН ЎРЭШЦЕ З'ЯДНАЎСЯ З ЁЙ. ПА ЦЕЛЕ ПАПЛЫЛІ ПРЫЕМНЫЯ ХВАЛІ. РУХІ ПАЧАЛІ ПАСКАРАЦЦА, ПАКУЛЬ НЕ ПЕРАЙШЛІ Ў АДЗІН УСТОЙЛІВЫ РЫТМ РАЗАМ З ПУЛЬСАМ.

– Зараз дакладна пацяплее, – залазячы пад коўдру, сказаў ён.

Прэлюдыя зацягнулася. Рухі сталі больш павольнымі. У хату і сапраўды пацягнула цяплом. Рукі сагрэліся. У галаву грукнуў алкаголь, і каханкі сталі больш разняволенымі. Яны з галавой накрыліся коўдрай, і хлопец павольна сцягнуў з дзяўчыны трусікі. Сэрца ў яе грудзях затрымцела, і ён ўрэшце з'яднаўся з ёй. Па целе паплылі прыемныя хвалі. Рухі пачалі паскарацца, пакуль не перайшлі ў адзін устойлівы рытм разам з пульсам.

– Адкінь коўдру, дай больш паветра, – сціснута прамовіла яна.

Ён выканаў яе пажаданне.

У цьмяным святле пакоя хлопец бачыў расчырванелы твар дзяўчыны і ласкава гладзіў яе па валасах.

Неўзабаве ён прыкмеціў, як яе твар пачаў набываць незадаволеную грымасу пакуты.

– Цішэй, – нечакана сказала дзяўчына, а потым: – Спыніся.

Ён замёр.

– Усё добра? – насцярожана спытала яна ў яго.

– Так.

– Нешта мне нядобра.

Хлопец лёг на спіну і толькі цяпер зразумеў, што алкаголь моцна прайшоўся па яго розуме. Перад вачыма паплылі кругі. Столь пачала вібраваць і скажацца ў прасторы, нібы ён наглытаўся апіятаў.

– Ты адчуваеш пах? Якісьці непрыемны пах, – голас дзяўчыны трымцеў неспакоем.

Ён хутка падскочыў з месца і адразу адчуў, што ногі яго больш не слухаюцца. Рыўком прыўзняўся зноў і цяжка грымнуўся на падлогу.

Яна прыкрыла далоняй рот і перакулілася набок. Спрабуючы ўзняцца, хлопец пачуў, як дзяўчыну званітавала. Зразумеўшы прычыну, ён пасунуўся да печы. Галаву круціла на ўсе трыста шэсцьдзесят градусаў.

Хлопец адцягнуў юшку, з нагі расчыніў дзверы на двор і выбег на вуліцу. Было такое адчуванне, што ён п'яны ўшчэнт.

З цяжкасцю ліпеючы на нагах, паплёўся па снезе да драўлянага туалета, ледзь стрымліваючы ваніты. Аднак, не дайшоўшы да мэты, падкасіўся і пачаў ваніціваць, як ніколі ў сваім жыцці.

«*Няўжо ўчадзелі?*» – роспачна беглі ў яго затлумленай галаве трывожныя думкі.

Вяртацца ў хату не хацелася. Хлопца разбіраў сорам, што ён нікчэмная

бесталач, і страх перад адказнасцю за дурны ўчынак. Ён сядзеў на кукішках у снезе і жадаў толькі хутчэй працверазець ад чаду і алкаголю.

Як толькі холад пачаў пранізваць да самых костак, ён вырашыў вярнуцца.

У хаце стаяў прысмак гару. Хлопец заўважыў дзяўчыну на ложку. Яе злёгку трэсла і яна скруцілася эмбрыёнам пад коўдрай. Ён зачыніў дзверы і пагляздеў печку. Усе вуглі выгаралі і пашарэлі. Хлопец шчыльна зачыніў пячурку. Юшку пакінуў адчыненай. Лепш замерзнуць, чым задыхнуцца гарам, падумаў ён.

Калі ўжо лёг да дзяўчыны, яна ціха спала, трывожным было толькі яе дыханне. Так і не прагнаўшы з галавы роспач, хлопец таксама заснуў.

**3.**

На раніцу ён прачнуўся ад моцнага галаўнога болю. Яна варочалася з боку на бок. Хата канчаткова выстудзілася, холадна ўжо было і пад коўдрай.

Хлопец вылез з ложка і пасунуўся да печы. Прысак даўно астыў. Прыйшлося ўкінуць у пячурак пяць паленцаў. Цяпло было проста неабходным.

– Што ты робіш? – пачуўся незадаволены голас дзяўчыны.

– Спрабую нармальна растапіць печку, без спешкі і цвярозым.

– Не трэба, я хутка буду збірацца, паедзем дамоў.

Ён усё ж не паслухаў яе і распаліў. Няхай збіраецца, няма чаго тут мерзнуць, седзячы.

На стале стаяла недапітая пляшка каньяку, і хлопец нагбом глытнуў яе змесціва.

Праз колькі хвілін дзяўчына знайшла ў сабе сілы падняцца і выйсці на кухню. Агонь ужо ладна ўзяўся, і хлопец, прыадчыніўшы заслонку, грэў свае рукі.

– Есці будзеш? – спытала дзяўчына, у яе голасе чуўся выклік.

– Не патрахаліся, дык хоць паснедаем, – скрушна прамовіла яна.

Ён падагрэў на газнічку матчынай сачавіцы. Тая яшчэ і перасоленай аказалася і зусім не лезла ў горла.

Дзяўчына ела з апетытам, а хлопец, каб нікога не пакрыўдзіць, нехаця дзёўбаў відэльцам па талерцы.

– Колькі нам трэба часу, каб сабрацца? – урэшце спытала яна.

– Я зараз не паеду.

– А калі?

– Вечарам.

Яна незадаволена ўздыхнула.

Дзень правялі амаль у маўклівым бадзянні з вугла ў вугал. Добра, што ў хаце неўзабаве з’явілася цяпло і атрымалася сагрэцца.

– Бачыш, калі б мы ўчора выехалі раней, не спяшаючыся растапілі печ – усё б было добра.

– Ты мог нас забіць... – сказала дзяўчына. – Мы маглі заснуць, і тады б ужо неадкладна ўкурэлі і невядома калі і як бы нас тут знайшлі – мёртвых, змерзлых і голых.

– Не трэба пра дрэннае, мы усё ж жывыя.

Выехалі надвячоркам. Маўчалі. Усю дарогу між імі лунала чаканне скандалу. Здавалася, трэба толькі чыркнуць запалку, і салон ўспыхне агнём нянавісці і крыку.

Калі хлопец пасунуўся да радыё, каб уключыць музыку і разбавіць гэтае напружанне, дзяўчына злосна адштурхнула яго руку ўбок.

– Якая ж я дурніца! – істэрычна распачала яна. – Ты ж мне нават не падабаешся... Дый я і за мужчыну цябе не лічу. Так, дзяцюк звычайны. Ты ніколі не задавальняў мяне ў сэксе, і я ўжо ў цэлым сумняваюся ў тваіх здольнасцях. Між намі няма нічога агульнага. Ніякай хіміі. Мне нават пах твой не падабаецца.

– Хоць у нечым у нас усё ж ёсць агульнае: мяне таксама ад твайго ванітуе, – паспрабаваў у адказ упікнуць ён дзяўчыну, моцна сціскаючы кулакі,

каб стрымаць гнеў і не нарабіць глупстваў.

Пасля такіх слоў яму хацелася праваліцца скрозь зямлю. Аднак хлопец вытрымаў, цяжка выдыхнуўшы. Яна не заслугоўвала ўбачыць яго слабасці.

– Запомні гэты дзень – сёння апошні раз, калі мы знаходзімся разам, больш ты мяне не пабачыш.

– Дамовіліся.

Цяпер больш за Каляды ён не любіць яшчэ і дзяўчат з агністымі валасамі: штосьці сярэдняе між чырвоным адценнем і палымянай рудасцю лістапада. Не любіць спевы «Offspring», каньяк і імя Вераніка.

– Можаш нават у календары пазначыць гэты дзень, – не сунімалася яна.

– Я запомню – Каляды.

Праўда, колькі разоў ім усё ж давялося сустрэцца. Яны нялоўка муляліся на месцы, для прыліку цікавіліся апошнімі навінамі, пазбягаючы доўгіх позіркаў.

А рускую печ яго бацькі даўно разабралі, зрабіўшы з яе куды меншы пячурак.

# ДАВЫД ПАДДУБСКІ

## ВЕРНАСЦЬ

Хіба ў кожнай сям'і ёсць той, хто не любіць свят. На Вялікдзень яму абавязкова трэба адрамантаваць зламаны некалькі месяцаў зэдлік, на Дзень Перамогі ён садзіць бульбу, на Раство ці Новы год надаўжэй усіх застаецца на працы. Падчас застолля ён ці злосны, ці стомлены, ці занадта знерваваны. Ён часцей за ўсіх паліць на ганку і першы ідзе спаць. Ён не заўсёды псуе настрой атачэнню, але ж стварае напругу. І насупроць назіранням і логіцы, яго ўсё роўна неабходна запрашаць, чакаць і трываць побач у святочныя даты.

У маленстве, дзівячыся ў такія насупленыя твары, я не мог зразумець, навошта людзі гвалтуюць сябе млоснымі ўдзельнікамі і на халеру самому «анціраду» гэтае самакатаванне. Дзеці ж добра ведаюць, як можна знянацку захварэць у дзень кантрольнай работы.

У маленстве я чакаў зіму болей, чым летніх вакацый, не толькі з-за Новага года, але і з прычыны шматлікіх дзён нараджэння. Усе чальцы маёй сям'і нарадзіліся ў прамежку пачатка снежня і канца лютага, таму чарада святочных сталоў і гасцей нібы агортвала нашу вясковую хату звонку, ствараючы з яе суцэльны падарунак. З вуліцы заўсёды можна было пабачыць суплёты ліхтарыкаў і папяровыя сняжынкі на вокнах. Туі ў двары, абцяжараныя каралямі, ператвараліся ў ялінкі. У багатаснежную зіму на падворку выстройвалася варта снежных баб, а ў халодную вільготную – зубаты, як рот акулы, плот з ільдзін. У вэрхале стрыечных братоў і сясцёр на гародзе ствараліся вытаптаныя сцяжыны лабірынту і пры спрыяльных умовах ды наяўнасці рук лядовы форт у паўтара метра вышынёю. Зіма была шчодрая на будаўнічыя матэрыялы, якія не патрабавалі дадатковых прылад працы. Усё падавалася ў гатовым выглядзе, толькі складай, як канструктар.

Я не магу назваць нашу сям'ю рэлігійнай. У царкву мы хадзілі не часцей, чым да шаптухі, што жыла праз дарогу, але тое, што мы праваслаўныя, мне патлумачылі з маленства. Я ўсвядоміў праваслаўе як сістэму традыцый, якая нас яднае і адрознівае ад іншых. Мы нешта робім, таму што так рабілі дзяды і іх дзяды, і гэта будзе працягвацца вечна, бо мы павінны паважаць сваіх прашчураў. Нашы абрады і звычаі – гэта памяць і, у сваю чаргу, вернасць. Гэта была прыгожая ідэя. Было даспадобы, што ў мяне годныя і верныя бацькі, у якіх былі годныя і верныя дзяды, і тое азначала, што я магу

разлічваць на сваю сям'ю, абяцаючы ім у падзяку вернасць са свайго боку.

Ужо ў перадпадлеткавым узросце, натхнёны штогоднім абрадам Дзядоў, я пачаў весці радавод. Запісваў не толькі імёны сваіх продкаў, але дадаваў іх адметныя рысы. Нехта вельмі добра спяваў, нехта быў найлепшым ляснічым, а пасля ўвогуле стаўся цуд і да нас завітаў старэнькі дзядок, аддалены сваяк, які таксама вёў радавод і падзяліўся са мной гісторыямі ажно да сярэдзіны 18 стагоддзя. Высветлілася, што нашы продкі апрацоўвалі скуру і футра. Мы былі кушнярамі.

Выкарыстоўваючы кожнае свята і стол як магчымасць, я любіў задаваць пытанні старэйшым гасцям і, на дзіва, кожны раз ад адных і тых жа людзей мне адкрываліся новыя дэталі мінулага, якія ляцелі ў нататнік.

Так, неспадзявана, пераломны момант адбыўся хіба што ад самага звычнага і блізкага чалавека – роднай бабулі.

Пад ялінкай у пакоі, дзе стаяў стол, не было аніякіх падарункаў, акрамя набораў слодычы, што выдаваліся бацькам на працы, ды я ведаў, што з ранку там павінна было пабольшаць на некалькі карэбчыкаў. Чаканне мяне дратавала. У той год прыстаўка была мэтавырашальнай рэччу маёй будучыні, але на прамое запытанне, ці ж атрымаю я яе ў рэшце рэшт, мне жартліва-здзекліва адказвалі, што гэта вырашыць толькі Дзед Мароз, у якога я, відавочна для ўсіх, ужо не верыў. Мяне круціла. І ў гэтым ускручаным і безабаронным стане, відаць, чорт зблазіў мяне задаць пытанне бабусі: «А які самы лепшы падарунак ты атрымала на Новы Год?»

– У нас такога не было, сынок, – бабуля называла ўсіх дзяцей у сям'і сынок ці дачушка, – таму і падарункаў не было.

– А што ж Дзед Мароз?

– Не, не прыходзіў Дзед Мароз. То яго ўжэ пазней прыдумалі.

– А хто прыходзіў?

– А ў нас у дзяцінстве была Марэна. Гэта так зіма прыходзіць. Усё памірае ці засыпае, і яна наглядае, каб спала зямля, выспалася добра і адрадзілася з новымі ўраджаямі. І Мароз быў. Толькі не ў чырвоным паліто, а ўва льдзе ды снегавой сярмязе.

СТРАШНЫ ГЭТАКІ ЛЕДЗЯНЫ ВОЛАТ, НОС ЧЫРВОНЫ І СОПЛІ З НОСУ ЛЬДЗІНАМІ АЖНО ДА САМАЙ ЗЯМЛІ. ЯК СЯДЗЕ НА ДАХ, ТО І КУТЫ Ў ХАЦЕ СКРЫПЯЦЬ. З ІМ ЖАРТАВАЦЬ НЕ МОЖНА БЫЛО І ПАДАРУНКАЎ АД ЯГО – НЕ ДАЙ БОГ.

– Баба, а ты што, не праваслаўная?

– Чаму? Праваслаўная, мы ўсе праваслаўныя.

– Тады чаму твой Новы год ад праваслаўнага адрозніваецца?

– Не, сынок, яно ўсё адно. Толькі час змяняецца. Вось і Дзед Мароз палагаднеў. Навошта людзям Ледзяны Волат той страшны.

Свята распушчалася ў паветры. І стравы, і песні, і фанабэрлівая, разбэшчаная яліна з савецкімі цацкамі – усё было ні аб чым. З бабуліных слоў, цяпер, але ў яе час, тут быў бы Піліпаў пост. А багаты стол накрылі б толькі да 14 студзеня, на Багатую Каляду, і да 19 працаваць было б няможна. Як возьмешся шыць у гэтыя дні – панясеш пакаранне ўлетку і абавязкова ўкусіць цябе ў лесе за непаслухмянства змяя. А як будзеш паводзіць сябе варта, то Мастак узнагародзіць цябе малюнкамі на вокнах, толькі трэба ўмець іх разгледзець і правільна прачытаць.

З улікам таго, што я так і не атрымаў прыстаўку наступным ранкам, з галавы не выходзілі думкі пра традыцыі. Нішто болей не складалася ў лагічны ланцужок. Я глядзеў у нататнік з радаводам, злучаным стрэлкамі ў адно дрэва, і разумеў, што той мой далёкі дзед кушнер мог не верыць і ў Ледзянога Волата. Значыць, традыцыі ўзнікалі згодна з часам, яны змяняліся, перарабляліся, падменьваліся і, як сказала бабуля, у тым нічога не было дрэннага. Але ж аб якой вернасці можа ісці гаворка, калі мы падлаштоўваем свет пад сябе?

З тых часоў мой родавы нататнік перарос у зацікаўленасць міфалогіяй як спробу знайсці фундаментальную праўду. Традыцыю, якая магла б пацвердзіць маю годнасць і вернасць таму далёкаму дзеду, які апрацоўваў футра. Я знайшоў Ледзяных Волатаў у Скандынавіі, знайшоў кельцкі адпаведнік Марэны – Калех – у Ірландыі, і мне падаецца, што калі яны настолькі распаўсюджаныя па ўсёй зямлі, то менавіта на іх баку хаваецца праўда. З тым і вырас. Вырас і стаў болей збянтэжаным, чым быў у свае восем гадоў, таму што ідэал вернасці моцна зафіксаваўся ў свядомасці, ды толькі клёку знайсці ідэю для той самай вернасці не знайшлося. Я стаў кропкай у радаводзе з парванымі стрэлкамі, і вось мне пад сорак – на Вялікдзень я абавязкова рамантую зламаны месяцы таму зэдлік, 9 траўня калупаюся ў гародзе і заўсёды хварэю пад Новы год.

# КАЦЯРЫНА ПАРЫЖАСКАЯ

## КАЛЯДНАЯ КАЗКА

У зацепленай зале стаяла ялінка. Яе ўпрыгожвалі валоскія арэхі, цукеркі, свечкі і картанажы[1]. На вяршыні пабліскваласкрвала бэтлеемская зорка. Над камінам віселі паласатыя шкарпэткі. Яны былі такімі вясёлымі і смешнымі, што сумнявацца не выпадала: кожны з трох дзяцей атрымае цудоўныя падарункі.

Але трынаццацігадовай Касі нічога не хацелася. Верш не ствараўся, свята не хвалявала, як раней. Нуда апавіла сэрца.

За ёй назіраў злы чараўнік. Дакладней, ён не быў злым, хутчэй нарвістым. Яму не падабалася, калі дзеці пакутавалі ад суму.

Раптам Кася, якая чакала бацькоў з гасцей, здзіўлена паглядзела на гадзіннік. Ёй падалося, што стрэлкі перашэптваліся паміж сабой. Бум! Пачало адбіваць дванаццаць удараў. Бум! Бум! Бум!

Кася не заўважыла, як сцены расталі і яна апынулася на караблі падчас шторму. Замест лёгкай шаўковай сукенкі – кашуля, замест залатога тарканка – хустка. Яе скура набыла колер медзі, ад чаго зялёныя вочы яшчэ больш пазелянелі.

– Капітан! Яно набліжаецца! – крыкнулі Касі.

– Дзе? Што?

Калі Кася пабачыла, *ШТО* яе сэрца напоўнілася страхам. Пачвара цягнула свае жахлівыя шчупальцы да карабля. Нельга чакаць! Кася палезла ў «вароніна гнездо».

*1 Картанажы – цацкі з кардону.*

– Капітан, куды Вы?

– Закладвай налева! Трэба трапіць да яго як мага бліжэй!

КАРАБЕЛЬ ЗАКРУЦІЎСЯ, БЫ КОЛА, ЯГО ХВАЛЯЙ ВЫНЕСЛА АМАЛЬ У ПАШЧУ ВЕЛІЗАРНАГА ВАСЬМІНОГА. КАСЯ ПРЫЛАДЗІЛАСЯ, ВЫЦЯГНУЛА СВОЙ НОЖ І КІНУЛАСЯ НАПЕРАД. ТРАПІЛА ПАЧВАРЫ МІЖ ВАЧЭЙ! ЗАШУГАЛА, ПАЧВАРА З ВЫЦЦЁМ УПЛЫВАЛА. КАСЯ ЗВАЛІЛАСЯ НА ПАЛУБУ І СТРАЦІЛА ПРЫТОМНАСЦЬ.

Ачомаўшыся, пабачыла, што сядзіць у той жа зале з ялінкай, у мокрым адзенні і з хусткай на галаве. Гэта была каюта капітана, за сценамі якой узмацнялася бура. Раптам з гадзінніка замест зязюлі вылезла галава са злым вокам. «Не сумуй, дзяўчо!» – прахрыпела галава. Стрэлкі шалёна закруцілася. Той жа твар глядзеў праз акно ў пакой: «Не сумуй, дзяўчо!»

Кася апрытомнела. На ёй была ружовая сукенка. Да дома пад’ехала карэта.

– Мама! Тата! Што я вам раскажу!!!

– А мы табе нешта прывезлі, – сказаў тата, працягваючы ёй вялікую шакаладку ў папяровай абгортцы і ліст.

У канверце Кася знайшла верш, які спрабавала напісаць увесь вечар.

«Не сумуй, дзяўчо! Каляды блізка!»

# ГАНДЛЯРКА ПЕРНІКАМІ

На Высокім рынку мітульга: людзі спяшаюцца на калядны кірмаш, каб купіць ваўняныя шкарпэткі, таўкачыкі, цацкі на ялінку або каб пакаштаваць «чорта з Локшыц» – чорную крывянку і скавароднікі з сырам.

Дзеці з захапленнем глядзяць, як шкляр выдзімае дзівосных звяркоў. Ласыя на смажаныя арэхі ў цукры і марцыпанавых свінак, яны прагна шукаюць шапік са слодычамі. Якія там пернікі! Карычневыя, сакавітыя, з белай і каляровай глазурай. А якія духмяныя! Не пашкадавалі ні мёду, ні цынамону, ні імбіру. Акінуўшы позіркам усё гэта багацце, Аксана звярнулася да дзяцей, што прычапіліся да яе па дарозе на кірмаш: «У мяне ёсць казка! Але спачатку купім пернікаў». Кожны ўзяў сабе па адным – хто зорку, хто сэрца. А для мамы Юш выбралі вялікі, круглы, з белымі елачкамі і надпісам «З Калядамі!».

Што пачулі дзеці па абедзе, калі яны, зварыўшы какаву, закруціліся ў коўдры і паселі вакол Аксаны? Сядайце, мы пачынаем свой аповед.

Янка і Міхась любілі палятаць. Хлопчыкі неяк навучыліся і кожную вольную хвілінку прысвячалі гэтаму занятку. «Сцеражыцеся Грызэль! – папярэджвалі іх матулі. – Яна крадзе дзяцей і тыя больш ніколі не ўбачаць сваіх мам».

Але хто яна такая і дзе жыве, чамусьці ніколі не казалі. А дарма! Не здарылася б той бяды!

У чацвер, паснедаўшы булачкамі з малаком, Янка пабег да сябра і прапанаваў палятаць вакол касцёла. Было вельмі рана, таму плошча, дзе, акрамя касцёла, месціліся ратуша і дамы самых багатых жыхароў горада, была пустой. Нават дым над комінамі яшчэ не курыўся.

Яны луналі, пакуль не прытаміліся. На адным з дахаў заўважылі хатку і вельмі мілы садочак з заснежанымі дрэвамі.

– Ну што, бусляняты, змарыліся? Як вас клічуць? – маленькая бабуля ў шэрай хустцы на плячах прыязна ўсміхалася.

– Янка! – адгукнуўся Янка.

– Міхась!

– Якія мілыя імёны. Хочаце, я вас пернікамі пачастую?

У доміку было вельмі ўтульна. Ля акна стаяла крэсла-гойдалка з даматканай посцілкай. Насупраць была куханька: выбеленая печ, на паліцы

збаны і гарлачыкі. Пахла цынамонам і нечым прыемным. Нічога не ўказвала на тое, што тут жыве страшная вядзьмарка, якая крадзе дзяцей. Хіба толькі чорны кот – заўсёдны прадвеснік бяды. А пах той быў чароўнага мёду. І ўсё тут было чароўным. Варта было хлопцам дакрануцца да стала, дзе была расцярушана мука, як яны тут жа ператварыліся ў пернікі. Хатка знікла, а на плошчы, дзе ў той дзень меў адбыцца кірмаш, з'явілася дабрадушная бабуля, якая прадавала лахардзікі. Яе ўсмешка была салодкай, як цукар, але ў маленькіх вачах прабягалі злыя іскаркі.

Агаце, маме Янкі, было блага. Адчувала, што сын у бядзе. І яна пабегла шукаць. Насустрач ёй ішла мама Міхася Ганна:

– Агата, што з табой? Чаму ты такая пераляканая?

– Вох, Ганна, добра, што цябе сустрэла. Ты хлопцаў даўно бачыла?

– Ды з раніцы некуды пабеглі, жэўжыкі. Чаго перайімацца?

– Млосна мне, ведаю, нешта здарылася. Трэба іх знайсці, але як?

А людзей прыбывала. Коні, свінні, куры, посуд, скрынкі і куфары, крыкі і гвалт – хутка ўся плошча была паўнюсенькай.

Агата ўглядалася ў кожны твар, шукала якія-кольвек дробязі, што дапамаглі б знайсці хлопчыкаў.

«Літасцівы Пане, дапамажы мне», – прасіла Агата. Раптам ударыла яе ў грудзі: «Маліся мацней!»

«Літасцівы Пане, уратуй нашых дзяцей!»

І тут Агаце здалося, што яна чуе шэпт: «Шукай гандлярку...»

Агата пабегла! Яна зноў углядалася ў аблічча, але больш усвядомлена. Спачатку яна западозрыла гандлярку зёлкамі. Але наблізіўшыся і пабачыўшы на твары абыякавасць, паспяшалася далей. Затое гандлярка прысмакамі ва ўсю расхвальвала свой тавар. А паглядзець было на што: пірожныя з сочывам, вішнёвыя пірагі, шакаладныя вафлі і шмат яшчэ якой радасці для ласуноў. Але найбольш увагу прыцягвалі пернікі: залаціста-карычневыя, прыгожа аздобленыя, розных форм і памераў.

Грукнула сэрца – маці пачала назіраць за старой. Добразычлівасць нібы сіверны вецер змёў:

– Прэч! Не чапайце слодычы рукамі!

Агата зразумела ўсё: у аднаго пернікавага чалавечка засталася глазуровая слязінка. Схапіўшы яго разам з суседнім, панеслася яна да касцёла, дзе ў той час цэлебравалася Святая імша. Агата прачытала «Ойча наш» – і вось хлопчыкі ўжо абдымаюць яе. Прыбегла Ганна, якая, пабачыўшы сына, заплакала.

– Дзеткі, тое была страшная Грызэль, аб якой мы вас папярэджвалі.

– Але вы не казалі, што яна можа выглядаць такой добрай бабуляй, – зарумзалі спужаныя Янка і Міхась.

– Таму, – скончыла свой аповед Аксана, – будзьце пільныя, не бярыце нічога ў незнаёмцаў: ні кацянят, ні прысмакаў. Гэта можа быць смяротна небяспечна.

# ЮЛЬЯНА ПЯТРЭНКА

## НЕВЕРАГОДНАЯ ТЭОРЫЯ ВЕРАГОДНАСЦІ

*– Лепш прыходзь заўсёды ў адзін і той жа час, – папрасіў Ліс. – Трэба прытрымлівацца абрадаў.*
*– А што такое абрады? – спытаў Маленькі прынц.*
*– Гэта таксама нешта даўно забытае, – сказаў Ліс. – Нешта такое, ад чаго адзін які-небудзь дзень становіцца непадобным да ўсіх астатніх дзён, адзін час – да ўсіх іншых часоў.*
Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, «Маленькі прынц»

***

Тонкі серабрысты перазвон набліжаўся. Здавалася, ён гучаў з усіх бакоў, ажно вушы закладвала.

«Дзінь-дрынь-дынь, дзінь-дрынь-дынь, цілі-цілі-дынь…»

Урэшце ўсё сціхла, нібы абарвалася. Накрыла такая аглушальная цішыня, якая бывае ў старым глыбокім калодзежы, пячоры ці космасе.

У апраметнай цемры заззяў, затанчыў жаўтлявы агеньчык. Ён набліжаўся крывымі зігзагамі, быццам залаты матыль. Яшчэ хвіліна – і можна было разгледзець дзяўчыну, якая трымала свечку.

Рудая і раскудлачаная, босая і апранутая ў лахманы, яна скакала па снезе вярхом на качарзе, пакуль не спынілася акурат на ростанях.

Шыбнула за спіну кірзавы бот, крутанулася вакол сябе тры разы, паправіла на галаве гарачы блін, з якога ішла пара, потым наблізіла да рабаціністага твару свечку і спытала:

– Малады чалавек, як вас зваць? З якога боку сватоў чакаць?

Свечка згасла, затое задымілася качарга. З яе, нібы з рэактыўнага самалёта, снапом паляцела гарачае вуголле, рассыпаючыся па снезе шыпучымі іскрамі.

– Малады чалавек! Малады чалавек?..

– А? Што?! – падхапіўся Юрась і балюча стукнуўся галавой аб верхнюю лаўку са скручанымі матрацамі.

– Малады чалавек, уставайце, Стараселле праз дзесяць хвілін! Маглі б, дарэчы, і пасцель узяць! – мажная праваднiца з кароткімі фіялетавымі валасамі шыбнула на стол квіток з надарваным куточкам і абурана зацокала абцасамі прэч.

Юрась звесіў доўгія ногі, пачасаў кучаравую патыліцу і працёр заспаны твар.

«Цьху! Прысніцца ж такое!..»

Унізе спалі захінутыя курткамі пасажыры. Вагон мерна пагойдваўся, за акном цягнулася белая пустэча,

калі-нікалі выскоквалі з яе самотныя слупы ці заснежаныя паўмёртвыя дрэвы.

Юрась пацягнуўся, зноўку стукнуўся галавой і саскочыў на падлогу. Схапіў заплечнік і куртку ды падаўся паўз сонных пасажыраў да выхаду.

Шэрая раніца дыхнула ў твар холадам і колкім снегам.

Цягнік чмыхнуў шызым з'едлівым дымам і загрукатаў далей.

Хлопец уздыхнуў і падаўся праз пуці, незадаволена разглядаючы маленькі абшарпаны будынак станцыі, крыва і безгустоўна ўпрыгожаны рознакаляровымі агеньчыкамі.

Юрась увайшоў у будынак вакзала і паўз шэрагі пластыкавых крэслаў і папяровых сняжынак, якія звісалі са столі, накіраваўся да маленькага акенца:

– Дзе тут можна кавы купіць?

– У краме, – узняла вочы круглатварая касірка з саламянымі валасамі.

– А гарачай?

– А тут вам не рэстаран, – абыякава адказала яна і зашамацела паперкамі ад цукерак. Як і мандарынавага лупіння, іх сабралася на стале цэлая гара.

– Чорт ведае, што такое, – прабурчаў Юрась і адхіліўся ад касы.

Незадаволены голас за спінай прымусіў яго азірнуцца.

– Гэта сапраўдны непарадак! Не-па-ра-дак! – абураўся ззаду сталы дзядзечка ў зацемненых акулярах і з акуратнай сівой бародкай . На ім было доўгае шэрае паліто і шыракаполы фетравы капялюш. У руках дзядзечка трымаў стары пацёрты чамаданчык.

– Вы як з наведвальнікамі размаўляеце? Непарадак! – гнеўна паўтарыў ён. – Чым на працоўным месцы займаемся? Цукеркамі? Будзем скаргу пісаць! Будзем? – звярнуўся ён да Юрася, і хлопцу падалося, што той падміргнуў. – Мы свае правы ведаем! Ведаем?

– Ведаем, – нехаця згадзіўся Юрась і нацягнуў на галаву капюшон, каб схавацца ў ім.

Касірка нешта замармытала, хлопец пачуў адно «псаваць святочны настрой».

– А нам, значыць, настрой псаваць можна? – не здаваўся дзядзечка. – Кнігу скаргаў, калі ласка!

Юрась пашкадаваў, што не набыў кавы ў цягніку, але ж у працягнутай белай кніжачцы запісаў: «Прашу ўсталяваць у будынку вакзала кава-аўтамат».

– Ну вось, малады чалавек, трэба вучыцца адстойваць свае правы і свой гонар, – паправіў акуляры дзядзечка.

Юрась кіўнуў, але ж цяпер распытваць касірку, як дабрацца да аўтавакзала, не хацелася. Ён выцягнуў з кішэні тэлефон, каб зірнуць мапу, і падаўся надвор. Зноўку давялося тупаць праз пуці туды, дзе віднеўся бетонны зеленкаваты аўтобусны прыпынак, так падобны да вялізнай перавернутай скрыні з дзірачкамі.

Зірнуў на расклад руху. Няцяжка было здагадацца, што мерзнуць прыйдзецца доўга. На ўвесь райцэнтр меўся адзіны аўтобус, які хадзіў раз на гадзіну. Чакаць давялося хвілін дваццаць, прытанцоўваючы на месцы і хукаючы на акалелыя рукі.

Снег супакоіўся, але неба паранейшаму заставалася няветлівым і цяжкім, быццам сталёвым.

Прагрукатаў таварняк.

Некалькі разоў дзядзечка ў капелюшы выходзіў на ганак – то сварыўся з бадзяком, то праганяў сабаку, то зноў хаваўся ў будынак вакзала – мабыць, чакаў свой цягнік.

Дзень для Юрася пачаўся так сабе. А мог бы сядзець зараз у родным Магілёве, дома перад кампом ці з сябрамі ў якой піцэрыі, дзе на вялікім экране транслююць футбол.

Цьху! Дурная вучоба! Ніякага настрою няма! Не, каб на фізмат падацца… Ездзі цяпер па ўсіх вёсках-

ваколіцах, матэрыял збірай… Але ж трэба, бо хочаш не хочаш, а да сесіі нядбайнага студэнта не дапусцяць…

Неўзабаве падпоўз жоўты аўтобус, абдаў ногі змяшаным з пяском талым снегам і стаў.

Юрась кінуў дробязь за праезд кіроўцу на палічку, а потым размясціўся каля акна.

Ехаў, бяздумна глядзеў скрозь шкло на брудныя сумёты па ўзбочынах, абшарпаныя няскладныя домікі з гірляндамі і мядзведзікамі ў размаляваных вокнах, на дзятву з санкамі і лысаватую елку на круглай плошчы, на верхавіне якой памільгвала чырвоная зорка.

Юрась скрывіўся, адвярнуўся ў іншы бок – там сядзеў вусаты мужчына, абдымаючы аберуч жывую елачку. Ззаду дзве кабеты гучна абмяркоўвалі святочнае меню.

– Канцавая! – кіроўца спыніў аўтобус.

Пасажыры сталі спускацца адно за адным.

– Як канцавая? – падхапіўся Юрась і закруціў па баках галавой. – Канцавая ж «Аўтавакзал»!

– Ну. Так і ёсць. Толькі ў іншы бок. А гэта «Фабрыка «Светлы шлях».

– Вельмі светлы! Цяпер на аўтобус спазнюся! – хлопец бухнуўся на сядзенне.

Давялося зноў ехаць праз усё мястэчка з яго бруднымі сумётамі, нязграбнымі домікамі і брыдкай чырваназоркавай елкай.

Праз паўгадзіны ён тапатаўся на аўтавакзале, побач з акенцам касы.

Маладая смуглявая жанчына адно разводзіла рукамі:

– Ну што ж я зраблю, калі вы на рэйс спазніліся? Заўтра наступны, а дзясятай гадзіне… Няма ў тым кірунку маршрутак, і дызель не ходзіць… Ну раз надта спяшаецеся, то на шашу ідзіце, тут недалёка... Мо аўтоўку якую зловіце…

Юрасю карцела папрасіць кнігу скаргаў, каб супрацоўніцы больш не раілі гасцям горада пешшу да шашы тупаць, а вырашалі пытанні на месцы. Але ж у касіркі былі такія добрыя вочы і мілыя ямачкі на шчоках, што ён стрымаўся, псаваць настрой не стаў.

Шаша дык шаша. Абы да вечара з тых чортавых Ліпак вярнуцца, каб на свой цягнік паспець.

На шашы было пустэльна і ветрана. Аўтобусны прыпынак уяўляў сабой слуп з шыльдай і пакрытую снегам лаўку. Хацелася есці, а расклад руху на шыльдзе не абяцаў нічога добрага. Праляцела аўтоўка, абдала брудам і знікла за паваротам. Прагуў, не спыніўся і трактар.

Юрась нерваваўся і пераміна́ўся з нагі на нагу. Не, пра каву ўжо не шкадаваў. Шкадаваў, што ўвогуле падаўся да чорта на рогі. А ўсё праз шкодную Адэлаіду Бальтазараўну – дэкана гістарычнага факультэта, якая загадала здаць дакументальныя матэрыялы па старажытных звычаях і абрадах. Ды не проста матэрыялы, а такія, каб «аўтэнтычныя, самабытныя і з сеціва ні ў якім разе не сцягнутыя». І не проста здаць, а разам з артыкулам «Прычыны ўзнікнення забабонаў і прымхаў. Іх уплыў на сучаснае грамадства». Хацела ўскладніць нягегламу прагульшчыку жыццё – ды сама ў прыватнай размове і пракалолася: ёсць, маўляў, у Старасельскім раёне вёсачка Ліпкі, у якой захаваліся непаўторныя абрады, вывучэння якіх так не хапае для яе новай кнігі. Гэта, вядома, задачу палегчыла. Але… Ну чаму, чаму ён не паслухаўся бацькі і не пайшоў на фізмат?..

На заснежанай бярозе хрыпла каркнула варона.

– Га? – узняў галаву Юрась. – Во і я так думаю. Чакаю пяць хвілін і, калі цуду не здарыцца, шлёпаю назад, да чыгункі.

Ён зірнуў на тэлефон. Пастаяў. Зірнуў зноўку:

– Ды ну к чорту! Няхай хоць з універа выключаюць! – развярнуўся і патупаў у бок мястэчка.

Па заснежаным полі нехта размашыста крочыў насустрач. Той самы дзядзечка з чамаданчыкам.

Пабачыўшы Юрася, знаёмца дадаў кроку, замахаў рукой:

– А-а, малады чалавек, сабрат па няшчасці, які згубіўся ў глухмені!

– Але, – згадзіўся Юрась. – Паеду я лепш дадому, ну яе, гэтую глухмень.

– Ну… Хіба маладых людзей спыняюць нязначныя цяжкасці? А я быў пра вас іншага меркавання… Куды накіроўваецеся?

– У Ліпкі хацеў. Ды на аўтобус спазніўся, наступны толькі заўтра.

– Лічыце, што вам пашанцавала, малады чалавек! Па-першае, таму што нам з вамі па дарозе, а па-другое – аўтобус прыйдзе з хвіліны на хвіліну!

– Вы памыляецеся, рэйсавых у бліжэйшы час не прадбачыцца, – кіўнуў Юрась на шыльду.

– Ну што вы. Трэба быць упэўненым у сабе і сваіх сілах, – ён узяў Юрася пад локаць і павёў да прыпынку, не перастаючы глядзець на гадзіннік, што блішчэў на запясці.

Сапраўды, праз пару хвілін вынырнуў на шырокую шашу белы (калі яго добра адмыць) аўтобусік, кругленькі і лупаты – часоў Юрасёвага дзяцінства.

Толькі дзядзечка ўзняў руку, як ён паслухмяна спыніўся.

Аўтобусік насамрэч апынуўся зусім не рэйсавым – з фермы, што пад самім Стараселлем, раз'язджаліся па сваіх вёсках даяркі.

Жанчыны напаўголаса размаўлялі між сабой – то ўздыхалі, то ціха пасмейваліся, не звяртаючы ўвагі на лішніх пасажыраў, што ківаліся і падскоквалі ззаду.

Дзядзечка доўга круціўся, бурчаў, скардзіўся на трасяніну і жорсткія сядзенні, але, нарэшце, супакоіўся.

Юрась расшпіліў куртку, выпрастаў ногі.

– Добра, што я вас сустрэў, – звярнуўся ён да суседа, які і не думаў распранацца ці здымаць капялюш. – Само неба паслала…

– Уй! Дык вы, аказваецца, фаталіст? Верыце ў неба, а не ў свае сілы? Ніколі б не падумаў! А на выгляд – сучасны малады чалавек!

– Ды не, я меў на ўвазе выпадак. Выпадковасць.

– ДЫ КІНЬЦЕ ВЫ! ВЫПАДКОВАСЦІ НЕ ВЫПАДКОВЫЯ. ПАМЯТАЕЦЕ: ВЕРАГОДНАСЦЬ НЕМАГЧЫМАЙ ПАДЗЕІ РОЎНАЯ НУЛЮ? ГЭТА ЯШЧЭ БЛЭЗ ПАСКАЛЬ І П'ЕР ФЕРМА ДАКАЗАЛІ. А НІЯКІ НЕ ЭЙНШТЭЙН, ЯК ДУМАЮЦЬ МНОГІЯ.

– Тэорыя верагоднасці? Чуў. Дарма на фізмат не пайшоў... А вы, мабыць, выкладчык ці навуковец?

– Сапраўдны прафесар! Хіба не падобны? – выпрастаўся дзядзечка і зноў надаў сабе строгі выгляд.

– А што вывучаеце?

– Чалавечыя памылкі, глупства і забабоны. Пішу навуковую працу па вытоках і тэорыі памылковых поглядаў.

Юрась здзівіўся, але змаўчаў, гледзячы на сур'ёзны твар прафесара.

– У госці едзеце? На святы?

– Можна і так сказаць, – суха адказаў дзядзечка. – Калі ў вашым разуменні гэта святы.

– Ну ўжо як не Каляды, то я зусім не ведаю, што за свята лічыць.

– Добра. Што такое свята, малады чалавек? Адрэзак часу, вылучаны ў календары ў гонар чаго-небудзь ці каго-небудзь, нават калі гэты хтосьці – усяго толькі плод чалавечага ўяўлення.

ці нешта, што даўно адышло ў нябыт. Але людзям усё роўна, што святкаваць, абы гулі і адпачынак, палайдачыць дзянёк, ухіліцца ад працы. Вось і ўсё тлумачэнне народных абрадаў і звычаяў.

– Ну, не скажыце, – запярэчыў Юрась. – У такія дні як ніколі адчуваецца еднасць, узнёсласць нейкая, настрой асаблівы. Таму і хочацца правесці іх разам з блізкімі. Успомніць пра нашых продкаў, звярнуцца да каранёў…

– Ага-ага, – іранічна кіўнуў прафесар, а потым зняў акуляры і прымружыў цёмныя і надзвычай глыбокія вочы: – Гучныя словы, шаблонныя і зацяганыя, відаць, узятыя з нейкае кніжкі ці лекцыі па этнаграфіі.

– Так і ёсць, – сумеўся Юрась. – Які студэнт, такія і словы.

– Яно і бачна, што сваёй галавой не карыстаецеся. Каляды, мушу я вам сказаць, не што іншае, як святкаванне зімовага сонцавароту. Бог Каляда, ці Калёнда – чулі? А ў цяперашніх людзей такая каша ў галаве – паганства, хрысціянства, атэізм – усё ў адзін кацёл змяшалі. Нават зорку камуністычную ўплялі, пэўна ж бачылі на елцы.

– Тут згодны. Сам дзіўлюся.

– А што гэта вы ўдумалі? Дзіўныя размовы! – умяшаліся ў гутарку жанчыны. – Такое свята на носе! Кіньце спрэчкі! Самы час пра дабро ўспомніць, пра міласэрнасць і дабрачыннасць!

– І часта вы, даражэнькія, пра дабрачыннасць успамінаеце? Гатовы паклясціся, што ў лепшым выпадку два разы на год – на Каляды і Вялікдзень, – абурыўся прафесар. – А ўвесь наступны час гары яны гарам, тыя бліжнія з іх турботамі і клопатамі! І карані са звычаямі! Ведаеце, як гэта называецца? Крывадушнасць, во як!

Юрась змоўк – тут не паспрачаешся.

Адна з жанчын спрабавала нешта даводзіць прафесару, але той паравёў тэму на павышэнне коштаў, падаражанне прадуктаў і цяжкае становішча на вёсцы.

Даяркі ўспудзіліся, заківалі галовамі і пачалі ў адзін голас абмяркоўваць сваё цяжкае жыццё, якое ніхто не думае паляпшаць.

Калядны настрой безнадзейна сапсаваўся. Юрась змоўк і ўтаропіўся ў акно.

Праз кожныя дзесяць-пятнаццаць хвілін аўтобус спыняўся, пасажыркі развітваліся з сяброўкамі і пакідалі яго адна за адной.

Нарэшце апошняя, захутаная ў цёплую хустку жанчына падалася да выхаду, але спярша працягнула Юрасю і прафесару кулёчак з цукеркамі:

– З надыходзячым. Частуйцеся, шакаладныя… З арэшкамі… У раёне купіла.

Юрась, які з самага рання нічога не еў, працягнуў быў руку, але прафесар незадаволена паморшчыўся, нібы адрэзаў:

– Не трэба нам вашыя падачкі!

Жанчына збянтэжылася, куточкі рота апусціліся ўніз, яна моўчкі пакінула аўтобус.

Не паспеў Юрась адкрыць рот, як прафесар нібы прачытаў яго думкі:

– Што? Традыцыя? А сярод лета ці восені вы б ад яе чаго дачакаліся? Яшчэ б і аблаяла за што-небудзь, як тыя бабулькі-дачніцы, што лезуць са сваімі кашамі і авоськамі ва ўсе шчыліны, патрабуючы саступіць ім месца! Хворыя дома сядзяць, а не ў гародах корпаюцца!

Юрась ізноў згадзіўся – такая думка наведвала яго не раз.

– Што сядзім, таварышы? – абярнуўся ў салон кіроўца. – Гуцішча – канцавая. Давайце хутчэй, мне яшчэ дадому забегчы трэба.

– Як так? Ну што за дзень сёння? – узняўся Юрась.

Следам устаў і прафесар:

– Гэта таму, што несур'ёзна ставяцца да працы. Якое яшчэ дадому? Вы ж раней да самых Ліпак ездзілі!

– Тое раней было, а зараз у Ліпках работніц фермы няма.

– Ды тут нейкія тры кіламетры! Няўжо не падвезяце?

– Я вам не таксі, – буркнуў кіроўца.

– Я буду скардзіцца, – не здаваўся дзядзечка, пакідаючы аўтобус. – У тым ліку на парушэнне правілаў бяспекі! Гэта што яшчэ за елачныя шары на лабавым шкле?

– Дзякуй, і вам не хварэць. Добрых свят! – крыкнуў у адказ кіроўца.

– А назад, да раённага цэнтра, як дабірацца будзем? – хмурна спытаў Юрась, як толькі  на пару з прафесарам мінуў ускраіну вёскі і накіраваўся па замеценай дарозе туды, куды паказваў надпіс «Ліпкі».

– Вернемся. Абяцаю. Вячэрнім рэйсам. Бываў я і тут, і ў Ліпках, калекцыю ручнікоў у музеі набыў.

– Веру. Ого! Амаль гадзіна! Трэба маці патэлефанаваць, каб не хвалявалася, – Юрась зірнуў на тэлефон і заўважыў прапушчаны выклік ад маці.

– Вучыся быць дарослым і самастойным. Хопіць за мамчыну спадніцу трымацца.

Юрась схаваў тэлефон, вырашыў, што патэлефануе пазней, без сведак.

Бацька, мабыць, яшчэ з камандзіроўкі не вярнуўся, а маці адна завіхаецца – бегае па крамах, і торбы няма каму паднесці. А малодшая сястра Лінка ўжо, пэўна, усю кватэру абляпіла сняжынкамі, шарамі і гірляндамі да самага не магу…

Юрась летуценна заплюшчыў вочы – елку без яго яшчэ ніколі не ставілі. Вось вечарам ён на цягнік скокне – і раніцай дома будзе. Заявіцца з пахучай елкай і падарункамі, як Дзед Мароз. І гуску замарынуе. Так, як Юрась, ніхто не ўмее, нават бабуля.

Толькі прафесар умеў распачынаць гутаркі ў самы «прыдатны час» і псаваць усім навокал настрой. Завёў размову пра несправядлівасць у краіне, беспрацоўе, чыноўнікаў-дармаедаў, войны на Блізкім Усходзе, эпідэміі і голад. Не прафесар, а чэмпіён у цяжкай вазе сярод паразітаў і ныцікаў. У Юрася хваля абурэння такая ўзнялася, што ўсярэдзіне ўсё закіпела, нават самому крычаць і нагамі тупаць захацелася. Эх, шкада, што навушнікі дома забыў...

Ішлі доўга. Паабапал дарогі то тут, то там тырчалі заснежаныя елачкі і калючае кустоўе. У адрозненне ад горада, снег тут быў чысты і бялюткі, а навокал панавала цішыня. Часам здавалася, што ў далёкім грывастым лесе рыпяць старыя хвоі і перагаворваюцца між сабой сойкі.

Наперадзе завіднеўся перакінуты праз канаву масток, за якім пачыналася вёска, як Юрась раптам спыніўся і ледзь не схапіў прафесара за рукаў:

– Глядзіце, ліса! – паказаў ён на зараснікі, дзе мільгануў руды хвост.

– Няўжо? Ліха на яе! От, зараза! – спыніўся прафесар. – Вы ўпэўнены, што ліса?

– Канешне! Бліжэй толькі ў заапарку бачыў. Чаго вы, прафесар? Гэта ж не мядзведзь і не тыгр.

– А раптам яна шалёная?.. Паслухайце, малады чалавек, мне тут у Гуцішча вярнуцца трэба, забыў тоесёе… Вы ідзіце, вунь і хаты ўжо віднеюцца… Каб на вячэрні цягнік паспець. Толькі, прашу, перадайце маёй знаёмай падарункі, калі не цяжка, – ён усунуў хлопцу ў рукі свой стары чамаданчык. – Я даганю… Не ўсё набыў: на мандарыны з шампанскім забыўся…

Юрась стрымаў усмешку, паслухмяна ўзяў чамадан. Дык вось чаму стары прафесар енчыў усю дарогу! Хутка пабачыцца са сваёй каханай – і ўраз падабрэе!

– А каму перадаць хоць? – спытаў ён.

– Святлане Любаміраўне. Асабіста ад Велізара Леанардавіча.

– Ого! Не даць рады запомніць! – Юрась пацягнуў цяжкі чамадан праз масток.

– Запомніш, Юрась… Назаўсёды. І нізкі паклон дэкану, Адэлаідзе Бальтазараўне. Правільнага студэнта адправіла, не памылілася...

– Адкуль вы ведаеце маё імя і дэкана, прафесар?– здзіўлена азірнуўся Юрась, але дзядзечкі і след прастыў.

Няўжо так лісы спалохаўся, што ў кусты сігануў? Дзіўны чалавек…

(Мушу сказаць, што ва ўсіх прафесараў, якіх даводзілася сустракаць Юрасю, крышачку… як бы гэта сказаць… былі не ўсе дома.)

Юрась прайшоў праз масток, ручай пад якім нават не думаў замярзаць – бруіўся весела і па-вясенняму, толькі каля самых берагоў прыхапіўся блакітным лядком. Затым накіраваўся да вёскі, дзе па-над вострымі стрэхамі ўздымаліся ў неба тонкія струменьчыкі дыму.

Усю дарогу хлопца суправаджала цікаўная ліска – кралася па слядах.

Мясцовы клуб з вялікім музеем і бібліятэкай знайшоўся адразу. Так ужо арганізаваныя невялічкія вёскі, што ўсё самае галоўнае – пошта, крама, клуб і аўтобусны прыпынак – знаходзіцца ў адным месцы, акурат у цэнтры галоўнай вуліцы.

Загадчыца клуба, мілая і гаваркая жанчына, спачатку напаіла студэнта кавай з абаранкамі, а потым завяла ў музей і распачала доўгую гісторыю пра сакральныя веды і духоўную спадчыну. Шпацыравалі паміж шэрагаў шаф з народнымі ўборамі, ручнікамі і прасамі, гаршкамі і паясамі, ступамі і таўкачамі, сярпамі і бочкамі, бубнамі і званочкамі, маскамі казы і мядзведзя, вышыванымі фартухамі ды хусткамі.

Юрась запісваў на дыктафон, фатаграфаваў, пазяхаў і паглядаў на гадзіннік. Якія яшчэ сакральныя веды і духоўная спадчына, калі нават разабрацца не могуць, якое свята важнейшае – Новы Год ці Раство? А Раство праваслаўнае ці каталіцкае? Быццам у кожнага свой асабісты Бог і час яго нараджэння. А ўвогуле, усё гэта святары выдумалі, каб памяць пра паганскія абрады выкараніць. Сам нядаўна ў сеціве чытаў: чаму дванаццаць апосталаў вакол настаўніка круціліся? Ды таму, што дванаццаць месяцаў, як і сузор'яў, вакол сонца бегаюць. Каша ў галовах цёмных людзей, асабліва вось у такіх глыбінках. Мае рацыю прафесар – весяліцца значна цікавей, чым на працу ісці.

– А можа, вы начаваць застаняцеся? Самі ўсё і пабачыце! – не адчаплялася загадчыца.

– Ды не, ахвоты няма… Дадому паеду.

– Што вы дома рабіць будзеце? На канапе перад тэлевізарам сядзець? Заставайцеся, не пашкадуеце! Да нас з розных куткоў краіны даследчыкі едуць. Вось і нататнік спецыяльны маецца, куды я ўсіх запісваю. І вы запішыцеся, калі ласка, і запіс з падзякай пакіньце. Вам жа спадабалася экскурсія, праўда?

– Праўда, – у чарговы раз пазяхнуў Юрась, гартаючы прапанаваны нататнік. Імя прафесара ў ім не значылася.

Пацікавіўся ў загадчыцы, але і тая паціснула плячыма: ніколі не чула такога дзіўнага імя. Калекцыю ручнікоў таксама ніхто не вывозіў. Быў неяк выпадак: злодзеі ў музей праніклі – пару старадаўніх абразоў і некалькі абярэгаў з салярным арнаментам вынеслі, а каб некаму калекцыі раздаваць направа і налева – такога зроду не было.

Узрадаваная тым, што знайшоўся слухач, загадчыца доўга распавядала пра народныя звычаі. Затым у падзяку паабяцала знайсці аўтоўку, каб падвезці цікаўнага студэнта да цягніка.

– Гэта было б цудоўна! – узняўся Юрась. – Толькі ў мяне яшчэ справа засталася: не падкажаце, як знайсці Святлану Любаміраўну?

– Ну вось. Гаворыце, што ўсё гэта забабоны, а самі, бач, варажыць

прыехалі. Яе хата ў самым канцы вуліцы, далей ужо могілкі пачынаюцца.

Юрась выйшаў. Цямнела. Нарэшце распагодзілася, у небе запальваліся першыя зоркі, якія тут здаваліся значна ярчэйшымі і большымі, чым у горадзе. З рота ішла пара, пад нагамі храбусцеў пругкі сняжок.

Вось чорт, а ў які бок вуліцы ісці, так і не спытаў!

Хлопец накіраваўся да жанчыны ў светлай берэтцы і кажушку, якая зачыняла шапік.

– Добры вечар, не падкажаце, хату Святланы Любампіраўны дзе шукаць?

– Вунь там, – махнула яна рукой у бок пошты, – уверх па вуліцы да самых могілак. Зялёненькая такая. Але напярэдадні свята знахарка не прымае.

– Хто? – перапытаў Юрась. – Знахарка?

– Добрая знахарка, нават з раёна да яе прыязджаюць. Лечыць, варожыць, будучыню прадказвае. Вы загадзя запісваліся?

ЮРАСЬ ПАЦІСНУЎ ПЛЯЧЫМА. ДЗІВУ ДАЎСЯ: НУ ШТО ЗА НАРОД? ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАЕ СТАГОДДЗЕ НА ДВАРЭ, А ЯНЫ ЗЁЛКАМІ ЛЕЧАЦЦА І КАРТЫ РАСКІДВАЮЦЬ.

Хіба ў рацыянальнага і разумнага прафесара могуць быць такія сябры? Затрымліваецца ён, аднак… Няўжо перадумаў, назад у Старасела падаўся? Дзівак…

Юрась крочыў па заснежанай вуліцы паўз драўляныя хаты, з комінаў якіх узнімаўся празрысты дымок. Пахла смалой і хвояй. За платамі разрываліся ад брэху сабакі, за вокнамі сядзелі сытыя каты. Недзе ўдалечыні патрабавальна раўла карова.

Перад самымі могілкамі, каля ручая, на якім грувасціліся дрэўцы і вялікія галіны – плаціна баброў, – стаяла акуратная зялёная хатка з разьбянымі белымі ліштвамі.

Юрась адкашляўся і пастукаў у брамку. Яна рыпнула і расчынілася.

– Добры вечар! – зазірнуў ён у двор.

Адказу не было. У вокнах гарэла святло.

Узняўшыся па прыступках на высокі драўляны ганак, Юрась пагрукаў у дзверы.

– Праходзьце! – пачуў ён голас гаспадыні і тузануў ручку. Пераступіўшы парог, апынуўся ў сенцах, а потым і ў кухні.

У хаце было горача, у выбеленай печы ярка палаў агонь, пад самай столлю сушыліся на нітках зёлкі і вялікія капелюшы грыбоў.

– Ёсць тут хто? Добры вечар! – гучна павітаўся Юрась, і з-за фіранкі вызірнула кабета ў бялюткім фартуху і хустцы. У руках яна трымала вялікую міску, памешваючы драўлянай лыжкай рэдкае цеста.

– Вечар добры, – павіталася яна і паставіла міску на стол. – Міраслава гуляць пабегла. Хутка вернецца. Можаш пачакаць, зараз аладак напяку.

Юрась прысеў на лаўку каля стала, расшпіліў куртку, паставіў пад ногі чамадан і заплечнік.

– А я не да Міраславы, а да Святланы. Гэта вы?

– Яна самая. Толькі гасцей сёння не прымаю, да свята рыхтавацца трэба, – кабета выняла з печы патэльню, абмазала яе кавалкам сала і ўліла цеста, якое адразу зашкварчэла. – Адкуль сам будзеш? Не бачыла цябе тут…

– Студэнт я, з Магілёва, Юрасём клічуць.

– І чаго ж цябе так далёка занесла, Юрась з Магілёва? Калі паваражыць ці зёлак гаючых набыць, чакай унучку. Прываротамі-адваротамі не займаемся, калі ты па гэта.

– Ды не, што вы! Я ў такія глупствы не веру!

– А ў што ты верыш?

– Ну, не ведаю… Ні ўва што…

– Так не бывае. Кожны з нас у некага верыць і нечаму кланяецца, але не заўсёды і сам можа гэта вызначыць. У кожнага свая асабістая вера і свае забабоны. Галоўнае, ёсць нешта большае, што нас аб'ядноўвае.

– І што гэта?

– Здагадайся.

– Няма калі ў загадкі гуляць, мне на цягнік трэба. Дык вы, значыцца, чараўніца мясцовая? Ого! А пакажыце які-небудзь фокус! Ну, там… град выклікаць…

Гаспадыня выняла з печы патэльню, скінула на талерку купку пухнатых аладак і паліла залацісты стосік чарнічным варэннем:

– Еж, балбес, зараз гарбаты ліпавай завару. Відэлец на стале. Смятану дастаць?

Юрась не змог адмовіцца, гледзячы, як па пульхных загарэлых бачках аладак сцякае густы сіне-фіялетавы сіроп.

– Да-аста-аць…. – толькі і змог вымавіць ён.

Гаспадыня паставіла на стол гліняны кубак, кінула ў яго жменю зёлак і ягадак са шматлікіх слоічкаў, што стаялі на палічцы, і наліла цягучага пахкага мёду.

У хаце было душна, пахла воскам і ванілінам, і ад гэтага хацелася спаць. Юрась абапёрся спінай аб цёплую сцяну і прыплюшчыў вочы:

– А ў котку ператварацца можаце?

– Анягож! І ў котку, і ў ласку, і ў варону. І ўнучку навучыла, усё як мае быць. Тая ліскаю па палях бегае.

– Крута. На тэлефон здыму, можна? – пажартаваў хлопец.

– Абавязкова! Дапаможам, чым зможам, маладому спецыялісту.

– Вось і цудоўна! І ўнучку вашую пачакаем. Вой, ледзь не забыўся! Я ж вам падарункі прывёз! Ад прафесара, Велізара Леанардавіча. Хутка і сам падыдзе!

– Якога яшчэ прафесара? Першы раз чую… – кабета паставіла патэльню на прыпечак і насцярожылася.

– Ну не ведаю, перадаць прасіў, – Юрась паставіў на лаўку чамаданчык і націснуў на бліщчастыя замочкі. Яны бразнулі, і чамадан адчыніўся. У той жа момант у паветра ўзнялася жменя сажы, быццам стрэліла хлапушка, а гаспадыня грымнулася на падлогу.

– Гэй! Што з вамі? – падскочыў да яе хлопец. Кабета нібы скамянела. У хаце запахла расплаўленым асфальтам. Юрась зазірнуў у чамадан: ён быў зусім пусты. Няўжо ў жанчыны прыхапіла сэрца?

Праз хвіліну на ганку пачуліся таропкія крокі, у хату ўвалілася румяная ад марозу дзяўчына:

– Бабуль, я дома! Бабуль? Бабуля! – заўважыўшы на падлозе цела, яна кінулася да яго.

– Я… я нічога такога… – разгубіўся Юрась. – На хвіліну зазірнуў, падарункі аддаць, а яна вазьмі ды ўпадзі! Дыхае! Трэба «хуткую» выклікаць!

– Ніякая «хуткая» не выратуе! Ну, што стаў? Дапамажы на ложак перанесці! Хутчэй! Ах, не ўпільнавала! Не злавіла! Знік!

– Чаго не ўпільнавала? Хто знік? – не разумеў Юрась, пакуль дапамагаў ускладаць бабулю на ложак, што стаяў за печчу.

– Злыдзень!

– Які злыдзень?

– Той, у паліто і капелюшы, пад якім самыя сапраўдныя рогі!

– Прафесар?!

– Які прафесар?! Злыдзень! Я іх здалёк бачу! Сутнасць, стварэнне, якое дасылае моцны імпульс злосці, раздражнення і негатыву, яго прымаюць навакольныя людзі і самі выпрацоўваць злосць! Адбываецца канфлікт, сварка, раздражненне і вельмі магутны выкід псіхічнай энергіі, а гэта і ёсць мэта ўсёй працы Злыдня! А людзі, пасля таго як накрычацца, адчуваюць стомленасць і дрымотнасць, бо ўсе іх сілы сышлі ў невядомым кірунку. Роспач і пустэча, бо амаль усю энергію чалавека высмакталі, разумееш?

Знаёмая сітуацыя? Чалавек, сам таго не жадаючы, корміць сваімі эмоцыямі усіх Злыдняў запар! Гэта ж ад яго падарункі?

– Не… не ведаю… Ад Велізара Леанардавіча…

– Ты разумны? Калі кніжак не чытаеш, хоць у сеціва зазірні: Велізар – дэман хлусні, а Леанард – гаспадар шабашоў! Ён пасмяяўся з цябе!

– Ты што такое кажаш? – заматляў галавой Юрась. – Гэта глупства, такога быць не можа…

– Не можа? Што ж ты нарабіў, дурань…

– Папрашу без абраз! Лепш «хуткую» выклікаць!

Дзяўчына накрыла бабулю коўдрай, а потым сцягнула з сябе чырвоныя з белым пальчаткі і такую ж задзірлівую шапачку з пампонам. Па плячах рассыпаліся залацістыя косы.

– Самі Злыдні ручай перайсці не могуць, – працягвала Міраслава, здымаючы куртку, з-пад якой выглядала кляцістая кашуля і сінія джынсы. – Ні ваду, ні агонь. Затое чужымі рукамі дзейнічаюць, шкоду чыняць. А бабуля мая – адзіная на ўвесь раён, хто баланс святлацені стрымлівае… Зараз ва ўсім разбяромся, усё зробім правільна… Вось яны, грамнічныя… – стала яна запальваць свечкі.

– Ты што робіш? – усклікнуў Юрась і сабраўся бегчы па дапамогу на вуліцу, бо дзяўчына, відавочна, была не ў сабе.

У гэты момант пад печчу хтосьці заварушыўся, чыхнуў і неўзабаве выкаціўся: маленькі, у рост гадавалага дзіцяці чалавечак, зморшчаны, з доўгай сівой барадой. Кульнуўся пад самымі нагамі Юрася, абярнуўся чорным катом і выскачыў праз расчыненую фортачку.

– Мама дарагая, – плюхнуўся на лаўку Юрась. – Выклікай «хуткую»! Я з глузду з’ехаў!

А БАБУЛЯ МАЯ – АДЗІНАЯ НА ЎВЕСЬ РАЁН, ХТО БАЛАНС СВЯТЛАЦЕНІ СТРЫМЛІВАЕ…

Дзяўчына ўсё гэтак жа запальвала свечкі:

– А гэта Злыдзень іх на цёмны бок пераваблівае, усіх: Дамавік, Лазнік, Хлеўнік, Пячурнік, Хатніца – усе зараз да яго кінуцца… Вой, а калі і Вадзянік з Азярніцамі прымкне ды ручай замерзне?..

– Ды што тут у рэшце рэшт адбываецца? Растлумач чалавечай мовай! – схапіўся за галаву Юрась.

Міраслава абыходзіла хату са свечкай і пасыпала падлогу макам:

– Значыць, так: ты гэта ўсё распачаў, табе і адказ трымаць. Інакш зоркі не будзе, і свята не будзе, і святла…

– Пры чым тут зоркі? Іх шмат – ноч на вуліцы…

– То не ноч…

Хата затрэслася, за вакном з дзікім карканнем замітусіліся зграі варон, пачуліся спуджаныя крыкі, завылі сабакі.

Дзяўчына засяроджана малявала на дзвярах крыжы:

– Ну калі ты не здагадаўся пра Віфлеемскую зорку, то здагадайся хаця б пра іншую – сонца, якое нараджаецца ў гэты час, праглынае цемру і робіць дні доўгімі. «Каляда» ад слова «кола» – сонца. Хіба гэта не зразумела?

Хата ізноў страсянулася, у вокнах захісталіся вуглаватыя цені. Агонь у печы згас. Нешта зашкрэбалася на даху, пасыпаўся праз комін чорны пыл. Па шыбе рыпнулі кіпцюры.

– Што гэта? – голас Юрася дрыжаў.

– Злыдні, вупыры, непрытомнікі і пярэваратні. Мабыць, ручай замерз. Без бабулі нам не справіцца. Так што давай, кіруй на двор, пакуль я прывяду яе ў прытомнасць. Для рытуалу ўсё гатова.

– Не пайду я, – закруціў галавой Юрась.

– Як не ты, то хто? Ты са Злыднем вунь колькі часу правёў, а сабой

застаўся, хоць і чорта памінаў. Значыць, ёсць у табе святло. Не бойся, вось табе абярэг, – Міраслава ўклала яму за каўнер альховую галінку. – Яны табе нічога не зробяць. Трымай, – яна дастала са скрыні верацяно, – калоць трэба ў іх цені, здані будуць знікаць, – і пацалавала хлопца ў шчаку.

ЮРАСЬ НІБЫ АКРЫЯЎ, НАБРАЎ БОЛЬШ ПАВЕТРА І ВЫЙШАЎ НА ГАНАК. РАСЧЫНІЎ ДЗВЕРЫ, У ЯКІЯ ЦІСНУЛІСЯ ЧОРНЫЯ ЗДАНІ, І АДРАЗУ ВЫСТАВІЎ НАПЕРАД ВЕРАЦЯНО. АЖ БАЧЫЦЬ: ЗУСІМ ГЭТА І НЕ ВЕРАЦЯНО, А МЕЧ ЗІХОТКІ, НА ПЛЯЧЫ ШЧЫТ З АЛЕШЫНЫ, І САМ ЁН У ДАСПЕХІ З ВЫЯВАЙ СОНЦА ЗАКАВАНЫ.

Махае мячом направа і налева, крышыць лютых ворагаў, стомы не ведаючы… А птушка агністай зоркай над галавой пралятае і пытаецца:

– Малады чалавек? А далёка да выраю? Малады чалавек? Малады чалавек…

Юрась схамянуўся і расплюшчыў вочы: на стале стаяла талерка з рэшткамі варэння і пусты кубак. За вокнамі чуліся спевы і звон калакольцаў, Святлана Любамібраўна выняла з печы пахучыя смажаныя кілбасы, а побач з хлопцам стаяла рудая дзяўчына і будзіла яго:

– Малады чалавек, прачынайцеся! Там машына чакае, у мястэчка ехаць.

– Якое мястэчка? Я ж яшчэ абрадаў не пабачыў! Якія сонцу нарадзіцца дапамагаюць ды цемру праганяюць!

– Ну тады чакайце, пойдзем разам калядаваць! – узрадавалася дзяўчына. – Весялосцю ды шумам усю цемру прагонім! Толькі маску ліскі ды хвосцік на печы знайду!

– А… – разгубіўся Юрась, – а можа быць такое, што я вас у сне бачыў? Два разы.

– Тэорыя верагоднасці гэтага не выключае!

***

*А Калядачкі, а хадзіце к нам,*
*Ой, рана, рана, а хадзіце к нам.*
*А хадзіце к нам, а мы рады вам,*
*Ой, рана, рана, а мы рады вам.*
*Нашы праснічкі паламаліся,*
*Ой, рана, рана, паламаліся.*
*Верацёначкі пагубляліся,*
*Ой, рана, рана, пагубляліся.*
*Нашы пальчыкі паспрадаліся,*
*Ой, рана, рана, паспрадаліся.*
*І пярсцёначкі пасціраліся,*
*Ой, рана, рана, пасціраліся.*
*Каб вас, Калядак, нядзель дзесятак,*
*Ой, рана, рана, нядзель дзесятак.*
*Мы бы, дзевачкі, нагуляліся,*
*Ой, рана, рана, нагуляліся.*
*І Калядак наўспаміналіся,*
*Ой, рана, рана, наўспаміналіся…*

# ТАНЯ СКАРЫНКІНА

## ДАЧКА КАМОРНІКА

Самае крыўднае, што ў мамы пра тату не запытаеш.

Тата даўно памёр, але мама ніяк не даруе яму шмат якія рэчы. Шмат у нас з татам было агульных дзён. Тата быў сябар, ды не ўсімі днямі сваімі належаў мне. Але адзін дзень тата быў мой цалкам. Навагодні дзень. Вечар, калі дакладна. Ноч. Можа, гэта доўжылася гадзіну. Альбо хвіліны.

Тата падпаліў ялінку. Мы ляжалі абодва на канапе ў вялікім пакоі, які называецца «зала». Я старалася не дыхаць, каб не перашкаджаць дыханню татавага жывата. Жывот рухаўся жывой хваляй. Мы ляжалі бокам, глядзелі тэлевізар. Але я толькі падавала выгляд, што гляджу, насамрэч спаўзала на самы край чэхаславацкай канапы, абабітай ваўняным драпам ялінкавага колеру. Я сачыла за сваімі рухамі, каб даваць тату дыхаць. Ён памёр, так і не даведаўшыся пра тое, што яго подыхі ля ялінкі на ялінкавай канапе шанавалі і пільнавалі.

У навагоднюю ноч 1975 года тата вучыў мяне страляць запалкамі. Я пасюды ўмею гэта рабіць, ноччу пабудзі, дай карабок, адразу стрэльну па ўсіх правілах. Перш-наперш у левую руку бярэцца карабок. Правай рукой ставіцца запалка на серку. Пад невялікім вуглом да сябе прытрымліваецца ўказальным левым пальцам. Калі запалка ўсталявалася, даеш ёй моцнай пстрычкі правай рукой. Запалка такім чынам запальваецца і ляціць у даволі непрадказальным напрамку. Таму лепш гэтым займацца на паветры. У бязветранае надвор’е. Бо можа вярнуцца да стральца. У кватэры было бязветрана, тата наўмысна пстрыкаў у напрамку елкі. І мяне падвучаў.

Ялінка тулілася ў кутку. Уціскалася моўчкі ў сцяну. Мы з канапы яе бязгучна атакавалі, упрыгожаную, акрамя шкляных цацак, гірляндаў і лямпачак, яшчэ ватай, імітуючай снег. Гэта ялінку і згубіла. Калі ў залу ўварвалася мама, было позна. Мама грымнула дзвярыма балкона. І прысвяткам новага, 1975 года спікіравала ялінка ў чорную пастку ночы. Паходняй сярэднявечнай даволі буйнога памеру.

Мама разгарнула фіранкі, як герой «Псіха» Альфрэда Хічкока са знакамітай сцэны забойства ў ванне. Маньяк у выкананні Энтані Пэркінса, самая знакамітая роля артыста. Вядома, што сталася далей: герой Энтані Пэркінса забівае дзяўчыну непамерным цесаком, пераапрануўшыся ў сваю

маці-нябожчыцу. Голая дзяўчына нема крычыць. Елка моўчкі памірае. То-бок у ёй памірае навагодняя сутнасць. Поўнасцю голай яна становіцца на раніцы, калі мы з мамай выходзім здымаць з яе галінак ацалелыя цацкі. Захавалася няшмат. Гірлянды ацалелі. Гірлянды – самае трывалае ўпрыгожванне. Ружовая хатка. Юлёвы лядзяк. Шарык з дзвюма рыбамі-фарэлямі празрыстага тонкага шкла, якога болей ніколі не сустракалася ў елачных цацках. Удала быў падвешаны шарык з серабрыстымі рыбкамі.

Пазней ужо, калі стала дарослай, я падаравала яго сяброўцы, што запрасіла ў госці на Новы год. Шарык павесілі на самае бачнае елачнае месца, дзе, крыху пакрасаваўшыся, ён лопнуў. Сам па сабе. Да яго ніхто не дакранаўся. Шарык пакрыўдзіўся, я ўпэўненая, што знеслі з хаты, аддалі ў чужыя рукі, што чужыя рукі павесілі на ялінку ў незнаёмым асяроддзі. Сяброўка ўпэўнівала, маўляў, ад часу рассыпаўся. Ад волкасці. «Ты ж цацкі ў склепе захоўваеш», – казала. Я цацкі ў склепе захоўваю. Я ківала пакорліва, свята як-ніяк, але ўнутры разумела самагубны ўчынак цацкі.

Пра хічкокаўскі спосаб адзначаць Новы год з падпальваннем я думала нейкі час, што гэта традыцыя. Рытуал, што так і трэба. Бо ніякай гырканіны не памятаю, каб мама з татам сварыліся з-за дрэва. Наогул не памятаю ніякіх не тое што размоў, не чую адтуль гукаў. Нямое кіно ўспамінаў. Голас татавы не памятаю.

Тата працаваў каморнікам. Насупраць «сярэдняга магазіна» месцілася кантора ў звычайнай хаце са студняй у двары, крывымі яблынямі. Бабуля называла краму па-польску «склепам» і, калі выпраўляла па хлеб-цаглінку, альбо каменныя пернікі, альбо за цукеркамі «палачкамі-стукалачкамі», мне падавалася, што трэба ісці на могілкі. Ад слова «склеп» несла холадам, а не ўтульным пахамі сельмага з груவасткай засаўкай на вісячым замку. У каморніцкай канторы панаваў пах каляровых слоічкаў з тушшу. Рыпелі пёры па роўнядзі ватманскіх аркушаў, прыгнечаных, каб не заварочваліся, металічнымі пліткамі, рыхтык шакаладкі. Шакаладкі рэдка завозілі ў краму, яшчэ радзей куплялі. Я гулялася металічнымі шакаладкамі. Карысць ад іх была тая, што не раставалі. І бабулін дом, і склеп, і кантора мясціліся на вуліцы Вілейскай. Цяпер яна мае іншае імя, але ім не карыстаюцца.

Паўгода таму я заўважыла на адной хаце, якую будуць па ўсіх прыкметах зносіць, таблічку з ранейшай назвай. Стала таблічку хацець, думала нават скрасці, але яна вісела занадта высака, моцна прыбітая да сцяны чатырма цвікамі. Кожнага разу праходзячы па Вілейскай, я выглядала ў двары жывога чалавека, каб, папершае, дазволілі зняць, а па-другое, дапамаглі гэта зрабіць, але ні разу там нікога не бачыла. Я б ім сказала, калі б спыталі, навошта мне таблічка, што ўсё дзяцінства на гэтай вуліцы прайшло. Гэта мая радзіма. Я б 10 рублёў заплаціла, можа 15. Днямі іду да цёці, напрыканцы Вілейскай яна жыве. Бачу з сумам: таблічкі няма. Нічога не зробіш. Перш за ўсё як прыйшла на двор, расказваю пра таблічку пляменніку. Ён прыехаў з Вільні ў адпачынак. Ён моўчкі выслухаў і ў хлеў. Я ў хату павітацца з цёцяй. Пасля выходжу папаліць з ім. Раптам ён пракашляўся і, хаваючы нешта ў руках за спінай, кажа:

– Гэтую таблічку я зняў.

– Чаму адразу не сказаў? – здзіўляюся, ашаламляюся.

– Не мог адразу прыдумаць, што сказаць, каб цябе не знерваваць.

– Думаў, самлею? Раскажы лепш, як гэта з таблічкай атрымалася.

– Іду з крамы, там дзядзькі нейкія. Я раптам падумаў, вось знясуць дом, прападзе таблічка. Папрасіў купіць у іх за 10 рублёў. Яны пытаюцца: нашто табе? Я кажу: дзяцінства на гэтай вуліцы правёў. Гэта мая радзіма. Тады яны патэлефанавалі гаспадару. Гаспадар прыехаў. Ну, і знялі таблічку. Я грошы даю. Гаспадар адмаўляецца. Тады я хлопцу Толіку, які здымаў, іх даў. Вось прынёс і Вову падарыў.

Вова, стрыечны брат, саджае ў гародзе часнык. Слухае нашу размову насцярожана. Аблічча яго красамоўна сведчыць, што ён чакае, што я зараз пачну таблічку прасіць. Вова маўчыць. А я не пачынаю. Тады Вова кажа:

– Я таблічку адрэстаўрую і на дом павешу.

Я кажу:

– Вова, нічога не можа быць лепш за тое, што ты збіраешся з ёй рабіць.

Мы ўсе разам ідзём абедаць. Цёцю гісторыя таблічкі не ўразіла:

– Яшчэ штраф дадуць, што павесілі таблічку, вуліца ж ужо не Вілейская.

А я так думаю, што самая што ні на ёсць Вілейская. І хутка гэтаму будзе адрэстаўраванае пацверджанне. У хаце, на якую Вова павесіць таблічку, калісьці ўсёй раднёй адзначалі вяселле мамы і таты. Бо бабуліна хата была замалая, у таты свайго жытла не было. Ён прыехаў сюды каморнікам па размеркаванні. А цёця адбудавалася з мужам, каб прасторна. Цёціна дачка Галінка, калі я запыталася, што яна памятае пра вяселле, дык нічога не памятала. Ёй быў год на той момант. Але, падумаўшы, кажа:

– Я каталася па хаце на маленькім роварчыку. На трох колах. Прыглядаюся, што ўся падлога нібыта падзюбаная. Пытаюся ў мамы: «А што гэта тут насечкі?» Мама гавора: «Гэта на Валінай свадзьбе дзеўкі танцавалі і шпількамі парабілі такое во абсацамі». На Новы год была свадзьба. І пашкодзілі. Новую хату аднавілі.

Я адразу ўявіла не шпількі, а менавіта дзюбы апантаных невядомай мэтай птушак, як у Хічкока ў аднайменнай стужцы. Па мне, дык гэта самы жудасны фільм рэжысёра. Бо маньяка зразумець можна, калі напружыцца. А птушак, якія звар'яцелі адразу ўсімі зграямі мясцовасці, – немагчыма.

Самы любімы фільм Хічкока – «Вакно ў двор» 1954 года. Нягледзячы, што там пра забойства, аднак гэта самы жыццесцвярджальны фільм з усіх, якія ведаю. Кожны раз, калі зусім да сценкі падпіраюць абставіны, уключаю яго, і адразу Новы год. Цяпер уключыла «Вакно», таму што яго ўспомніла пішучы. Адразу напачатку – здзіўленне. Фатограф кажа ў адказ свайму начальніку, калі той прапануе абзавесціся жонкай: «Жаніцца і кожны дзень вяртацца дамоў, каб пачуць гукі пральнай машыны-аўтамата, электрычнай пасудамыйкі, кухоннага камбайна».

Раней я не звяртала ўвагі і не параўноўвала прадметы амерыканскай бытавой тэхнікі ў 1954 годзе і савецкай крыху пазнейшых часоў, калі я памятаю, як мы жылі з мамай і татам у бабулі. Падлога на кухні была земляная, пралі ў начоўцы, газавай пліты не было, толькі печ. З бытавой тэхнікі – радыёкропка. Тэлевізара не было таксама доўга, каб паглядзець хоць гэта самае «Вакно». Хадзілі ў кіно. Але ў кіно, на жаль, не бачыла я «Вакно». У сэнсе на кінаэкране. Нават калі пабачу калі-небудзь, не будзе эфекту адкрыцця, бо менавіта самае лепшае, што магла здарыцца паміж мной і фільмам, гэта пабачыць яго ў кінатэатры ўпершыню.

Не бачыла, аб чым таксама бяссэнсна шкадаваць, рэшткі касцёла Святога Віталя. Яго пабудавалі ў Смаргоні

напярэдадні Першай сусветнай. Усяго год прастаяў. Разбамбілі ў самым пачатку вайны. Аднаўляць не сталі, цэгла пайшла на пашкоджаны вайной касцёл Святога Міхаіла Арханёла. Шмат старэйшага, сярэднявечнага. Год пабудавання 1503. Цэгла з першага пайшла на аднаўленне другога. Два ў адным, так бы мовіць. Кавалкі разбураных чырвоных сцен яшчэ мама і цёці памятаюць, былі ў іх дзяцінстве. Там буялі «камы», мясцовая назва ажыны. Збіралі іх там. Кавалкі Святога Віталя зваліся «Разбіты касцёл». Па вуліцы Леніна, былая Мінская, адразу за Паненкамі стаяў. Так трох незамужніх сясцёр Сініцкіх звалі. Адразу за Паненкамі ліпавая алея, за алеяй касцёл на выездзе з горада. І вось ён прысніўся.

З вакна трамвая бачу яго чырвоны кшталт, едучы па трамвайным кольцы вакол маленькай старой Смаргоні. У часы Першай сусветнай тут пражывала недзе паўсотні чалавек, я ўбачыла касцёл з дзвюма вострымі, крохкімі вежамі ў атачэнні незвычайна высокіх соснаў. Малалюдна, ціха. І касцёл пасярэдзіне новенькі зусім. Так і хочацца сказаць – маладзенькі.

Успамінаючы падчас напісання фільмы Хічкока, кожны з якіх як падарунак, я перагарнула фільмаграфію рэжысёра. Усе фільмы бачыла, і так яны дабротна пароблены ўсе, што па дэталях памятаю кожны. Пераглядаць не мае сэнсу. Нават «Лэдзі знікае» 1938 года. Яго гадоў 20 таму з сяброўкай Марынай у яе дома па канале «ТВ1000» глядзелі. Па канале ішлі старыя фільмы, чорна-белыя. Мы каву пілі, балаболілі. Незаўважна для сябе павярнуліся да экрана і, пакуль фільм не скончыўся, не адвярнуліся ні на што. Мы не адразу вярнуліся ў рэчаіснасць. Толькі вылупіліся адну на адну з бязгучным пытаннем:

– Што гэта было?

Ад здзіўлення я нават не прачытала цітры. Ні імя рэжысёра, ні назвы фільма мы не ведалі. Глядзелі не спачатку. Толькі праз гады я даведалася пра вялікага і жудаснага Хічкока, пра яго фірменных актораў. Пра актрысу-прынцэсу Грэйс Келі, пра асаністага незбянтэжнага Кэры Гранта, падобнага на ваўчаня-падлетка з вялікай шэрай галавой і цяжкімі лапамі. І ў таты лапы былі вялікія, сухія. Далоні цвёрдыя, каморніцкія. Браць яго за руку, ехаць на Балтыйскае мора. «На Рыжскае ўзмор'е», казалі. Спачатку трамваем да чыгункі. Дык вось адкуль трамвайнае кольца ў сне пра касцёл Віталя. Гэта бабуля Рая, мама таты, жыла ў горадзе Рыга на ўскрайку, за домам трамвайная канцавая. Ідзеш на прыпынак праз групку карабельных сасонак, па жоўтым пяску, пад віск чаек над сметнікам. Я толькі на летнія вакацыі бывала ў бабулі. Зімой ніколі не ездзіла. Ніколі не даведаюся, якія былі ў двухпакаёвай хрушчовай кватэры елачныя цацкі. Ці наогул ставіла бабуля елку? А калі ставіла, якія падарункі туды клалі? Не запытаешся. Бабулі няма, дзядулі няма, тата памёр.

Зараз пакуль не Новы год, а падарунак атрымаўся. Выпадкова, рэмэйк «Лэдзі знікае», 1979 года. Двайны падарунак, бо ў галоўнай ролі Эліят Гулд. Ходзіць там, пасвіствае, рукі ў кішэні. Яшчэ з часоў постнуару Роберта Олтмана «Доўгае развітанне» 1973 года – любімы прыватны дэтэктыў Філіп Марлоу. Знакамітага ў свае часы Марлоу, якога прыдумаў знакаміты ў свой час пісьменнік Рэйманд Чандлер, ігралі галоўныя мужчынскія зоркі Галівуду: Хамфры Богард, Роберт Мітчэм, Харысан Форд. У арыгінальнай версіі «Лэдзі знікае» галоўнага героя таксама грае зорка 40-х Майкл Рэдгрэйв – бацька Ванэсы Рэдгрэйв, якая стала знакамітай дзякуючы першай англійскай стужцы Мікеланжэла Антаніёні «Фотапавялічэнне» па апавяданні

Хуліа Картасара «Сліна д’ябла», які ў сваю чаргу напісаны пад уражаннем хічкокаўскага «Вакна ў двор».

З ГЭТКАЙ АПАНТАНАСЦЮ КІНЕМАТОГРАФАМ БЫЦЬ БЫ ДАЧКОЙ НЕ КАМОРНІКА, А КІНАМЕХАНІКА ЦІ КІНААПЕРАТАРА. КАГО-НЕБУДЗЬ, ЗВЯЗАНАГА З КІНАМАСТАЦТВАМ. АЛЕ ПРЫСНІЛАСЯ ЎЖО ПАСЛЯ СМЕРЦІ ТАТЫ, НІБЫТА ТАТА ТАМ НА НЯБЁСАХ – ФАТОГРАФ.

Трапіла на той свет, дзе нічога няма, ні верху, ні нізу, усё ў паветры трымаецца само па сабе. Незнаёмыя цётачкі-нябожчыцы перашэптваюцца пра тату, абгаворваюць, маўляў, ходзіць ды пасвістае, вялікія рукі ў кішэнях. Апранаецца толькі ў белае. Сапраўды, ніадкуль з’яўляецца тата ў сляпучым бялюткім строі. Не было пры жыцці такога адзення ў таты. Белыя фасоністыя туфлі-лакіркі. Поўнасцю задаволены жыццём, дакладней смерцю, твар. Цётачкі пытаюць мяне кпліва:

– Што ён табе падарыў?

Намякаючы, адна адной падміргваючы, падазраючы, што нічога. Раптам я адчуваю за спінай нешта ёсць аднекуль. Фотаапарат на трох ножках. Адходжу ўбок, дэманструю цётачкам:

– Вось.

Я прачнулася. І зразумела каморнікавы сэнс таго, што сасніла. Штатывам карыстаюцца і фатографы, і каморнікі. На трохногі штатыў ставяць нівелір. Памятаю з дзяцінства гэтае слова. Але ніколі не цікавіла яго значэнне. Пакуль не вырашыла пісаць пра тату, пакуль не сустрэла Ніну, яна працавала з татам у канторы. Ніна прадавала брусніцы на маленькім кірмашы, я запытала пра нівелір. Ніна сказала:

– Гэта каб вымяраць кропкі на мясцовасці.

Я нічога не зразумела, купіла ягады. Ніна захвалявалася:

– Можа, шмат з цябе ўзяла?

Я б сама за размову заплаціла. Так было прыемна размаўляць пра тату. Ніна пералічыла інструменты каморніцкія. Іх назвы гучалі, як імёны нябесных сузор’яў: мензула, пантограф, тэадаліт. Ніна расказала, што папа быў «дружны», значыць кампанейскі. Пеў, хоць не ўмеў, пасвістваў за працай. Гэта я і без Ніны ведаю. З нічога майстраваў нешта. Караблікі з сасновай кары, якія мы разам запускалі. Навучыў у два пальцы свістаць, але я развучылася.

# ТАТЬЯНА ТРОЩИНСКАЯ-СТЕПУШИНА

## ВОЛЬФРАМОВА НИТЬ

Учиться я перестал, кажется, в седьмом классе. Прогуливал, на уроки забил. Иногда прокатывало, иногда нет. Меня ругали, что-то втирали. Все эти беседы заканчивались вечными «ну ты же понимаешь» и «ты же умный мальчик» и т.д. Ни в седьмом, ни в десятом классе эти слова не производили на меня никакого впечатления, но я привычно молчал, кивал и обещал.

Бабка по отцовской линии была завучем в моей школе. Вернее, в очень престижной гимназии. И она, конечно, страдала: ведь и ее сын, мой блудный папаша, и ее внучка, моя веселая сестра, закончили эту самую школу с медалью. И только я бросал тень на семью и ее незыблемый авторитет. В началке я был страшным отличником (хотя в начальной школе, по-моему, только дебилы не отличники, в крайнем случае – не упорные хорошисты). Но откуда мне знать, может, эти оценки учителя ставили не мне, а своей безопасности: кому охота портить отношения с завучем?

Прогуливал я всегда один: остальные боялись, а может, не хотели. Ну и шлялся один, то к бабке зайду (другой, естественно), пока она на работе – благо ключи были, а деда дома нет, – то в парке, то по городу. Смешно было, когда на классную чуть не напоролся, а она, слепенькая, не заметила. Иногда дома тусовался, пока матери не было. Утром выхожу вместе с ней будто в школу, с рюкзачком за плечами и карамелькой за щекою, она – на трамвайную остановку, а я – кругом – и домой.

Был у меня друг Ванюха Гречишный, внук какого-то известного театрального актера, мы с ним дружили с детского сада. Когда мы учились в восьмом, он придумал (а мы уже, как нормальные люди, и покуривать начали, и пивка могли дрябнуть) в супермаркетах подворовывать, людей, мол, там много, толчея, не заметят. Сначала и правда тихо было, тем более тогда понемногу брали. Ну а потом приоборзели слегка, стали рюкзаками выносить, тут нас и прихлопнули. Привезли в ментовку. Мент набрал телефон матери, представился, потом трубку мне передал. Она позвонила своему школьному приятелю-менту, он по-быстрому приехал, отмазал нас.

Мать потом за нами приехала, получил я тогда, но мне было плевать. Главное – отмазали. Хотя не зря говорят: жадность фраера сгубила. Точняк.

Одно время в компьютерные игры резался, мать все боялась, что зависимость разовьется, даже к психологу таскала, он сказал рисунок нарисовать, поговорил со мной, сказал ей: все, мамаша, с вашим сыном в порядке, а вот вам надо со своей тревожностью что-то делать. Не прав он оказался, этот психолог, хоть и заведующий. Хотя, может, тогда все еще было в порядке? Черт его знает…

…Психиатр потом сказал, дезодоранты. А что дезодоранты, зависимости-то не было! Просто класса с восьмого мы с Ванюхой и еще одним нашим друганом по кличке Тралик начали их нюхать. Не слыхали? Рекомендую! (Шутка.) Подруга Ванюхи приехала из летнего лагеря, рассказала ему, что от них можно дуреть, и сообщила, как именно. Решили попробовать. Дело нехитрое, недорогое и незаметное – чего не попробовать? На полотенце баллончик выбрызгиваешь, накрываешь голову и вдыхаешь. Сначала, конечно, противно, потом будто дыхание останавливается, задыхаешься. Я в первый раз думал: все, капец, подыхаю! Страшно стало. А потом – приход, да какой! Правда, проходит быстро. Ну если пару баллончиков за вечер взять – ничего, покатит!

В детстве мне рисовать нравилось. В художку ходил пару лет. Первым мой интерес дед отметил, когда я еще малой у них с бабкой на выходные тусовался. Умный, говорит, мальчонка, подмечает детали, изображает талантливо. Ну, бабка сразу зашебуршилась и тут же записала меня в художку, приняли даже без подготовительного класса, по вступительному рисунку.

В музыкалку еще ходил, класс фортепиано. Сначала нравилось, потом надоело. Пять лет отмаялся, бросил. И художку тоже. Муть все это, неинтересно. Мать не напрягала, она как раз к этому времени перековалась: встала на рельсы гуманного воспитания. Ха-ха. Мол, если ребенок не хочет, нечего его заставлять. Раньше-то она ну просто зверь была, чуть что – в крик, особенно учебой этой грёбаной донимала меня, могла и приложиться как следует, если букву какую не так напишу или пример. А уж сестре доставалось! Но той не за учебу, она хорошо училась, а просто так, то ли от плохого настроения, то от характера, то ли еще от чего.

В детстве, помню, матери я боялся крепко.

А потом она что-то читала-читала, и как-то вдруг переклинило ее, но в лучшую сторону, стала маленько следить за собой, уже чуть что, так не кидалась на нас, как цепная собака. Все старалась понять, объяснить, книжки нам умные зачитывала, обнимать нас стала. Сестра, та обрадовалась, общалась с ней здорово, но я уже как-то на все это мало реагировал: у меня были друзья и, конечно, дезики. Коллекция, кстати, у меня была впечатляющая. Штук сто пустых баллончиков в шкафу спокойно стояли себе, никого не трогали. В прошлом году мать случайно увидела стройные ряды моих пахучих друзей (вернее, их тел) и стала гнать, мол, большой, неужели такой ерундой до сих пор занимаешься. Это она думала, что мы их в огонь кидаем, ну, чтоб взрывались, для прикола. (Мы так и вправду давным-давно развлекались.) Я, понятное дело, таинственно молчу. А сама она, ясное дело, не додумалась.

Чуть не спалился, когда полотенце Ванюхино домой приволок (не напасешься каждый раз новое брать, да и у матери все имущество наперечет), а оно воняет, блин, реально. Дезики – это ж вам не Шанель, это запашок соответствующий, особенно если концентрация будь здоров. Ну я его в пять

пакетов – и на балкон. (Ванюха не мог домой его припереть, у него квартира меньше и мать зорче, неперекованная, да еще отец сильно внимательный.) А мать унюхала! Пошла на балкон, быстренько обнаружила источник ароматов и ко мне: что, да чье такое, да зачем. Ну, я, конечно, в глухую несознанку с вкраплениями показательных признаний: полотенце Ванюхино, попросил забрать, а почему воняет – знать не знаю. Забрал его, конечно, а она поворчала немного да забыла.

Мать все жаловалась, что я такой-сякой, и бездельник, и бездушный и т.д. и т.п. Но для меня эти слова ни о чем. Да, я ленивая задница. Ну и что? Мало ли таких на свете. А если ей что-то надо, пусть сама и делает, я не слуга.

А учиться-то я все-таки начал! В одиннадцатом классе, за полгода до выпуска. На зимних каникулах, помню, план себе составлял, как и что делать. Сидел над ним круглыми сутками. И все мне не нравилось, бумаги кучу извел, так и не получилось…

Я ПРОСТО ПРИДУМАЛ В АМЕРИКУ ПОСТУПАТЬ. ДЯДЬКА МОЙ АМЕРИКУ СИЛЬНО ЛЮБИЛ, А Я – ДЯДЬКУ. ВОТ И РЕШИЛ ПОСТУПАТЬ ТУДА.

Мать энергичная, продвинутая, нашла какие-то программы в интернете, что почем, разузнала. Можно, оказывается, поступить, если аттестат отличный, а потом экзамены хорошо сдашь, английский там, то-се, особенно там волонтерство прокатывает, спорт и прочая хрень. Только вот с выбором профессии всегда сложно было: ну не знал я, кем хочу быть, и все тут.

Решил я начать с аттестата. И пошел носом землю рыть. Учителя, как в «Электронике» (был такой старый советский фильм для детей), за голову хватались: что с Вовой? Я был зациклен на аттестате, на оценках, теребил учителей, как исправить то, это, просил дополнительные задания. Где сам, где списывал, короче, сделал за полгода отличный аттестат. Не спал, правда, почти. Мать переживала, но мне и не хотелось. Зачем, спрашивается, спать, если не хочется? И с едой как-то странно стало. В общем, еда стала платой за работу. Хорошо решил задачу или тест – поешь, говорил я себе, плохо – перебьешься.

Но тогда я реально горел Америкой. И перегорел. Как лампочка. Знаете, перед тем как потухнуть, она некоторое время, очень короткое, светит как-то особенно ярко, а потом – бац! – и разорванная надвое, еще подрагивает по инерции пружинка, вольфрамовая нить, но лампочка уже мертва.

…Получил аттестат. Отец приехал со своей очередной семьей и всеми детьми на выпускной. Бабки нарядные, мать, сестра… Я выступал на концерте. Говорят, классно. Мать говорила, что у меня есть актерские способности. Лет пять назад показал медузу: лег на пол (он у нас скользкий), вытянул руки вверх, втянул щеки, выпучил глаза и «поплыл». Не знаю, как объяснить, но вышло, наверно, смешно. Мать была в восторге, просила повторить, но я не стал. Еще как-то изображал пьяницу, тоже, говорит, похоже. Ладно, о выпускном. Скакал там на ура, улыбался. Но на самом деле мне было все равно, не то что какое-то там эффектное безразличие, а просто никак.

Как-то постепенно все утратило смысл, стало неинтересно. К тому времени где-то в груди у меня поселился какой-то липкий серый ком, что-то вроде ощущаемой пустоты, трудно объяснить. И мысли, мысли, вечные мысли. С ними надо разобраться, а они расползаются, как тараканы, нет, как змеи, вроде длинные, тянутся, вот одна хвостом вильнула и исчезла.

О чем думал? Чего хотел? Не помню… Шкаф разломал однажды, стекло в кухонном ящике. Когда что-то не делаю не так, как надо, не так ручку положу или шкаф закрою, вспыхивает дикая ярость, и тогда я со всей дури могу по чему-то сильно вломить.

Чтобы спокойно думать и не тревожить лишний раз свою пустоту, приходилось лежать. Так было лучше. Лежать, и чтоб никто не лез. Не отвлекал. Потому что все мешают. Во-первых, ничего не понимают и ничего не объяснишь. Во-вторых, мне же надо додумать, а для этого нужен покой и тишина. И безлюдье.

Но параллельно я в универ поступил. Сдал тестирование по нескольким предметам, оказалось, с этими предметами можно на экономиста, подал документы и прошел на бюджет. То-то все радовались! Мать, бабки. Отметили. Ну а потом я спокойно лег, телефон отключил, чтоб никто не трогал. А чего, делать-то ничего не надо.

Вскоре мать обратилась к психиатру. Пришел дядька, долго с ней разговаривал, потом со мной. Сказал, не нравится мне его, то есть мое, мышление, и выписал какие-то таблетки. Но ничего не изменилось. Мать еще куда-то меня возила. А я уже в ступор к тому времени впал, только лежал или лего собирал: одну классную машину, пушек у нее много было, всяких наворотов. Жил четко по расписанию, все делал по часам. Появились ритуалы. Они немного успокаивали. Посчитаешь там до десяти или покрутишь ручку несколько раз, прежде чем дверь закрыть, ну и всякое разное в таком духе, – и легче станет.

Потом на море поехали. Я сразу сказал: не хочу. Мать тоже не собиралась со мной ехать, но бабка ее уговорила: мол, внучку надо отдохнуть да оздоровиться. Ага. Я там как приехал, так и отсидел на стуле десять дней. С перерывом на сон и еду. Говорю же, мне так было лучше. Иногда лежал.

Ну а как вернулись, так мать меня сразу в психушку и отвезла. Ничего страшного я там не увидел. Больница как больница. Медсестры все хорошие, кроме одной, старой. Вот где была редкая мразь. Людмила звали, отчество забыл. Санитары в основном нестрашные. Шпыняли иногда некоторых, но не сильно и не часто. Была одна палата, правда, где совсем край: чисто овощи лежали. Но остальные все почти нормальные ребята: кого военкомат отправил, а кто и вправду заболел. Лежал я сначала пару дней в общей палате, там много людей, дверей нет, туалет один, где многие курят. Мне было как-то все равно, но больше хотелось быть одному. Мать попросила, и на третий день меня перевели в платную, маленькую, правда, зато один. Кололи мне что-то, таблетки давали, но я как лежал, так и лежал. Недели три где-то. Заторможенный был, ходил шаркая, как старик. Не ел почти. Мать приезжала и рыдала, глядя на меня. А потом или эти лекарства подействовали, или новое стали давать, но стал я потиху подниматься, настроение появилось. Теперь-то я знаю, что бывает состояние, когда его вообще нет. Так что, если у вас плохое настроение или негативные эмоции, радуйтесь: вы здоровы.

Через пару недель меня выписали. Мать забирала, довольная была, что я как нормальный вроде. Ходил, говорил, отвечал на вопросы…Лекарства, конечно, принимал, сказали, пить их надо минимум два года. Ага, сейчас.

Первым делом я побежал к свои пацанам. Мы сразу купили дезиков, сначала было клево! А потом я умер.

# УРСЯ

– Мама! – Лизка захлебывалась в трубку.

Если так орет, пиши пропало: что-то натворила или собирается. Обреченно, но важно (родители подростков знают, как это) я спрашиваю:

– Что случилось?

– Мы нашли щенка!

– Где?

– У бабушки во дворе!

И моя тринадцатилетняя дочь сбивчиво рассказывает про несчастного щеночка, который плачет в бабушкином дворе, забившись под колесо чьей-то машины.

Я безжалостно каменею: у нас есть Милочка, и нам никто не нужен, будь он хоть трижды сирота.

– Ну отнеси его бабушке, – предлагаю я, прекрасно зная, как на такой щедрый подарок отреагирует дедушка.

– У бабушки мы уже были! – с готовностью тараторит Лизка, отпихивая друзей от своего мохнатого трофея: – Боря, не трогай! Ну вот, бабушка дала ему молока и сказала, чтоб мы уматывали, пока дед не пришел.

– Ясное дело, – ворчу я и наношу упреждающий удар: – К нам нельзя, у нас Малишка.

Малишка – русский охотничий спаниель – любимое существо с длинными ушами, глазами Наоми Кэмпбелл в лучшие годы и повадками заядлой неврастенички.

– Я знаю, мама! Я нам и не предлагаю! Давай к Наташке!

Наташка – мой верный друг и большой любитель всякой живности. Правда, после трагических историй, произошедших с ее питомцами, она раз и навсегда зареклась заводить кого бы то ни было. Но ведь передержка – другое дело, это всего на пару недель, пока не найдем новых хозяев. Решено!

– А это идея! – поддержала я Лизку.

Вообще мы с Лизкой – те еще свахи из оперы «без меня меня женили», и если кандидатура жениха всегда была неизменна (это Наташка), то невесты частенько менялись: например, барахло для дачи, которое жалко выбросить, просьбы типа «кто, если не ты», а теперь вот щенок... Но в данном случае «невеста» оказалась более чем: очаровательный палевый комок с черной мордочкой и толстенькими белыми лапами, похожий на щенка кавказской овчарки, был неотразим. Увидев щенка, я тут же вырвала его из цепких дочкиных рук и нежно прижала к себе, после чего мы на всех парах понеслись к моей подруге.

Открыв дверь, Наташка вытаращила глаза, а ее руки непроизвольно

потянулись к щенку. Я не стала сопротивляться и сунула ей собаку.

Пока Лизка в десятый раз самозабвенно пересказывала историю своей находки, а Наташка, не слушая ее, так же самозабвенно прижимала ее к груди, я деловито осматривала содержимое Наташкиного холодильника. Я всегда так делаю, не дожидаясь приглашения. Во-первых, оно может и не последовать, а во-вторых, так гораздо быстрее.

Засунув в рот кусок колбасы, я понеслась в комнату, откуда раздавался рык нашего обычно спокойного «жениха»:

– Лиза, отойди от него! Ты не видишь, он боится?? Не трогай! Выйди вообще!

Оказывается, Наташка спустила щенка на пол, тот со страху тут же юркнул под кровать, а Лизка яростно пыталась его достать, пугая еще больше.

НАДУТАЯ ЛИЗКА НЕХОТЯ ВЫШЛА ИЗ КОМНАТЫ, И Я УВИДЕЛА НАТАШКУ, КОТОРАЯ, ЛЕЖА НА ПОЛУ, ТЩЕТНО ПЫТАЛАСЬ ВЫМАНИТЬ ЩЕНКА ИЗ-ПОД КРОВАТИ…

Через неделю Наташкины родители приехали с дачи и слегка удивились мохнатому сюрпризу. Вернее, слегка удивился только папа, чего нельзя сказать о маме. Но Наташка уверила ее, что такие прелести, как шум, шерсть и лужи, – это ненадолго и совсем скоро хозяин будет найден, мы, мол, уже дали объявление. Об истории появления в доме щенка она благоразумно умолчала, чтобы не искать ответа на резонный вопрос, который бы, скорее всего, задала мама: почему бы, собственно, тому, кто нашел щенка, самому его не приютить?

Объявление мы действительно сочинили, и, на наш взгляд, оно было вполне душераздирающим: «Найден чудесный щенок кавказской овчарки! На вид два месяца, очень красивый! Он вырастет и станет отличным охранником! Дорогие люди! Просим всех с неравнодушным сердцем откликнуться на наше объявление! Себе оставить не можем, так как уже есть питомцы. Привит и ухожен».

И действительно, несколько «дорогих людей» даже позвонили. Но, увы, Наташка уже не могла расстаться с тем, кого так неосмотрительно приютила неделю назад. Хотя говорить об этом маме она почему-то не торопилась.

За пару недель до этого в наш город приехала Мишель. Мишель – француженка, ей за шестьдесят. Она некрасива, напориста и полна энергии, а ее муж – любви к ней и денег. Это счастливое сочетание помогает супругам совершать регулярные вояжи на автомобиле по всему миру, преодолевая огромные расстояния.

В одно из этих путешествий они приехали сюда, где их ждали беларусские подруги, учителя французского, с которыми я по роду своей тогдашней работы неоднократно сталкивалась. Так мы и познакомились. Потом я попала на одно школьное мероприятие, которое проводила Мишель и куда я прихватила Наташку.

Мишель увлеченно рассказывала детям о природе Франции. Она показывала картинки с изображениями животных, а потом что-то горячо говорила по-французски. И если дети, изучающие французский, с горем пополам, но понимали ее, то мы с Наташкой ориентировались исключительно на картинки. Какая разница! Мишель – смешная, колоритная тетка, не все ли равно что она несет. Я искренне радовалась возможности легально прогулять работу.

Тем временем Мишель показывала картинку с медведем:

– Урс!

Я громко спросила у Наташки:

– Урс – это что, медведь?

Я засмеялась несоответствию громоздкого русского слова «медведь» и его изящного французского аналога. Тут Мишель, рассерженная явным нарушением дисциплины, быстро подлетела к нам, ткнула артритным пальцем в картинку и сердито повторила:

– Урс! Урс!

Мы с Наташкой переглянулись и, вместо того чтобы скромно опустить глаза, громко захохотали. Мишель негодующе сверкнула на нас из-под очков и унеслась обратно к доске.

Через неделю я навестила новосела.

Круглые янтарные глазки весело смотрят на меня из-под смешной, торчащей, словно маленький фонтанчик, челки.

Мы решаем, как назовем щенка, и перебираем разные варианты. Черная мордочка смутно напомнила мне одну картинку…

– Назовем его Урс! – воскликнула я. – Ты посмотри, он же вылитый медвежонок с картинки Мишель!

Наташка задумчиво пошевелила бровями:

– И правда похож. Давай. Урс – хорошее имя для мальчика.

– И необычное, – добавила я.

Но ветеринар, к которому мы привели его на прививку, был другого мнения насчет половой принадлежности Урса.

Деловито оглядев малыша и сделав прививку, он сел заполнять его паспорт:

– Так, сука… метис… Возраст – примерно 2 месяца. Кличка?

Пока Наташка открывала рот, я воскликнула:

– Как сука? Вы уверены?!

– Абсолютно, – строго ответил ветеринар и переспросил: – Кличка?

Мы ошарашенно переглянулись, и Наташка промямлила:

– Ну тогда Урся.

Но у нас оставался последний козырь:

– А чего это метис?! Разве это не кавказская овчарка?

Ветеринар внимательно посмотрел на щенка, потом на нас и невозмутимо сказал:

– Метис.

Так кавказская овчарка Урс превратился в беспородную Урсю.

Отсиживая месячный карантин после прививки, Урся не грустила без прогулок, прекрасно развлекаясь дома. Как все щенки, она обожала прыгать, бегать, есть и играть. Еще она обожала своих новых хозяев, чего нельзя было сказать о них, по крайней мере, о некоторых. Мама еще долго вспоминала обещание своей дочери пристроить собаку в хорошие руки...

Как все щенки, Урся также регулярно оставляла после себя кучки и лужицы, которые, если не вытереть их сразу, через короткое время сливались в озерца, превращая новый мамин ковролин, которым она очень гордилась, в заливные луга. Коридор был небольшой и темный, у мамы было плохое зрение, поэтому ее встречи со следами активной Урсиной жизнедеятельности происходили чаще, чем кому б то ни было хотелось. Сигналом этих встреч служили мамины вопли, то и дело раздававшиеся в самых неожиданных местах. Вслед за воплями неизменно следовал один и тот же вопрос: когда, черт возьми, заберут этого щенка?! В ответ Наташка быстро шла за тряпкой.

Однажды мы на кухне пили чай, когда из коридора раздался очередной душераздирающий крик. Наташка горестно подняла говорящие брови, с досадой пробормотала: «Сейчас начнется «Мой бедный ковролин, мой бедный ковролин»» – и рысцой побежала за тряпкой.

# АНТОСЬ УЛАСЕНКА

## ЗВОН ЗЬВІНІЦЬ ЗВАНЧЭЙ

*They will return: mankind will learn*
*New kinds of fear when they are here*
*They will reclaim all in their name*
*Hopes turn to black when they come back*
*Ignorant fools, mankind now rules*
*Where they ruled then: it's theirs again*
*«Carol of the Old Ones»*

Знайшлося б нямала такога, чаго Эзра Ольсэн ня ведаў. Але ў адным ён пераканаўся за шэсьцьдзесят тры гады напэўна: ніякіх цудаў не бывае. Ні на сонцаварот, ні калі яшчэ. Сусьвет халодны і абыякі да чалавечых жаданьняў і памкненьняў. Маральнага кодэксу ён ня мае. Усё зьмяняецца адно на горшае.

Эзра агледзеў надмагілак пад нагамі. «Я – Провід», вытыркаўся надпіс з-пад сьнегу. Вось і гэты чалавек, што ўзапраўды быў божым провідам, усё жыцьцё вешчаваў прыйсьце Вялікіх Старцаў, але так і не прычакаў іх. Памёр у галечы й безьвесьці. А мусіў бы стацца шчырым праракам і зьвестуном Праўды. Якраз дзякуючы яму сям'я Ольсэнаў захавала памяць і веру продкаў праз хаос дваццатага стагодзьдзя. Штогоду напярэдадні Ёля Эзра прыходзіў да ягонае магілы.

Дый куды б яшчэ яму хадзіць у такі дзень: жонка даўно спачыла ў рытуальным полымі, дзеці з унукамі паразьехаліся. І хоць жылі недалёка – у Данвічы ды Аркгэме, – наведваліся да старога зрэдку. Апошні раз завіталі на Бельтэйн пазалетась.

Ён ня меў пэўнасьці, ці зьберагуць яны айчызную спадчыну, і моцна перайма ўся з тае нагоды. Аджа іхныя продкі прыйшлі ў гэты край з далёкіх земляў на Поўдні. Прыйшлі яшчэ да таго, як сюды прыплыў першы карабель. Да таго, як узьнікла Плімуцкая калёнія. Іхны род заўжды быў нешматлікім і пачуваўся чужым у Новай Анґліі, а зь цягам часу повязь з былым усё вытанчалася, традыцыі чэзьлі. Ён застаўся хіба апошнім, хто пільнаваўся старых звычаяў.

Эзра ўздыхнуў, выпусьціўшы з роту воблачак пары, і разгледзеўся на бакі. Два дні таму з мора наляцела завіруха і ахінула Кінґспарт белым покрывам. Могілкі ляжалі на вяршыні ўзгорку ў цэнтры старога гораду. Цяпер яны ператварыліся ў казачны лябірынт: пад цяжарам сьнегу вербы схілілі галіны

да растрэсканых помнікаў і раскрышаных плітаў. З арачных вокнаў, што атрымаліся такім парадкам, была відаць ладная частка Кінґспарту: ад Саўтпойнту й Сьвінячае выспы ў Гарбэрсайдзе на ўсходзе да каляніяльных дамкоў Гілтаўну на захадзе. Вобач могілак на ўзгорку ўзносіла шпіль у вечаровае неба парафіяльная царква Сьвятога Міхаіла. Адтуль даносілася гамана й высьвечвалі бліскавіцы фаервэркаў. На другі бок могілак месьцілася псыхіятрычная лякарня Сьвятога Эразма, адкуль яго кагадзе выпісалі.

Неўзабаве прысьпее той час, усьведамляў Эзра, калі і ён спачне на гэтым пагорку – пахавальнага вогнішча яму ніхто не складзе. Ён разумеў, што пры жыцьці не пабачыць таго, дзеля чаго столькі разоў праводзіў бясплённыя абрады ў начных лясох Білінґтану, не парадуецца перамозе на свае вочы.

Эзра пачуваўся жаўнерам у часе вайны на захопленай тэрыторыі. Жаўнер адчувае непазьбежнасьць перамогі, але так жа сама чуе, што да яе не дажыве. І ўсё ж адкласьці зброю значыць здрадзіць нашчадкам, пазбавіць іх будучыны. На вайне трэба добра выконваць сваю працу – упарта, бяз скаргаў. Брудавозная, няўдзячная справа – але што зробіш.

Зь міжвольным уздыхам Эзра прыгадаў бесклапотныя часіны, калі быў не спаняверанім культыстым з утомаю ўваччу, а маладым акалітам з палаючым сэрцам. Прыгадаў першую ахвяру на скале ў сьвятле поўні, невымоўныя рытуалы перад зялёным полымем халодных пячораў, аднагучныя сьпевы ў мове Акла… Прыгадаў, як палка жадаў узьяднацца з сваім богам у дзяцінстве.

Няпрошаныя ўспаміны зрабілі яго надта сэнтымэнтальным. Эзра закінуў галаву – шыйныя хрыбеткі глуха захрабусьцелі – і глянуў у марознае зорнае неба. Прыжмурыўшыся, знайшоў Альдэбаран і зьвярнуўся да свайго бога ў гарачай малітве. Ён разумеў, што гэта цалкам пазбаўлена сэнсу, што цудаў не бывае і ён папросту блазнуе – але ўсё адно паціху зьвяртаўся да Валадара Гіядаў. «Пабачыў бы мяне зара' доктар Пікэрынґ», – думаў Эзра. Прастадушны акаліт унутры яго паранейшаму мроіў пра туманныя віры Дэмэ й возера Галі, пра недасяжныя воблачныя хрыбты, над якімі праплывае Аляр і дэманічны Альголь. Акаліт унутры хацеў верыць.

Проці ночы бралася на мароз. Кончыкі пальцаў нямелі. Эзра схамянуўся і пашыбаваў рыпучым сьнегам да выхаду.

На пляцы перад царквою тлуміліся мясцовыя. Тут залілі коўзанку, і цэлыя сем'і бавілі суботні вечар на лёдзе. У паветры лунаў дзіцячы сьмех і вясёлая гамана. Ад ятак, што атачалі коўзанку, далятаў пах глінтвайну і цынамону. На сходах царквы ўбраныя дзеці сьпявалі калядкі пад наглядам сьвятара. Гледачы падпявалі й пляскалі ў ладкі.

Ён скрывіўся. Дурны люд! Усе іхныя вясёленькія калядныя прыпеўкі й забаўкі папраўдзе зьвернутыя да цёмных паганскіх часоў, якімі яны пагарджаюць. Сатурналіі, Natalis Invicti Solis, Модраніхт – не, пра гэта яны ня згадваюць. Што за крывадушніцтва. Затое славяць свайго псэўдабога, прыдуманага рымскімі рабамі, і нават ня могуць сьцяміць, што нарадзіцца ўзімку, паводле ўласных жа сьвятых кніг, ён аніяк ня мог. Ня памятаюць, ці памятаць ня хочуць, пра Мітру, Думузі ды іншых, зь якіх скампілявалі свайго бесхрыбетнага пакутніка. І гэта ня кажучы пра багоў запраўдных, што йснавалі да прыходу чалавецтва і існавацьмуць па ягоным сыходзе.

Іхнае «сьвята дабрыні, любові, міласэрнасьці й спагады» старэйшае за чалавечы род. І нічога добрага ды міласэрнага ў ім нямашака. Не, гэтыя невукі ня ў змозе адмовіцца ад антрапацэнтрычнае пэрспэктывы; няздольныя зразумець, што ў маштабе

Сусьвету – а толькі такімі маштабамі й варта мысьліць – чалавецтва меншае за пылінку.

Эзра з агідаю цыркнуў і збочыў за рог, на Чорч-стрыт. Ля сьцяны насупраць сядзеў жабрак у запэцканых зямлёю рызманах і нешта мармытаў, працягваючы руку ў пустату. Эзра ніколі не падаваў міласьціну, але тут раптам спыніўся, убачыўшы твар небаракі.

Той ільсьніўся як нашмараваны воскам і нават на пагляд здаваўся мяккім, рыхтык засьмярдзелы сыр. Пад скураю нібыта чэрві варушыліся: яго ўвесь час перасмыквала. Разам з тым страшнаватае відовішча зачароўвала і не адпускала.

ГЭТА БЫЛО НЕ АДЗІНАЕ ДЗІВА – ЖАБРАК НАГАДВАЎ ТАГО, ЛЯ ЧЫЁЙ МАГІЛЫ ЁН ТОЛЬКІ ШТО СТАЯЎ. ТОЕ Ж ВЫТАРКЛАЕ ПАДБАРОДЗЬДЗЕ, ТОЙ ЖА ПРАНІЗЬЛІВЫ ПАГЛЯД ЯК НЯ З ГЭТАГА СЬВЕТУ. ЭЗРА НАДАСТАВАЎ З КІШЭНІ ПРЫГАРШЧЫ МАНЭТАЎ, ПЕРАЙШОЎ ДАРОГУ І З АСЬЦЯРОГАЮ ПРАЦЯГНУЎ ЖАБРАКУ.

Той прыскочыў і схапіў яго за руку. Дотык быў склізкі й непрыемны, не раўнуючы сьлімак прысмактаўся. Эзра напружыўся і пацягнуўся да боту. Другою рукою жабрак расьціснуў ягоныя пальцы і ўклаў у далонь скамечаную паперчыну. Манэтаў так і не крануў.

– N’ghan-ka fhtagni-kar’n gha’l, n’ghan-ka fhtagni-kar’n gha’l… – даносілася з-пад рызманоў.

Эзра вырваўся і пасьпяшыў, не азіраючыся, сысьці ад блазна. Яго нудзіла ад гідлівасьці. Хацелася вымыць руку. Ён нахіліўся і зачэрпаў правіцаю сьнегу з прыдарожнага гідранту. Паперчыну пераклаў у кішэню: выкінуць яе чамусь так і не наважыўся. Адышоўшыся падалей, да Гіл роўд, ён здыхаўся і разгарнуў пад ліхтаром скамечаны аркуш. І струпянеў.

Жоўты знак.

Эзра схапіўся за сэрца і пачашчана задыхаў. Гэтага ня можа быць. Не, не, не. Немажліва. Лепей нават і ня думаць. Ён прымусіў сябе супакоіцца і далей перастаўляць ногі. Не на шэсьцьдзесят чацьвертым жа годзе. Да дому на Бёрч-корт ён ішоў нібы ў сьне. Не зважаў на аднапавярховікі абапал дарогі, сьвяточна ўпрыгожаныя гірляндамі; на гномаў, аленяў і Сантаў у дварох перад імі; на вянкі з амялы на дзьвярох. Уваччу стаяла роўнядзь возера Галі, не турбаваная ані ветрам, ані рабізною; над возерам распасьціраліся блізкія і так вабныя Гіяды. Вока Быка зазірала проста ў душу. Эзра чуў, як у міжзорнай бездані Хастур шапоча ягонае ймя.

Вяртаньне ў рэальнасьць сталася раптоўным.

У вокнах дамку на Бёрч-корт 3В гарэла сьвятло. Прыхадні нават не хаваліся. Гульня ценяў паказвала на тое, што іх некалькі. Эзра дастаў з правага боту абсыдыянавы нож і, прыгнуўшыся, скіраваўся да чорнага ходу.

Прачыніўшы дзьверы ў калідор, ён убачыў малютку Доці на падлозе ля статуі Мі-го. Яна таксама згледзела яго і зараўла. Калі яны бачыліся ў апошні раз, ёй было ня больш за год. З гасьцёўні на роў выбеглі бацькі: Арлін з Кейдам, ягоным унукам.

– Ну чаго ты, Доці? Не пазнала прадзядулю? Гэта ж старычына Эзра.

– Эсла? – малютка засаромлена ўсьміхнулася, прыкрыла твар рукамі й вярнулася да гульні зь Мі-го.

З кухні выйшла Джарджына з Блэйнам. Адтуль далятаў пах часныку і гвазьдзіку. Нешта смачна шкварчэла.

– Мы скарысталіся сваім ключом, тату. Сьвяточная вячэра вось-вось згатуецца. Ўэлдан паехаў па выпіўку, неўзабаве будзе.

Эзра не знаходзіў словаў ад радасьці. Цішком схаваў нож за пазуху і моўчкі абняў дзяцей і ўнука зь нявесткаю.

– Мы чакалі цябе раней. На дварэ мароз. Ты дзе сноўдаўся?

– Ды зладзіў вечаровы шпацыр. Карысна ў маім веку.

Дачка ўважліва і з турботаю ўглядалася ў яго, не адпускаючы рукі:

– Нам тэлефанавалі зь лякарні. Чаму ты не паведаміў?

– Глупства, нічога сур'ёзнага. Няма пра што размаўляць.

– Доктар Пікэрынґ казаў зусім іншае.

– Шмат ён ведае, гэны доктар Пікэрынґ. Нават уяўленьня ня мае аб тым, што адбываецца.

Блэйн і Джарджына з разуменьнем пераглянуліся міжсобку. Эзру гэта не спадабалася – ён ужо бачыў падобныя пераморгваньні, – але сварыцца ў такі вечар не хацелася.

– Добра, годзе абмяркоўваць мае старэчыя болькі. Найдаўжэйшая ноч году не для таго прызначаная. Нука, да сталу!

Сям'я Ольсэнаў села пры вялізным круглым стале ў гасьцёўні. Да прыходу Эзры яны пасьпелі ўпрыгожыць пакой гірляндамі з засушаных ружаў і мяшэчкамі пахучых зёлак. Джарджына вынесла гарбузовы суп, пюрэ, запечаную ў кляновіку моркву й шпінатную салату з ігрушамі ды грэцкімі гарэхамі. У цэнтры разьмясьцілася сакавітая індычка з журавінавым соўсам. Калі вярнуўся Ўэлдан, усе павіншавалі адно аднаго з сонцаваротам і ўзяліся за ежу.

Эзра расслабіўся: ён сядзеў у сваім доме пры сьвяточным стале зь дзецьмі і падтрымваў нязмушаную размову. Няма пра што хвалявацца. Галоўнае – ня думаць пра Жоўты знак у кішэні.

Калі ад сьлівавага пудынґу не засталося й чвэрці, Джарджына спахапілася й палезла ў кайстру:

– Пустая галава! Аляйна ж перадала табе падарунак.

Ягоная ўнучка, якая не змагла прыехаць праз удзел у канфэрэнцыі, працавала ў Дэпартамэньце літаратуры Міскатоніцкага ўнівэрсытэту.

– Сказала, выпадкова натрапіла ў архівах. Яна ведае, наколькі для цябе гэта важна.

Джарджына працягнула яму пацёртую кніжыцу ў мяккай вокладцы.

«Кароль у жоўтым».

Другі раз за дзень Эзра аслупянеў. Забароненая п'еса, пра якую ён чуў столькі жахаў, паляваў на яе, але так і не знайшоў дагэтуль, – гэтая п'еса самая йшла ў рукі. Позна адступацца.

Павагаўшыся, ён разгарнуў кнігу і паглыбіўся ў першы акт… І ўжо не адрываў вачэй ад пажоўклых старонак, аж пакуль не дачытаў да канца. Нейкаю часткаю сьвядомасьці ён улоўліваў вясёлыя размовы над вухам, звон келіхаў, траскатню малюткі Доці, выбухі бэхалак на дварэ. Але сваёю істою быў далёка – у чароўнай Каркозе пад знакам Альдэбарану.

Ён бачыў агромністую поўню за ейнымі вежамі і чорныя зоры над горадам. Бачыў, як спараваныя сонцы патанаюць у возеры Галі. Сачыў за жахліваю трагедыяй, якая разварочвалася ў другім акце. Разам з Касільдаю й Камілаю чакаў зьяўленьня Бледнае Маскі. Спазнаў тайну Гіядаў і ўпэўніўся, што неўзабаве ўвесь сьвет схіліць галаву перад чорнымі зорамі, што ліюць сваё сьвятло на недасяжную сьмяротным Каркозу; а Кароль у жоўтым навек скрые Ітыль і ўзыдзе на трон.

Эзра адчуваў сябе шчасьлівым. Вось яно, нарэшце, запраўднае – дзеля чаго варта было трываць усе гэтыя гады. Ягоныя мроі перарваў Блэйн:

– Тату, а чаму б нам усім разам не схадзіць у Морскую царкву і ня ўскласьці ёльскія дарункі Вялікім Старцам?

Эзра разгубіўся. Вось чаго ён не чакаў ад сваіх шалапутных дзетак,

дык гэта такое прапановы. Нават ня мог прыгадаць, калі тыя ў апошні раз адведвалі «сваю» царкву на беразе затокі. Дзеткі, відаць, прачыталі ўсё на ягоным твары.

– Ты што, думаў, мы забыліся? Думаў, не перадамо Веду сваім дзецям? Ну-ка, Доці, скажы прадзядзулі сама галоўныя словы.

Дзяўчынка забралася Эзру на калені і, адвёўшы пагляд, урачыста прадэклямавала:

– K'aemn'h kh'rn. K'aemn'h kh'r. Kaemn'h kh'nnnu!

Зычнае булькатаньне лілося з Доці натуральна, як ваніты. Гартанную змычку й ларынґальныя зычныя яна вымаўляла так, быццам юґоцкая была яе роднаю мовай.

– Якая ты ў нас малайчынка. Заслужыла на цукерку.

Ўэлдан тым часам выйшаў на кухню і вярнуўся зь дзьвюма бутэлькамі «Шаґоцкага Асаблівага».

– Памятаю, яно заўжды табе падабалася. Заехаў па яго на бровар Карлтана. То падымем тост?

Эзра ўзяў піва, Ўэлдан наліў астатнім віна. Усе падняліся. Арлін, Кейд, Джарджына, Ўэлдан і Блэйн хорам прамовілі:

– Не памёр яшчэ той, хто адвеку ў сьне.

Эзра расчуліўся, пусьціў сьлязу і скончыў:

– Прамінуць вякі – сьмерць самая спачне.

Па першай бутэльцы адкаркавалі другую, потым нетаропка пілі «Вадаграі вар'яцтва». На закуску Джарджына вынесла марынаваныя мацалы васьмінога.

Агульную весялосьць перарваў гучны звон знадворку. Вось яно, падумаў Эзра, яно самае. Не зважаючы на пратэсты дзяцей, накінуў палітон і бегма выбег надвор.

Ён кінуў быў пагляд на парафіяльную царкву ўгары, але звон выразна даносіўся з боку мора. З навакольных дамоў высыпалі суседзі. Бабуля Орнэ ўзрушана пракрычала з ґанку ў зорнае неба:

– Ph'nglui mglw'nafh Cthulhu R'lyeh wgah'nagl fhtagn!

Эзра безуважна адказаў:

– Узапраўды чакае й сьніць.

Спускаючыся Кабатажным завулкам, ён адчуваў, што зямля ходзіць ходырам. Гэта пачатак канца, сумневаў не заставалася.

Нехта ўвесь час дыхаў у сьпіну – прынамсі, так яму падавалася. Калі азіраўся, нікога ня бачыў. Хіба што краем вока раз-пораз заўважаў невыразную фігуру размытых абрысаў. Эзра памацней сьціснуў Жоўты знак у кішэні.

Звон зьвінеў усё грамчэй – вуркатлівы, глыбокі, пранізьлівы. Насустрач бег капітан Рычард Гольт, знаёмы па лякарні Сьвятога Эразма, і дзяліўся з усімі сваёю радасьцю:

– Як і прадказвалі эфэмэрыды, гэтаю ноччу плянэты выстройваюцца ў апошні парад. Яны вяртаюцца. Яны ўжо тут. З намі.

Эзра задзёр галаву. Нябёсы над Кінґспартам расчыняліся. Месца зораў заняло нагрувашчваньне залацістых сфэраў, зь якіх высоўваліся гігантычныя мацалы. Яны выкручваліся й чапляліся за верхавіны шматпавярховікаў даўнтаўну, адрываючы іх і падымаючы ў неба.

Вуліцамі гойсалі ганчакі Тындала. Жудасныя пачварыны з даўжэзнымі высалапленымі языкамі накідваліся на мінакоў і як вокам міргнуць разрывалі на шматкі. У паветры вісела жаночае віскатаньне. Эзра спускаўся да затокі, не зважаючы на гармідар.

На сходах Морскае царквы ля самага берагу стаялі культыстыя, апранутыя ў чорныя балахоны. Яны натхнёна пяялі на матыў найвядомейшае ў сьвеце калядкі:

*Азатот, Азатот*
*Азатот – кароль*
*Усясьвету валадар*

*Вар'яцтва нам прынёс, гэй!*

Найвышэйшы культысты трымаў у выцягнутых руках Зіхатлівы трапэцоэдар. Гурма людзей перад ім углядвалася ў грані барвянага каменя і хорам адлічвала, колькі пячацей засталося з'ырваць сьляпому шалёнаму богу.

– Адзінаццаць!.. Дзесяць!.. Дзевяць!

Па зьнікненьні чарговае пячаці ўсе пляскалі ў ладкі. Шматлікія пары замілавана цалаваліся.

Эзра завярнуўся да мора. Звон відавочна даносіўся з глыбінь.

Ходнік рэпаўся пад нагамі. Паўсюль у зямлі зеўралі правальлі. Над берагам віўся туман. Скрозь яго ўдалечыні былі відаць абрысы мёртвых гарадоў, якія павольна падымаліся з-пад вады. Адна па адной накатвалі моцныя хвалі. Вышэй за спрахлыя дахі з мора ўздымалася чорная званіца храму.

Утроп затанулага гораду з туману зьяўляўся ягоны гаспадар – цыкляпічных памераў сьлізкая істота, што нагадвала рыбіну з рукамі й нагамі.

Сям'я Фішэраў з Эбат-роўд выбегла на пірс, спрытна разьдзелася – і дзеці, і дарослыя былі цалкам пакрытыя лускаю – і з воклічам «Бацька Даґон!» сіганула ў прорву.

Эзра зноўку адчуў, што за сьпінаю нехта стаіць. Абярнуўся і ўбачыў перад сабою Валадара Гіядаў, Хастура Невымоўнага. Пад капюшонам жоўтага шаўковага ўбраньня можна было разгледзець сусьветы з-па-за межаў нашага ўласнага, месцы немажлівыя і няўяўныя, далёкую халодную Каркозу…

Кароль у жоўтым падняў далонь.

Эзра Ольсэн з удзячнасьцю ступіў у абдоймы вар'яцтва.

# ЛІСТ ДА САТАН КЛЯЎСА

О шаноў~~ная~~ны Сатана!

Я хачу, каб гэты ліст патрапіў да цябе, хаця Джэй Сі кажа што нуй бздура, але я ўсё адно думаю што патрапіць. А калі яго расьпячатаюць твае памагатыя чэрці, дык хай перададуць табе, але я ўсё адно напісаў на капэрце што асабіста для Сатаны.

Сатана, я спачатку хацеў быў напісаць Санта Кляўсу, як раней, але Білі даў мне пстрычку і назваў ёлупнем. Білі мой старэйшы брат, ён ужо вялікі і б'е мяне, як назаву яго Білі, але калі ў добрым гуморы, можна зваць проста Білам, а так увогуле Ўільямам. Ён сказаў што лепш бы ты напісаў Сатан Кляўсу, а ня Санта, прытырак, га-га-га. Гэта цытата. Білі дурань, але я яго паслухаўся.

Я штогод пісаў Саньце, але мамцы лягчэй ня стала. Ён заўжды пакідаў мне ў падарунак робленыя швэдры (колкія!) і вопратку, а ня тое што я прасіў. А яшчэ Білі кажа што ён пазёр і педзік у чырвоным каўпаку і ня йснуе. Я ўсё ж такі думаю Санта йснуе. Але ты йснуеш напэўна, я ведаю.

Я бачыў у Білі кніжку, яна завецца «Д'ябал», а аўтар Рабэр Гуё, ён француз. А Д'ябал і Сатана гэта адное й тое ж, як Санта Кляўс і Сьвяты Мікалай. Там на вокладцы ты сядзіш голы і ў цябе вялікая піпірка да калена, і яна ўся пазарасла валосьсем, яе амаль не відаць. А ў мяне там валосьсе яшчэ не расьце, а ў Білі ўжо ого-го, я бачыў, як мы ўлетку хадзілі ў паход і купаліся голыя, а Джэй Сі кажа ў яго запраўдны гушчар, але я ня веру – ён заўжды прыбрэхвае, а потым кажа што не.

Сатана, а калі ты надзяеш нагавіцы, ты ў якую калашыну запраўляеш матню – у правую ці ў левую? А ці носіш шорты? У пекле ж мусібыць горача, Білі кажа там лява і гіена вогненая. А твая піпірка тырчыць з шортаў ці як? Калі тырчыць, дык відаць сьмешна выходзіць.

Ты не падумай, я тут сьмешкі ня строю. Проста цікава.

А яшчэ я слухаю KISS. Я ўзяў кружэлку ў Білі, ён кажа дзіцячы садок, а мне падабаецца. І я ведаю што значыць KISS: Kings In Satan Service. То бок ты йснуеш, я ведаю. А яшчэ ў Beatles ёсьць белы альбом, а айцец Філіпс называе яго д'ябальскім альбомам. Я люблю Beatles, а Білі кажа дзіцячы садок. Айцец Філіпс кажа Black Sabbath заключылі пакт з Д'яблам, а Джымі Пэйдж цемрашал і чорны маг. Ну ня ведаю.

Білі басіст. У іх з Джэфам і Трэвам свой гурт. Назву ня памятаю, нешта такое, ну, мудрагелістае. Білі кажа яны валяць акультны дэзьняк флёрыдскае

школы. (Папраўдзе, дык Білі і граць не сказаць каб умее.) Але гэта між намі, Сатана. Дзеўкі жаж вакол музыкаў труцца, а гэта галоўнае, ну ты ў тэме. І ляґатып у іх прыгожы, там пэнтаґрама і крыжы перагорнутыя. Білі кажа па Сатане!

Потым яшчэ Джэй Сі прынёс быў Сатанінскую Біблію да Тома на выходныя. Яе напісаў Антон Ля-Вэй, ён не француз, проста імя такое. Білі кажа ён пазёр і педзік. Білі дурань. Мы чыталі яе ў цемры, у нас была сьвечка. Джэй Сі кажа ён бачыў у нас за сьпінамі цень Люцыпара (то бок твой цень, Сатана!), але я яму ня веру. Я думаю гэта была Томава котка.

Таму я вырашыў напісаць табе, а ня Санта Кляўсу. Санта нудны. У маёй асадцы скончыўся атрамант.

А айцец Філіпс зь нядзельнае школы кажа што вы мусіце павярнуць свае сэрцы да Езуса і Езус ёсьць любоў. І мы мусім працівіцца спакусам Нячыстага (то бок тваім спакусам, Сатана!) і што на гэта здольны толькі чысты духам. Айцец Філіпс мне не даспадобы. Білі кажа ён пазёр і педзік у расе. Білі дурань, але як на мяне ён дакладна педзік.

На той вокладцы таксама ё голая цыцоха, яна сімпотная. Мы з Джэй Сі колькі разоў падглядалі за Джыні ў душы. У яе таксама цыцкі не бяды, але ўсё ж не такія вялікія. Джыні гэта сястра Джэй Сі, яна ўжо дарослая і нават старэйшая за Білі. Білі кажа курвяга, а яна кажа хай не распушчае рукі.

Санта Кляўсу я б не пісаў пра цыцкі. І пра піпірку таксама. Санта Кляўс – сьвятоша, яму бадай не даспадобы вялікія цыцкі. І ён заўжды пакідае мне швэдры. Відаць, ён яшчэ той нудзіла. Таму я й напісаў табе, Сатана.

Ужо неўзабаве вячэра, то далей буду пісаць хутка. Сатана, прашу на Каляды толькі аднаго: <u>РЭМІСІЮ</u> для мамкі. ~~І не такую, як тады~~ Цур, каб праз тыдзень яе зноўку не забралі. Мне самому нічога ня трэба. Хіба што ў Білі няхай усё будзе добра. У цуды ён ня верыць, заўжды паўтарае «No Presents for Christmas!» (Сам ведаеш чыя гэта песьня.) Хоць ён і дурань і б’е мяне, ён таксама хвалюецца за мамку. Ён ніколі не прызнаецца, кажа што мезантроп. Але я ведаю.

БІЛІ КАЖА ТЫ ВЫКАНАЕШ ЛЮБОЕ ЖАДАНЬНЕ, АЛЕ ПАПРОСІШ ДУШУ НАЎЗАМЕН. ЯК ТАБЕ ПАТРЭБНАЯ МАЯ ДУША, ДЫК Я ЗГОДНЫ. ЛЕПЕЙ ЖА З МАМКАЙ, ЧЫМ З ДУШОЙ.

У айца Філіпса пэўна вялікая душа, але ён педзік. І ён мне не даспадобы. Таму душа мне без патрэбы, дый у нядзельную школу хадзіць не падабаецца. Калі ў мяне ня будзе душы, дык і ў нядзельную школу хадзіць ня прыйдзецца, га? І плакаць я больш ня буду.

Білі кажа дамову з Сатаной варта замацоўваць крывёю. Бабка кліча вячэраць, то я падпісваюся крывёю з пальца (крыві я ўжо не баюся). Бывай, Сатана!

Навек твой,
~Гэры

P.S. Калі ласка, ня трэба швэдраў!
P.P.S. Я сур’ёзна.
P.P.P.S. <u>Доўга тэрміновую</u> рэмісію.